ЛіМ
Літаратура і мастацтва
ISSN 0024-4686
№48 (4643) 2 снежня 2011 г.

## У нумары:



**Спяшайцеся выпісаць «ЛіМ»**
*Для індывідуальных падпісчыкаў:*
**1 месяц — 15 000 руб.**
Падпісны індэкс — 63856
*Ведамасная падпіска:*
**1 месяц — 29 720 руб.**
Падпісны індэкс — 638562
Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў:
**1 месяц — 9 150 руб.**
Падпісны індэкс — 63815
*Льготная падпіска для ўстаноў культуры і адукацыі:*
**1 месяц — 21 950 руб.**
Падпісны індэкс — 63880

# Вітала святам Лунінеччына

**Леанід КУТЧЫК**

**На Лунінеччыне шмат хто можа расказаць даўнюю легенду, паводле якой рымскі паэт Публій Авідзій Назон, больш вядомы проста як Авідзій, на пачатку I стагоддзя да н.э. быў высланы ўладамі на тыя землі. Калі вам надарыцца пабываць у вёсцы Кажан-Гарадок, то знаўцы даўніны нават пакажуць Відушаву гару, на якой ён быццам і пахаваны. Хто ведае, магчыма, гэта і так, тым больш, што карані ў гэтага падання вельмі і вельмі даўнія. Знакаміты ж Уладзіслаў Сыракомля, талент якога раскрыўся ў паэзіі, быў і дапытлівым краязнаўцам. Пачуўшы гэтую гісторыю, ён нават напісаў верш “Авідзій на Палессі”. Праўда, увязаў ягоную смерць не з цяперашняй Лунінеччынай: “А паэт ва ўладаннях князёў Радзівілаў // У Давыд-Гарадку адышоў у магілу // I завецца гара яго імем дагэтуль” (пераклад Максіма Лужаніна).**

Легенда легендай, але ёсць нямала і таго, што куды бліжэй да нашых дзён, таму і не выклікае ніякага сумнення ў праўдзівасці. Канечне, самая яркая старонка ў культурным жыцці Лунінеччыны звязана з народным песняром Якубам Коласам. Канстанцін Міхайлавіч жыў у Лунінцы з першай паловы лістапада 1911 года да лютага 1912-га ў свайго аднакурсніка па Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі Вікенція Філіповіча, пра што сведчыць мемарыяльная дошка. У пасляваенны час пясняр бываў у Мікашэвічах, Сінкевічах. Лунінеччына прапісалася і ў біяграфіі Аляксандра Блока, Аляксея Мікалаевіча Талстога, Юзафа Крашэўскага... Некалі тут бываў нават Васілій Тацішчаў. Падчас службы ў войску ён выконваў на Палессі заданне Пятра I па наборы рэкрутаў. А яшчэ В. Тацішчаў клапаціўся пра пабудову рачной флатыліі.

Даўнія культурныя, літаратурныя традыцыі знаходзяць свой працяг. Найперш дзякуючы штогадоваму фестывалю “Лунінская восень”, што бярэ свой пачатак у вёсцы Лунін, якая, вобразна кажучы, маці самога Лунінца. Прынамсі, калі верыць “Краткому топонимическому словарю Белоруссии” (а не верыць яму нельга, бо аўтар яго — знакаміты вучоны Вадзім Жучкевіч быў знаўцам у гэтай галіне), назва “Лунін” тлумачыцца як вытворнае ад прозвішча Лунь. Лунінец — “название уменьшительное от имени с. Лунин, расположенного неподалёку от Лунинца. Благодаря строительству железных дорог Лунинец (маленький Лунин) превзошел по значению с. Лунин, именем которого назван”.

Пераўзышоў Лунінец Лунін, безумоўна, толькі па сваім гаспадарчым значэнні. Калі ж мець на ўвазе фестываль “Лунінская восень”, то менавіта з Луніна ён прыходзіць у Лунінецкі гарадскі Дом культуры, дзе ўручаюцца чарговыя літаратурныя прэміі імя Уладзіміра Калесніка Брэсцкага абласнога выканаўчага камітэта. Сёлета гэта адбылося пяты раз. Паводле сцэнарыя ўчымсьці знаёмага, але разам з тым не пазбаўленага сваёй адметнасці, непаўторнасці.



*Фота Кацярыны Яцукевіч*

Свята “Лунінская восень-2011” гэтым разам было прысвечана 120-годдзю з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча. Сардэчна сустракалі настаўнікі і вучні гасцей — пісьменнікаў Берасцейшчыны, а таксама тых, хто прыехаў з Мінска: супрацоўнікаў РВУ “Літаратура і Мастацтва” Алу Корбут, Таццяну Сівец, Алеся Наварыча, Алеся Марціновіча. З берасцейскай зямлёй у РВУ сувязі даўнія. Сведчаннем таму і спецыяльныя нумары часопіса “Маладосць”.

Удзельнікаў “Лунінскай восені-2011” вітаў сваім “Вершам на прывітанне” юны Дзяніс Буслёнак з горада Брэста:

*Добры дзень, сябры-паэты,*
*Вітае Лунін святам зноў:*
*Яго дыханнем мы сагрэты,*
*Вытокам нашых палкіх слоў.*

*Для вас расчынены ўсе дзверы,*
*У сэрцы кожным дабрыня,*
*Мы любім вас,*
*у шчырасць верым,*
*Бо вы — як блізкая радня.*

Для роднасных душ расчыніў свае дзверы і Лунінецкі гарадскі Дом культуры, дзе свята працягвалася. Удзельнікаў яго і гасцей вітаў намеснік старшыні аблвыканкама Леанід Цупрык, які адзначыў, што прысуджэннеберасцейскімпісьменнікам штогадовых прэмій за лепшыя творы — гэта не проста падтрымка пэўных аўтараў, а і падзея ва ўсім духоўным жыцці рэгіёна. Л. Цупрык уручыў прэміі сённяшнім пераможцам, а гэта паэты Мікалай Кавалевіч і Аляксандр Корнеў, празаік Мікалай Елянеўскі, дзіцячы пісьменнік Міхаіл Туруноўскі. Дыпломы атрымалі пераможцы літаратурнага конкурсу дзяцей і моладзі, што праводзіўся сумесна з філалагічным факультэтам Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна. Старшыні Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Анатолю Крэйдзічу, а таксама Аляксандру Валковічу і Уладзіміру Сітуху былі ўручаны Ганаровыя граматы аблвыканкама і падзякі губернатара Брэсцкай вобласці Канстанціна Сумара.

Наколькі багатая на таленты берасцейская зямля, лішні раз засведчыў канцэрт, у якім выступілі калектывы мастацкай самадзейнасці. “Вандроўнікі”, “Шляхцічы”, “Маленькія шляхцічы”, “Званочкі” валодаюць высокім выканальніцкім майстэрствам, але немалаважна і тое, што яны ў свой рэпертуар уключаюць творы, характэрныя акурат для гэтага рэгіёна. Што, несумненна, яшчэ больш прыцягвае ўвагу да іх выступленняў.

“Лунінская восень” зачыніла свае дзверы. Да чарговага фестывалю — цэлы год. Верыцца, што ён будзе гэткім жа плённым, як і папярэднія. I да 20 ўладальнікаў літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Калесніка — якраз столькі пісьменнікаў уганаравана за пяць гадоў — далучацца новыя.

***На здымку: Мікалай Елянеўскі.***

# Магілёў — назаўжды

**Таццяна КУЗНЯЧЭНКАВА**

Не проста на ўсё жыццё — назаўсёды — знітавала Вялікая Айчынная вайна Канстанціна Сіманава і Магілёўшчыну. Над Буйніцкім полем, дзе, як казаў сам пісьменнік, ён мог напаткаць сваю смерць, Сіманаў завяшчаў развеяць свой прах — знайсці вечнае супакаенне.

У 1980 годзе, праз год пасля смерці К. Сіманава, у Магілёве прайшлі першыя чытанні, што сталі насіць яго імя. Пасля яшчэ два лістапады сустракаліся родныя, сябры і аматары творчасці сусветна вядомага паэта, пісьменніка, журналіста. Доўгі час чытанні не праводзіліся, ажно да 2005 года. Сёння Міжнародныя Сіманаўскія чытанні — трывалая традыцыя. Іх арганізуюць “Русское общество”, Магілёўскі абласны і гарадскі выканаўчыя камітэты пры падтрымцы Пасольства Расійскай Федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь.

На ўсіх сустрэчах, якія б мы ні згадалі, нібы прысутнічае — нябачна, сціпла — сам Сіманаў. У залах — яго партрэты, нават голас, яго вершы, успаміны пра яго як чалавека і прафесіянала… Шмат гадоў у чытаннях бралі ўдзел людзі, што лепш за іншых ведалі асобу творцы — яго дзеці і сябры. Сёлета, на жаль, пра Сіманава расказвалі ў большай ступені тыя, хто можа прылічыць сябе да яго вучняў. Аднак некаторыя выступленні ўсё ж пачыналіся са слоў: “Мне пашчасціла асабіста сустракацца з Сіманавым…”, і гучалі яны асабліва цёпла і эмацыйна.

Падчас “круглага стала”, што прайшоў у межах Сіманаўскіх чытанняў, галоўная тэма была “Пісьменнік: свабода творчасці і грамадзянская адказнасць”. Асабліва часта ўзнімалася пытанне патрыятычнага выхавання моладзі. І вось меркаванне: ваенная лірыка Сіманава сёння незапатрабаваная. З гэтым, праўда, многія ўдзельнікі “круглага стала” не пагадзіліся. Як аргумент — усё большай папулярнасцю карыстаецца абласны літаратурны конкурс, прысвечаны памяці К. Сіманава, які праводзяць Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ, Магілёўскае аддзяленне Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання “Русское общество” пры падтрымцы Пасольства Расійскай Федэрацыі ў Беларусі.

Сіманаўскія чытанні сабралі ў адной зале прадстаўнікоў двух народаў — Беларусі і Расіі. Так, з расійскага боку акрамя літаратараў і журналістаў былі прадстаўнікі пасольства: Аляксандр Ламакін, саветнік Пасольства Расійскай Федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь, кіраўнік прадстаўніцтва Федэральнага агенцтва па справах Садружнасці Незалежных Дзяржаў, суайчыннікаў, што пражываюць за мяжой, і па міжнародным гуманітарным супрацоўніцтве; Алег Харлашын, саветнік Пасольства Расійскай Федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь; Іван Корда, старшыня Каардынацыйнага Савета кіраўнікоў грамадскіх аб'яднанняў расійскіх суайчыннікаў у Рэспубліцы Беларусь; Сяргей Моладаў, старшыня аб'яднання “Русское общество”.

## Пункцірам

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падпісаў загад аб уручэнні дзяржаўных узнагарод і прысваенні ганаровых званняў. У тым ліку ордэнам Пашаны быў узнагароджаны прафесар кафедры менеджменту прыватнай установы адукацыі "Мінскі інстытут кіравання" Віл Ганчароў. Ордэнам Францыска Скарыны ўзнагароджаны мастацкі кіраўнік заслужанага калектыву Рэспублікі Беларусь ансамбля народнай музыкі "Бяседа" Леанід Захлеўны і дэкан тэатральнага факультэта Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Уладзімір Мішчанчук. Звання народнага артыста Беларусі ўдастоена дырэктар-мастацкі кіраўнік Беларускага дзяржаўнага цырка Таццяна Бандарчук.

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў калектыў дзяржаўнай установы вышэйшай прафесійнай адукацыі "Беларуска-Расійскі ўніверсітэт" з 50-годдзем з дня заснавання ВНУ. Гэта ўнікальная міждзяржаўная ўстанова здзяйсняе падрыхтоўку інжынерных кадраў для Беларусі і Расіі, з'яўляючыся доказам паспяховага фарміравання адзінай адукацыйнай прасторы, адзначыў кіраўнік дзяржавы.

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з юбілеем народную артыстку Беларусі Марыю Захарэвіч. "Сёння Вы — адна з самых яркіх зорак беларускага драматычнага тэатра, захавальніца лепшых традыцый нацыянальнай акцёрскай школы", — сказана ў віншаванні.

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў заслужанага дзеяча мастацтваў Расійскай Федэрацыі Аляксандра Маслякова з 70-годдзем. "Няхай Ваша дзейнасць і ў далейшым дапамагае нашай моладзі быць разам, умацоўваючы духоўнае і культурнае адзінства Беларусі і Расіі", — гаворыцца ў віншаванні.

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста Расійскай Федэрацыі Яўгена Міронава з 45-годдзем. Кіраўнік дзяржавы выказаў спадзяванні, што супрацоўніцтва артыста з беларускімі кінематаграфістамі знойдзе свой годны працяг.

Адпаведным рашэннем Савета Міністраў зацверджана Праграма развіцця спецыяльнага турыстычка-рэкрэацыйнага парку "Аўгустоўскі канал" на 2012 — 2015 гг. Праграма прадугледжвае рэалізацыю мерапрыемстваў, накіраваных на комплекснае эканамічнае развіццё парку, стварэнне добрых умоў для развіцця турызму і рэалізацыі інвестыцыйных праектаў на яго тэрыторыі.

Семінар для студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў Беларусі прайшоў на базе мінскіх духоўных акадэміі і семінарыі (у Свята-Успенскім Жыровіцкім манастыры). Падобныя семінары, падчас якіх абмяркоўваюцца найбольш важныя моладзевыя праблемы, праводзяцца рэгулярна ўжо дзесяць гадоў.

Мерапрыемства пад назвай "Экзатычны В'етнам на беларускай зямлі" прайшло ў вёсцы Васілішкі Шчучынскага раёна. Яно было арганізавана кіраўніцтвам аддзялення "Сяльчанка" Беларускага саюза жанчын сумесна з в'етнамскім зямляцтвам пры падтрымцы Пасольства В'етнама ў Беларусі. На сустрэчы в'етнамскія госці расказалі пра традыцыі і гісторыю сваіх краін і прадэманстравалі фільм пра В'етнам.

Падрыхтавала
Ірына АЛЯКСАНДРАВА

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Падтрымаць маладога творцу

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

**Старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец сустрэўся з маладымі паэтамі, творы якіх выйдуць асобным зборнікам у выдавецтве "Літаратура і Мастацтва".**

Гутарка з кіраўніком творчага саюза вялася пра самае набалелае — пра цяжкасці маладога творцы на шляху да чытача. Мікалай Іванавіч выказаў поўнае разуменне. "Так, сапраўды, — сказаў ён, — маладому творцы ва ўсе часы было праблемна выдаць уласную кнігу. І цяпер выдавецтвы неахвотна прымаюць рукапісы ад аўтараў, імёны якіх яшчэ нікому не вядомыя. Выдаўцоў, у прынцыпе, можна зразумець. У наш нялёгкі ў эканамічным плане час трэба думаць пра самаакупнасць. З другога боку, пра малады талент ніхто так і не даведаецца, калі не будзе выдадзена кніга. Праўда, сёння ёсць магчымасць выдання за свой кошт. Аднак, пакуль юнак ці дзяўчына займеюць такія сродкі, можа прайсці нямала часу. І атрымаецца, што першая кніга аўтара ўбачыць свет у лепшым выпадку да яго саракагоддзя".

Мікалай Іванавіч паведаміў, што кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў Беларусі сёння гатовае ісці на пэўную рызыку, каб даць таленавітаму пачаткоўцу пазітыўны першштуршок. Запланавана выданне цэлай серыі аўтарскіх кніг маладых творцаў. Магчыма, не кожны з гэтых аўтараў зробіць пісьменніцтва справай усяго жыцця, але і дзясятак своечасова запаленых "зорачак" зможа істотна паўплываць на будучыню літаратуры. Каб вырасціць дастойную змену цяперашняму пакаленню пісьменнікаў, трэба ісці на ўсё.

Нагадалі творцам і пра тое, што Саюз пісьменнікаў Беларусі вылучае на 2012 год дзесяць стыпендый для найбольш здольных маладых літаратараў. "Гэта пакуль што іх дзесяць, — між іншым дадаў М. Чаргінец. — Можа, крыху пазней атрымаецца павялічыць колькасць стыпендый да дваццаці. Хацелася б таксама дапамагчы нашай творчай моладзі з вырашэннем жыллёвых праблем — і мы шукаем сёння такія магчымасці".

Гутарка старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі з маладымі аўтарамі зайшла і непасрэдна пра зборнік, які рыхтуецца да выдання (укладальнік — Міхась Башлакоў). Ён быў складзены на аснове лепшых публікацый часопіса "Маладосць" за апошнія некалькі гадоў. Аднак высветлілася, што маладыя аўтары часам не ведалі, якія іх творы будуць уключаны ў зборнік. Яны самі зацікаўлены абмеркаваць змест выдання і прапанаваць больш сталыя вершы. Мікалай Іванавіч параіў не спяшацца з выпускам кнігі і выбраць самае лепшае, каб прэзентаваць аўтараў. Таксама прагучала прапанова дадаць да вершаў кароткія паведамленні пра паэтаў.

## Прынятыя ў СПБ



**ЧАБАГАНАЎ (Сцяцкевіч-Чабаганаў) Анатоль Васільевіч**
*Публіцыст*

Нарадзіўся 8 лістапада 1946 года ў в. Засмужжа Любанскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Ленінградскі інстытут дакладнай механікі і оптыкі, Школу сусветнай эканомікі і англійскай мовы ў г. Боўнмоўе (Вялікабрытанія). Працаваў у Міністэрстве сельскай гаспадаркі. Цяпер — старшыня аглядальнай рады групы кампаній "Сцяцкевіч". Аўтар публіцыстычна-краязнаўчай кнігі "Я — сын Ваш", шэрагу артыкулаў, апублікаваных у часопісах "Роднае слова", "Полымя".



**ДЗЕДАВЕЦ Міхаіл Іванавіч**
*Публіцыст*

Нарадзіўся 6 верасня 1950 года ў п. Тураў Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў Акадэмію МУС Рэспублікі Беларусь. Працаваў у сістэме Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі. Падпалкоўнік міліцыі ў запасе. Аўтар кніг "Салдаты Перамогі", "Ветэранскі рух Гомельшчыны".

## Выстаўкі

# Паэзія, якую бачаць

**У мінскай бібліятэцы № 15 імя Цёткі адкрылася выстаўка фотаімпрэсій Рагнеда Малахоўскага.**

Ірына КАРЭЛІНА

Калі перайначыць афарызм Леанарда да Вінчы "паэзія — гэта жывапіс, які чуюць" у дачыненні да творчасці Рагнеда Малахоўскага, атрымаецца "фатаграфія — гэта паэзія, якую бачаць". Складана ўявіць асобу больш эстэтычна чулую за паэта, які захапляецца фотамастацтвам. А калі так — чаму б не аб'яднаць свае здольнасці ў адзін жанр? Так, Рагнед, спалучыўшы фотаздымак і паэтычна-філасофскі каментарый да яго, назваў свае вынаходніцтва "фотаімпрэсіі". Аднайменную назву атрымала выстаўка работ маладога аўтара.

Гэта ўжо пятая экспазіцыя Малахоўскага: раней былі "Нарачанскі напеў" (выстаўлялася двойчы — у Мінску і Лодзі, Польшча), "Музы", "Нарачанскія чары". Дзве скразныя тэмы яго фотаработ (дый вершаў таксама) — роднае Нарочча і… дзяўчаты. Рагнед зазсёды падкрэслівае, што займаецца фатаграфіяй на аматарскім узроўні. Аднак удалыя творчыя знаходкі кажуць самі за сябе, дакладней — за яго. "Фотаімпрэсіі" — гэта эксперымент, спроба "закансерваваць" імгненне і ўкласці ў яго каштоўную думку. Як, набыўшы фактычны подпіс, звычайны фотаздымак становіцца журналісцкай, так, набыўшы паэтычны, ён ператвараецца ў мастацтва.

З нагоды выстаўкі паэт выпрашыў правесці творчы вечар, або, як ён выказаўся, "справаздачу сваёй мастацкай дзейнасці". Сустрэча атрымалася амаль урачыстай. Лірычныя кампазіцыі выканалі бардэсы Алеся Сівохіна і Ксенія Разікава, песні на словы Рагнеда праспявалі Алесь Емяльянаў і Дзмітрый Пятровіч. Павіншавалі творцу яго бацькі, а таксама калегі па пяры. Трэба згадаць, што на вечарыне прагучала некалькі музычных трэкаў — яшчэ адно захапленне шматграннага Малахоўскага (музыку ён складае на слых пры дапамозе камп'ютара).

Свае "фотаімпрэсіі" Рагнед плануе аформіць у асобную кніжку.

## Водгалас

Алена МАЛЬЧЭЎСКАЯ,
фота Кастуся Дробава

# Памятаць і тварыць

**28 лістапада ў Інстытуце журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта была ўрачыста адкрыта аўдыторыя імя вядомага прафесара Ефрасінні Бондаравай.**

У аўдыторыі № 320 сабраліся родныя і вучні Ефрасінні Леанідаўны — кінакрытыкі, навукоўцы, журналісты. На ўрачыстым адкрыцці выступілі муж Бондаравай, вядомы апаратар Алег Аўдзееў; дырэктар Інстытута журналістыкі БДУ Сяргей Дубовік; аднакурсніца і калега Ніна Сніцарава; рэжысёр Сяргей Кацьер; дэкан гісторыка-філалагічнага факультэта Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта Наталля Лысова; кінакрытык Ала Бабкова; дырэктар Музея сучаснага выяўленчага мастацтва Наталля Шарангові ч ды іншыя. Адметнасцю прамоў стала тое, што шмат хто з выступоўцаў звяртаўся да касмічных метафар — камета, сфера, — бо толькі яны, бадай што, здатныя перадаць маштаб асобы Ефрасінні Бондаравай, якая стаяла ля вытокаў заснавання школы беларускай кінакрытыкі і беларускай журналістыкі.

Тыя, хто завітае ў імянную аўдыторыю, змогуць пабачыць асабістыя рэчы, фотаздымкі, публікацыі, кнігі вядомага прафесара. Але супрацоўнікі кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі, якую некалі заснавала Ефрасіння Бондарава, надаўшы аўдыторыі імя, не ператварылі яе ў музей. Тут па-ранейшаму будуць праводзіцца звычайныя студэнцкія заняткі. І дацэнт, кандыдат філалагічных навук, даследчыца тэлевізійнай журналістыкі Людміла Шылава параіла студэнтам часцей завітваць у гэтую аўдыторыю: "Тут будзе добра пісацца, тут будзе добра думацца". Здаецца, калегам і вучням Ефрасінні Бондаравай удалося самае галоўнае — захаваць памяць, якая натхняе.



*На здымку: вучаніца Ефрасінні Бондаравай, загадчыца кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі Людміла Саянкова сустракае гасцей.*

## Імпрэзы

### Гейнэ па-беларуску

**У Доме дружбы прайшла літаратурна-музычная вечарына, прысвечаная перакладам Генрыха Гейнэ на беларускую мову. У імпрэзе ўзялі ўдзел Петэр Дэтмар, намеснік кіраўніка місіі Пасольства ФРГ у Беларусі, і Аляксей Жбанаў, саветнік аддзела Заходняй Еўропы Галоўнага ўпраўлення Еўропы МЗС.**

Генрых Гейнэ — прадстаўнік "рамантычнай паэзіі" і адначасова яе першая асоба. Але творчая спадчына такой знакавай асобы для немецкай і сусветнай паэзіі мае няшмат перакладаў на беларускую мову. На вечарыне Аляксей Жбанаў прадставіў свае пераклады, якія яскрава, але нечакана адлюстравалі блізкасць нашых культур. Захопленых прыгажосцю слоў і поглядам на Сусвет паэта XVIII стагоддзя, Жбанаў напісаў некалькі вершаў, якія таксама былі перакладзены, але, наадварот, на нямецкую мову. Іх зацікаўлена і выразна прачытаў Петэр Дэтмар, які да таго ж больш падрабязна распавёў пра лёс і творчасць Генрыха Гейнэ. Размова на імпрэзе вялася на дзвюх мовах: беларускай і нямецкай, але чытанне вершаў уголас, песні, цікавыя гісторыі, здавалася, руйнавалі межы не толькі разумення сэнсу, але і пачуццяў.

Ульяна БЯЛОВА

### Зямля, дзе пачаўся твой лёс

**Пад такой мілагучнай назвай у бібліятэцы № 14 імя Ф. Багушэвіча г. Мінска прайшла вечарына, прысвечаная родным гарадам і вёскам беларускіх пісьменнікаў.**

Распавесці гісторыю пра свой незвычайны край прыйшлі Людміла Рублеўская, Віктар Шніп, Аксана Спрынчан і Яраш Малішэўскі. Пісьменніца, крытык, журналіст Людміла Рублеўская расказала, як рубрыка "Што ні край, то звычай" у газеце "СБ. Беларусь сегодня" ператварылася ў кнігу "За мостам майго дзяцінства", што пабачыла свет у РВУ "Літаратура і Мастацтва". Аксана Спрынчан пад музычны акампанемент Яраша Малішэўскага запрасіла ўсіх наведаць горад Лунінец, што на Брэстчыне. А кожны з гасцей вечарыны яшчэ раз прыгадаў свой родны бацькоўскі дом, дзе яго чакаюць і любяць.

Дар'я ШОЦІК

Літабсягі

# Калі ў храме душы месца радасці ёсць

Паліна ЯРЦАВА, фота Кастуся Дробава



**У межах сацыяльнай выстаўкі-кірмашу “50+”, арганізаванай Мінгарвыканкамам з мэтай падтрымкі людзей сталага ўзросту, прайшла літаратурна-музычная праграма Мінскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі і выдавецтва “Чатыры чвэрці” “Словы дабрыні ў нашых сэрцах”.**

Мэтай выстаўкі-кірмашу была не толькі арганізацыя ільготнага продажу тавараў, кансультацыі розных спецыялістаў, але і змяненне псіхалогіі старэйшага пакалення. “За пяцьдзясят” — час, калі, валодаючы добрым досведам, можна зрабіць сваё жыццё насычаным і цікавым, перачытаць тое, на што некалі не хапіла часу, урэшце — самому напісаць кнігу. Прыемна было пазнаёміцца з людзьмі, якія ў элегантным узросце пачыналі “новае жыццё”, рэалізоўвалі даўнія мары: Надзея Канашкіна, чые ручнікі ўпрыгожвалі вечарыну, толькі нядаўна знайшла час прысвяціць сябе вышыўцы; доктар мастацтвазнаўства Юлія Чурко выдала некалькі кніг прозы.

Для тых, каму за пяцьдзясят, на сцэне канферэнц-залы выступалі паэты, пісьменнікі, барды, чые кнігі ўбачылі свет у выдавецтве “Чатыры чвэрці”, а вядучай вечарыны была Ліліяна Анцух, пісьменніца, дырэктар гэтага выдавецтва. Не пакінулі абыякавымі слухачоў выкананыя аўтарамі ўрывак з новай кнігі Наталіі Касцючэнкі “Вярба над вірам”, вершы Міхася Пазнякова, Зіновія Прыгодзіча, Лізаветы Палеес, Яны Явіч, Вольгі Норынай, Вольгі Сакаловай.

Старшыня гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў акцэнтаваў увагу прысутных на тым, што дзейнасць творчай суполкі — не толькі вялікая колькасць выступленняў, якія ахопліваюць аўдыторыю ад дзіцячых садкоў да Ваеннай акадэміі Рэспублікі Беларусь, але і праца з маладымі талентамі: выяўленне іх з дапамогай літаратурных конкурсаў, правядзенне вучобы ў межах студый і семінараў, а таксама выданне кніг, у тым ліку ў адметных серыях “Бібліятэка Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі” і “Мінскія маладыя галасы”.

Праграма была шчодрай на падарункі: бліскуча выступілі артыстка Аляксандра Іванова і піяністка Марына Рамейка, баяніст Рыгор Хвясевіч, уразіла гучанне класікі ў афарбоўцы лічбавага баяна ў выкананні прафесара БДУКіМ Васіля Глубачэнкі, песні на вершы Купалы і Караткевіча пад гітару спяваў Дзмітрый Пятровіч, разам з кандыдатам педагагічных навук бардам Валянцінам Кавалівам зала выканала песню з кінастужкі “Зямля Саннікава” — “Есть только миг”.

*На здымку: пісьменнікі Лізавета Палеес і Валянцін Маслюкоў прапануюць кнігі наведвальнікам выстаўкі-кірмашу.*

Артлінія

# Запрашэнне ў «ВыРай»

**Галерэя “Мастацтва” ладзіла выстаўку Раісы Сіплевіч “ВыРай” — ужо другую яе персанальную экспазіцыю ў гэтых сценах. На ўрачыстым адкрыцці слова бралі першы намеснік старшыні Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца, прафесар, дыпламат Ігар Малевіч, мастак Віктар Нямцоў, сябра і аднагрупнік Мікола Купава, дырэктар галерэі “Мастацтва” Алена Лагоўская ды вучні Раісы Сіплевіч.**

Віктар КАВАЛЁЎ, фота аўтара

Характарызуючы творчасць Раісы Паўлаўны, яны адзначалі, што гэта адметна, калі мастак мае мажлівасць ствараць сваю рэальнасць. Бо смешна спрачацца з Богам і спрабаваць ствараць тое, што зрабіў ён: ніколі не паўторыш. А калі, узіраючыся ў яго тварэнні, мастак спрабуе адлюстраваць нейкі свой свет і калі тое атрымліваецца — значыць, ён дапамагае Богу зрабіць гэты свет прыгажэйшым. І шчаслівы той чалавек, каму ўдаецца ствараць прыгажосць. Адны мастакі малююць, што называецца, розумам, другія выплёскваюць на палотны сваю душу, пачуцці, адчуванні, як тое датычна Раісы Сіплевіч.

Раіса Паўлаўна нарадзілася ў 1949 годзе ў вёсцы Падбрэззе Навагрудскага раёна. Скончыла Мінскае мастацкае вучылішча імя А. Глебава, Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут (кафедра графікі). Працуе ў галіне станковага жывапісу і графікі. Яе творы знаходзяцца ў зборах разнастайных музеяў і галерэй Беларусі, у Табольскім дзяржаўным гісторыка-архітэктурным музеі-запаведніку, у прыватных калекцыях у Германіі, Англіі, ЗША, Канадзе, Аўстраліі, Італіі, Чэхіі, Польшчы, Партугаліі, Бельгіі…

Са слоў аўтаркі экспазіцыі, яе творчасць уяўляе сабой сінтэз рэальнага і эмпірычнага. Работы адлюстроўваюць унутраную патрэбу мастака спазнаць рэчаіснасць паўней і глыбей праз форму, колер, лініі, фактуры. Суб’ектыўна пераасэнсаваўшы досвед мастакоў-мадэрністаў XX стагоддзя, Раіса Паўлаўна будуе свае кампазіцыі на падмурку эмпірычнага пачатку, напаўняючы іх аўтэнтычнымі вобразамі і сімваламі. Менавіта выпадковая пляма, як у майстроў ташызму, з’яўляецца асновай фармальнай пабудовы яе кампазіцый. (Да ведама, ташызм — плынь у заходнееўрапейскім абстракцыянізме 1950 — 1960-х гадоў. Уяўляе сабой жывапіс плямамі, якія не ўвасабляюць вобразаў рэальнасці, а выяўляюць падсвядомую актыўнасць мастака. Плямы ў ташызме наносяцца на палатно хуткімі рухамі рукі без загадзя абдуманага плана.) Але мастачка пастаянна эксперыментуе і ідзе ўсё далей у сваіх фармальных пошуках, насычаючы кампазіцыі вобразамі рэальнага свету. Кантраснае супастаўленне абстрактных і фігуратыўных вобразаў у прасторы аднаго жывапіснага палатна надае яе работам казачна-сімвалічную афарбоўку, заклікае гледача ў іншую, суб’ектыўна пераасэнсаваную мастаком рэальнасць, прадстаўляючы тым самым паэтычны вобраз рэальнага свету.



*На здымку: Раіса Сіплевіч “Неба, дзе бусел ляціць” (палатно, алей).*

Повязі

Мікола БЕРЛЕЖ

# Шляхі Паднябеснай



**У Мінску завяршылі сваю работу IV міжнародная навукова-практычная канферэнцыя “Кітай у сучасным свеце” і II форум маладых вучоных “Вопыт і поспехі сучаснага Кітая”. Галоўны арганізатар гэтых прадстаўнічых мерапрыемстваў — Рэспубліканскі інстытут кітаязнаўства імя Канфуцыя Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Віталі адкрыццё канферэнцыі і форуму рэктар БДУ акадэмік Сяргей Абламейка і саветнік пасольства КНР у Рэспубліцы Беларусь Сунь Хунчжы. Удзел у разглядзе самых розных усходазнаўчых тэм поруч з беларускімі даследчыкамі прынялі вучоныя Расіі, Украіны, Кітая.**

Сярод іншых на канферэнцыі працавалі секцыі “Праблемы традыцыйнай і сучаснай культуры Кітая” і “Кітайская мова і літаратура: ад старажытнасці да сучаснасці”. Вядомы лімаўскі аўтар прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Яўген Шунейка выступіў з дакладам “Тэмы кітайскай рэчаіснасці ў савецкім мастацтве і мастацтвазнаўстве 1950-х гг. З вопыту культурнага збліжэння”. Старшы выкладчык факультэта міжнародных адносін БДУ Марына Ісачэнкава расказала пра шанаванне продкаў у кітайскіх і беларускіх традыцыях. Тэма даклада кандыдата філасофскіх навук Алены Міхайлавай — “Восень у творах М. Багдановіча і кітайскіх паэтаў Сярэбранага веку”. Вольга Каранькова і Кацярына Блінец звярнуліся да паэзіі Лі Бо ў рускіх перакладах. Выкладчык кафедры кітайскай філалогіі БДУ Святлана Казакевіч прааналізавала заходнееўрапейскія літаратурныя кірункі і асаблівасці развіцця рыс мадэрнізму ў кітайскай літаратуры 1920 — 1930-х гг. XX стагоддзя. Начальнік Цэнтра эканомікі і маркетынгу Рэспубліканскага інстытута кітаязнаўства імя Канфуцыя БДУ, магістрантка філалагічнага факультэта БДУ Вераніка Карлюкевіч разглядала ўспрыманне творчасці Янкі Купалы і Якуба Коласа ў Кітаі ў 1946 — 2011 гг. Тэма выступлення студэнткі факультэта міжнародных адносін БДУ Настассі Пыж — “Сімволіка колеру ў паэзіі Ван Вэя”.

Знаёмства з праблематыкай культуралагічных, літаратуразнаўчых тэм, якія разглядаліся на канферэнцыі і форуме, падштурхоўвае да наступных разваг. Беларуская кітаістыка адважна пашырае прастору даследаванняў, угледаючыся ў традыцыі пранікнення кітайскай культуры, літаратуры і ў Расію. І разам з тым пачынаюць развівацца кампаратывістыка, параўнальнае літаратуразнаўства. І яшчэ. Агляд ужо існуючых фактаў перакладаў беларускай літаратуры ў Кітаі паказвае, што многія прыклады яшчэ застаюцца па-за ўвагай даследчыкаў. Значыць, працы хопіць для многіх, хто цікавіцца беларуска-кітайскімі стасункамі. А на вясну 2012 г. Рэспубліканскі інстытут кітаязнаўства імя Канфуцыя БДУ запланаваў правядзенне новай навуковай канферэнцыі — “Шляхі Паднябеснай”.

***На здымку: выступае в.а. дырэктара Рэспубліканскага інстытута кітаязнаўства імя Канфуцыя БДУ Аляксандр Гардзей.***

З-пад пяра

У Смаргонскім раённым краязнаўчым музеі прайшла паэтычная вечарына, падчас якой паэтэсу і журналістку Алу Клемянок віншавалі з юбілеем. Не так даўно Ала Леанідаўна парадавала прыхільнікаў сваёй творчасці з’яўленнем новага зборніка “Рэфлексіі”, у які ўвайшлі вершы, эсэ і казкі для дарослых. Гэта трэцяя кніга аўтаркі пасля паэтычных зборнікаў “Яны не ведалі мяне” і “Бывай, Альба Рутэнія”, якія прынеслі ёй чытацкую любоў і павагу. На вечарыне акрамя юбіляркі прысутнічалі і выступалі са сваімі вершамі старшыня Гродзенскай абласной арганізацыі Саюза пісьменнікаў Беларусі Людміла Кебіч, Мікалай Сяроў, Браніслаў Ермашкевіч, Пётр Сямінскі.

Лізавета БАГАДЗЯЖ

Свята дзіцячай кнігі прайшло ў сталічнай бібліятэцы № 4. Госцем юных чытачоў мікрараёна быў старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, вядомы дзіцячы пісьменнік Міхась Пазнякоў. Шмат цікавага даведаліся прысутныя пра літаратурнае жыццё ў Беларусі, літаратурна-мастацкія выданні, работу пісьменнікаў з юнымі літаратарамі. Адбылася і віктарына паводле шматлікіх паэтычных загадак госця, якія ўвайшлі ў яго новую кнігу “Гульняслоў”.

Павел КУЗЬМІЧ

У Бабруйскай крэпасці адбылося асвячэнне манаскага корпуса манастыра Святых Жанчын Міраносіц. Рэканструкцыя будынка праводзілася з 2009 года за асабістыя сродкі бабруйскіх міліцыянераў і пры іх непасрэдным удзеле. Таксама паступалі ахвяраванні ад арганізацый і грамадзян нашай краіны. Ва ўрачыстай абстаноўцы ігумення манастыра маці Раіса атрымала ключы ад корпуса. Пазней у будынку ўпраўлення Бабруйскай епархіі былі ўручаны ўзнагароды Міністэрства ўнутраных спраў і Беларускай Праваслаўнай Царквы тым, хто вылучыўся падчас арганізацыі і правядзення рэканструкцыі.

Аляксандр АНТАШКЕВІЧ

Гістарычны мастацкі фільм “Уланская балада”, прысвечаны 200-гадоваму юбілею Барадзінскай бітвы, здымаюць на Гродзеншчыне. Кінематаграфісты Расіі пры ўдзеле Нацыянальнай кінастудыі “Беларусьфільм” ужо распрацавалі план здымак стужкі на тэрыторыі Дзятлаўскага, Навагрудскага, Карэліцкага і Іўеўскага раёнаў — згодна са сцэнарыем частка падзей адбываецца на тэрыторыі Беларусі. У фільме заняты вядомыя акцёры Юрый Быляеў, Сяргей Бязрукаў, Аляксандр Дамагараў, Уладзімір Гасцюхін.

Іосіф ЗАЯЦ

У Мінскай цэнтральнай дзіцячай бібліятэцы імя М. Астроўскага адбылася прэзентацыя кнігі Анатоля Зэкава “Зязюля Гулюля”, якая выйшла сёлета ў РВУ “Літаратура і Мастацтва”. Уступным словам яе адкрыла загадчыца абслугоўвання бібліятэкі Ірына Сінельнікава. Яна распавяла вучням СШ № 67 г. Мінска пра жыццёвы і творчы шлях аўтара, яго ранейшыя кнігі для дзяцей і нават прачытала казку “Тарбуз і Яблыня” з прэзентаванай кнігі. Эстафету ад вядучай падхапілі вучні: у іх выкананні прагучалі вершы з “Зязюлі Гулюлі”. А потым хлопчыкі і дзяўчынкі слухалі пісьменніка, разгадвалі загадкі, адказвалі на яго пытанні і задавалі свае. Самыя актыўныя ўдзельнікі прэзентацыі атрымалі прызы ад рэдакцыі часопіса “Вясёлка”, у якой працуе Анатоль Зэкаў.

Сяргей КРЫВІЧОЎ

# Вандроўка па натхненне

**Не так даўно групай літаратараў, членаў Саюза пісьменнікаў Беларусі, па ініцыятыве Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі была здзейснена паездка па Мінскай і Магілёўскай абласцях з наведваннем прадпрыемстваў, устаноў і найбольш значных культурна-сацыяльных аб'ектаў краіны. Сёння пісьменнікі дзеляцца сваімі ўражаннямі.**



**Ягор КОНЕЎ:**

— Што датычыць мяне, то найбольш запомнілася сустрэча з выкладчыкамі ды студэнтамі Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. Куляшова. Карысць ад такіх сустрэч відавочная: у сучасных юнакоў і дзяўчат даволі цьмянае ўяўленне наконт літаратурных працэсаў у Беларусі, і з беларускіх творцаў яны могуць прыгадаць хіба што Коласа, Купалу і Багдановіча. Але калі мае калегі выступалі са сваімі вершамі ды прамовамі, я бачыў, як на тварах студэнтаў з'явілася непадробнае здзіўленне, якое пакрысе змянялася зацікаўленасцю. Яны былі здзіўленыя тым, што наогул бачаць перад сабой жывых літаратараў, а яшчэ і тым, што, аказваецца, у нашай краіне ў наш час пішуцца цікавыя празаічныя і паэтычныя творы.

Вядома, папулярызацыя мусіць адбывацца ў розных кірунках. Аднак выступленні і сустрэчы з чытачамі былі і застаюцца ў шэрагу найбольш дзейсных сродкаў выхавання ў грамадстве павагі да прыгожага роднага слова. Гэтаксама ж дзейнічаюць, напрыклад, шматлікія літаратурныя арганізацыі ў краінах Еўрапейскай Супольнасці — актыўна ладзяць сустрэчы з чытачамі ў бібліятэках і кнігарнях.



**Ганад ЧАРКАЗЯН:**

— Наўрад ці хтосьці з нашых пісьменнікаў меў бы магчымасць самастойна здзейсніць такую паездку. Гэта была цудоўна арганізаваная, незабыўная і карысная акцыя. Самае галоўнае — мы ўбачылі ў натуральную велічыню карціну жыцця ў розных раёнах краіны. Дзе беларусы працуюць так, што пачуццё гонару перапаўняе сэрца, і становіцца зразумела, чаму ў нашай краіны так шмат "добразычліўцаў".

Велічыню і каштоўнасць "Беларуськалія" і "Магілёўліфтмаша" цяжка пераацаніць. Гэта сучасныя высокаразвітыя прадпрыемствы, якія не дарэмна параджаюць злосць і зайздрасць тых, хто чакае моманту прыбраць іх у свае рукі. Сваім размераным, правільным жыццём жывуць гаспадаркі, аграгарадкі, бібліятэкі і школы, дзіцячыя садкі, вялікія і маленькія шматфункцыянальныя сучасныя комплексы. Краіна выйшла на новы ўзровень развіцця. І гэта радуе.

Падчас паездкі я ўпэўніўся, што творцы павінны, абавязаны заўжды быць побач з чытачамі. Пісаць толькі праўду. Як карціны з жыцця. Пісаць пра тых і для тых людзей, якія ствараюць дабрыты для краіны ў складаныя і неспакойныя часы. Паездка дала магчымасць аднавіць страчаную сувязь. Безумоўна, вынікі падарожжа будуць бачныя пазней. Але ўжо сёння можна сказаць: яно ўмацавала веру ў будучыню.



**Кацярына ХАДАСЕВІЧ-ЛІСАВАЯ:**

— Падчас паездкі нам пашчасціла сустрэць цікавых, адметных, самабытных людзей, якія абавязкова стануць прататыпамі новых літаратурных герояў. Акрамя таго, літаратары правялі разам у сваім творчым калектыве чатыры дні — мелі магчымасць бліжэй пазнаёміцца, пагутарыць. А маладыя творцы паспелі пасябраваць.

Прыемнай навіною стала тое, што такія паездкі будуць наладжвацца з пэўнай перыядычнасцю.

Думаю, выкажу агульнае меркаванне пісьменнікаў, зазначыўшы, што ў такіх творчых камандзіроўках галоўнае праводзіць больш сустрэч з чытачамі. Варта спланаваць, які літаратар перад якой аўдыторыяй будзе выступаць. Мне, напрыклад, як дзіцячай пісьменніцы, цікава было б выступіць перад юнымі чытачамі. Карысныя сустрэчы з бібліятэкарамі — гэта цудоўная магчымасць прадставіць свае кнігі тым, хто непасрэдна даносіць іх да чытачоў, рэкламуе сучасных літаратараў.



**Юлія ЗАРЭЦКАЯ:**

— Уражанні ад творчай камандзіроўкі незабыўныя. Пісьменнікі змаглі спусціцца разам з гарнякамі ў шахту, паназіраць за працэсам вытворчасці сучаснага ліфтавага абсталявання, наведаць памятныя мясціны — літаратурна-мастацкі музей імя Янкі Купалы ў Вязынцы і мемарыяльны комплекс "Буйніцкае поле"…

Маладыя пісьменнікі ўпершыню апынуліся ў такой творчай камандзіроўцы. Пра падобныя вандроўкі, што раней былі для літаратараў традыцыйнымі, яны толькі чулі ад старэйшых калег. І тое, што сённяшняя паездка адбылася па даручэнні Кіраўніка дзяржавы, сведчыць, што клопат дзяржавы пра літаратуру, пра пісьменніка, пра кнігу надзённы і выключны.

Асабіста мне як галоўнаму рэдактару "Вожыка" было радасна бачыць усмешлівыя твары, чуць дасціпныя жарты. Значыць, жыве беларускі гумар. Значыць, будзе жыць і "Вожык".



**Наталля КАЗАПАЛЯНСКАЯ:**

— Пісьменнікі яшчэ раз запэўніліся ў тым, што падыходзіць да працы творча, дасягаць поспеху можна ў любой прафесіі — і на заводзе, і ў сельгаскааператыве, і ў школе. Асабліва ўразіў і парадаваў неардынарны і прадуктыўны падыход да арганізацыі і стымулявання працы ў сельгаскааператыве "Калгас «Радзіма»" і на прадпрыемстве "Бабушкина крынка".

У Магілёўскай ратушы адбывалася адкрыццё экспазіцыі, дзе было прадстаўлена некалькі нядаўна знойдзеных старажытных рэчаў. Змястоўна пра іх распавёў Ігар Марзалюк, выдатны знаўца гісторыі горада.



**Рагнед МАЛАХОЎСКІ:**

— Заўсёды любіў падарожнічаць па Беларусі, але, напэўна, ніводнае маё падарожжа не было такім насычаным і захапляльным. Наймацнейшае ўражанне пакінула тое, што давялося зведаць на ўласнай скуры.

Ніколі б не падумаў, што перааапрануся ў шахцёрскую робу, спушчуся ў самыя нетры салігорскай зямлі, даведаюся, як здабываецца калійная соль, надыхаюся салёным пылам і ў кузаве айчыннага грузавіка буду раз'язджаць па даўжэзных змрочных шахтах-лабірынтах, якія, быццам павуцінне, пераплятаюцца на невераготнай глыбіні... Прадпрыемства "Магілёўліфтмаш" проста "нашпігавана" сучаснай камп'ютарнай тэхнікай. Не ўтрымаўся і сам узяў невялікі ўдзел у вытворчым працэсе. Цяпер буду ганарыцца, што ў адзін з магілёўскіх ліфтаў укладзена часцінка і маёй душы. У горадзе Маладзечна я наўмысна адстаў ад пісьменніцкай групы, каб на ўласныя вочы пабачыць скандальна вядомую скульптуру "Папараць-кветка", усталяваную напярэдадні Дажынак. А мне падалося, што гэта скульптура ўслаўляе каханне, маладосць, прыгажосць… І падобраму пазайздросціў бронзаваму юнаку, якога такая прыгажуня вядзе ў купальскую ноч.

## *Кітай далёкі і блізкі*

# З поглядам у заўтрашні дзень

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

Я бываў у многіх краінах, бачыў сусветна вядомыя помнікі, чаму ж так запаў у душу Пекін, чаму так цягне яшчэ раз наведаць гэтыя цудоўныя абсягі вялікай дзяржавы, пабыць сярод яе спагадных і зычлівых людзей?..

Народ з вялікай гісторыяй, якая зыходзіць са стагоддзяў да нашай эры, на працягу цэлых тысячагоддзяў не толькі не страчваў сваю ідэнтычнасць, а беражліва захоўваў традыцыі і звычаі, мову, пісьменства. Гэта маньчжуры, якія спрабавалі ўкараніцца тут як вечныя гаспадары, урэшце згубілі ўсё, нават мову, а кітайцы засталіся.

У суперсучасным Пекіне, з шырокімі вуліцамі і вышыннымі дамамі, гараджане святкавалі свята сярэдзіны восені і ўзгадвалі волата І і яго нявесту Чэнь Э, якая ўзнесла на неба. Накрывалі сталы і елі пернікі — як тысячу год таму. І гэта было дзяржаўнае свята, непрацоўны дзень, калі ўсе кітайцы, ад звычайнага працаўніка і да вялікага начальніка, былі адной сям'ёй, якая шануе сваіх продкаў і ганарыцца імі.

Кітайцы ведаюць, што яны хочуць. Іх планы распісаны на шмат гадоў наперад. Яны ажыццяўляюцца спакойна і паступова. Прычым, ніякіх часовых саступак, маўляў, потым даробім. З прыкрасцю і жахам узгадваюць культурную рэвалюцыю, адзін з самых трагічных перыядаў у гісторыі народа. Неяк мяне спыталі, як я стаўлюся да мусіруемых развагаў пра "сусветную жоўтую экспансію", якая нясе небяспеку іншым народам. Я жартам адказаў, што калі такая экспансія мае на ўвазе любоў да Радзімы, павагу да ўласнай гісторыі, працавітасць і сумленнасць, увагу да адукацыі і асветы, росквіт усіх галін культуры, спакой і парадак, дык такой "экспансіі" я не баюся. А калі сур'ёзна, то шматлікія аналітыкі адзначаюць, што Кітай у першую чаргу заклапочаны пазітыўнымі пераменамі, павышэннем дабрабыту свайго народа, развіццём уласнай культуры ў кантэксце сусветнай і не спакушаецца на ролю сусветнага валадара, на якую прэтэндуюць некаторыя дзяржавы Захаду.

Я не раз чуў ад сваіх кітайскіх сяброў словы шчырай павагі да беларускага народа за імкненне да самастойнасці, нежаданне сляпа падпарадкоўвацца чужым стандартам.



Што ж, свежыя ўражані павінны вытрымаць выпрабаванне часам, многае трэба яшчэ ўсвядоміць. Але далёкі Кітай стаў для мяне па-сапраўднаму блізкім. Гэтае маё ўражанне застанецца нязменным.

*Пекін — Мінск, верасень 2011 года*

*На здымку: на вуліцах Пекіна.*

**Ёсць людзі, нібыта сонейкам пацалаваныя. Крочаць яны па жыцці, дорачы ўсім сустрэчным радасць і цяпло. Ёсць людзі, удзячныя лёсу. За тое, што проста жывуць на гэтай прыгожай, яркай, спеўнай, духмянай зямлі. За тое, што могуць раз-пораз дакранацца да яе духоўных скарбаў і адчуваць асалоду ад пагружэння ў мастацтва. Такі — Мікола Котаў, вядомы балетмайстар, носьбіт і прапагандыст народнай традыцыйнай харэаграфічнай культуры Беларусі. Міколу Конанавічу споўнілася 70 гадоў. Але няўрымслівы руплівец працягвае асветніцкую дзейнасць і перадае свае багатыя веды шматлікім вучням. І сёння менавіта ён — ганаровы госць “ЛіМа”.**



# Улюбёны ў родную зямлю

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,
фота Кастуся Дробава

**— Кажуць, для творчага чалавека кароткасць — родная сястра. Бо яна сястра таленту. Раскажыце пра сябе ў трох сказах.**

— Дзяцінства маё было цяжкім, бо загінуў на фронце бацька. Прыходзілі да нас у дом удовы, клікалі гарманіста, спявалі беларускія народныя песні — і слёзы на вачах. Вось з гэтага дзіцячага непаразумення — як жа можна так: адначасова і спяваць, і плакаць, — з гукаў гармоніка, з танцаў моладзі на вуліцы, назло ўсім цяжкасцям, бедам, голаду і пачалася любоў да народнага мастацтва, павага да нашага народа, урэшце, пачаўся я, Мікола Котаў.

**— Вы прысвяцілі сябе беларускаму фальклору. А з якім фальклорным персанажам больш за ўсё сябе асацыіруеце?**

— Я — Лявон, Лявон-завадатар. Такія Лявоны, ахвочыя да танцаў і спеваў нават пасля самай цяжкай сялянскай працы, у кожным сяле беларускім, пэўна, ёсць. А наогул, самы галоўны персанаж нашага фальклору — сам народ. Я зразумеў гэта, калі ў маладосці патрапіў працаваць у Тураў. Скончыў курсы кіраўнікоў самадзейных харэаграфічных калектываў пры Доме народнай творчасці ў Гомелі і мусіў арганізаваць пры тураўскім Доме культуры танцавальны гурток.

Гэта цяпер усе ўспрымаюць Тураў як вялікі цэнтр асветніцтва, узгадваюць Кірылу Тураўскага. І Тураў стаў сучасным, прыбраным. А ў тыя часы я, рэчыцкі хлопец, і не ведаў, дзе горад той знаходзіцца і чым славуты. У Тураве гарэла толькі адна лямпачка, і без гумавых ботаў нельга было на вуліцу выйсці — столькі гразі навокал. І пры ўсім гэтым аказалася, што тураўская зямля — такі багаты край! І на таленты, і на абрадавую традыцыю. Які лад і гармонія — у кожным руху, у кожным дзеянні, у кожным слове, калі ладзіцца свята! Ці то провады ў войска — збіраюцца людзі з усіх навакольных вёсак, са сваімі музыкамі. Ці то вяселле — залюбуешся, як вядуць яго! А ў кожнай вёсачцы, будзь то Пагост, Чэрнічы, Сямурадцы, Запясочча, Верасніцы, — свае погляды на тое, як трэба сустракаць галоўныя жыццёвыя падзеі.

А якія цікавыя на Палессі абрадавыя дзеянні! Аборванне вёскі… Жаніцьба коміна… А чаго каштуе палюбаванне на тое, як Бабку-павітуху, ці Бабку-пупарэзку, шануюць унукі — з імпэтам возяць па вёсцы на вазочку ці на санях! А колькі натхнення дае чалавеку непаўторная палеская прырода! Дыхнеш на поўныя грудзі — і здаецца, песня сама з грудзей пальецца, а ногі ў скокі пойдуць…

Спачатку ў Тураве моладзь пад маім кіраўніцтвам развучвала вядомыя і распаўсюджаныя танцы: “Лявоніху”, “Крыжачок”. Але потым, як прыгледзеўся, — якія ж тут цудоўныя танцы народ ведае! Нідзе больш такіх няма. Прыязджаеш у вёсачку — бабкі сядзяць па лавах. Спытаешся: як танчылі ў маладосці? І яны адразу ўстаюць. І спяваюць, і рухі ўсе пакажуць. Танцы, якія збольшага захавалі ў сваёй памяці гэтыя цудоўныя кабеты — “Ку-ка”, “Тураўская полька”, “Запясоцкія скокі”, “Яблынька”, — мы ўвялі ў свой рэпертуар. Потым, калі гурток ператварыўся ў танцавальны калектыў “Прыпяць”, паказалі іх усёй Беларусі і нават за яе межамі. І яны ўвайшлі ў сусветную скарбонку народнай танцавальнай творчасці. А калектыў “Прыпяць” стаў урэшце народным.

**— Мы лёгка можам назваць імёны вялікіх музыкантаў, пісьменнікаў, мастакоў, артыстаў. Фальклярысты звычайна працуюць на памежжы мастацтва і навукі. Але іх імёны вядомыя пераважна ў вузкіх колах спецыялістаў. Гэта справядліва?**

— Я думаю, нашы выдатныя фальклярысты павінны быць вядомымі. Гэта — апантаныя людзі, якія сапраўды любяць народную спадчыну і жыццё сваё кладуць дзеля яе вывучэння і папулярызацыі. Мне пашчасціла на шляху сваім спаткацца з Васілём Ліцвінкам, які дамогся стварэння на філфаку БДУ навукова-даследчай лабараторыі беларускага фальклору. А яшчэ ён быў аўтарам і вядучым вядомай у 1987 — 2003 гадах тэлепраграмы “Запрашаем на вячоркі”. Які чалавек! Я шмат чаму ад яго навучыўся. А іншы раз на слыху ва ўсіх імёны такіх людзей, якія нічога асабліва карыснага для народа свайго, для развіцця мастацтва не зрабілі. Гэта сапраўды крыўдна.

**— У якой ступені папулярызатары народнай спадчыны павінны быць прафесіяналамі?**

— Гэта якраз такая справа, якой можа займацца і непрафесіянал. У нашых традыцыйных народных калектывах, напрыклад, у асноўным — непрафесіяналы. Але як цікава яны паказваюць народныя абрады! Дарэчы, прафесіяналы, наадварот, могуць усё сапсаваць. Яны ж спрабуюць “падцягнуць” народныя песні і танцы да ўзораў акадэмічнага мастацтва ці то эстраднага відовішча. І з твора душа народная знікае.

**— Беларуская абрадавасць і беларускі фальклор даволі загадкавыя па сутнасці сваёй. Існуюць меркаванні, што ў іх зашыфраваны нейкія сакральныя веды. Вы, займаючыся вывучэннем народнай спадчыны, ці не спрабавалі разгадаць яе глыбінны сэнс?**

— У кожным творы народнага мастацтва, у кожным абрадзе жыве душа народа з самым не вялікім і самым высокім імкненнем — распаўсюджваць дабро. Людзі верылі, што ўсё жывое, і нават сама зямля, на добрае слова ці то добрае дзеянне адгукнецца дабром. І будзе ўраджай, і будзе дабрабыт, і будзе шчасце. А так і сапраўды бывае. Ідзеш да людзей з дабром, з добрай прапановай — і атрымоўваеш добры адказ, разуменне.

Вось у мінулым годзе дзякуючы разуменню і падтрымцы нашага міністра культуры Паўла Латушкі набыў жыццё праект “Слаўлю цябе, зямля Беларуская”. Мы вылучылі яго разам з народным артыстам Беларусі Міхаілам Дрынеўскім, мастацкім кіраўніком Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору імя Г. Цітовіча. Праект, які стаў рэспубліканскім, я лічу, унікальны. Грандыёзная абрадавая кампазіцыя, у якой прадстаўлены ўсе поры года ва ўсведамленні нашага народа.

З поспехам мы выступілі на “Дажынках” у Лідзе, на фестывалі “Кліч Палесся” і на канцэрце да 500-годдзя Жыткавіч. І вось жа што галоўнае. У праекце былі заняты 150 артыстаў, самадзейных і прафесійных. Я засцерагаўся злучаць іх — розны погляд на творчасць, розны ўзровень, розныя падыходы да працы. Але, на дзіва, яны не толькі гарманічна дапоўнілі адно аднаго, але і пасябравалі, ды так хораша! Любоў да народных вытокаў насамрэч яднае.

**— Наколькі, па-вашаму, важная пры папулярызацыі народнай спадчыны аўтэнтычнасць?**

— Аўтэнтыку, на маю думку, немагчыма перанесці на сцэну. Яе можна назіраць толькі там, дзе яна нарадзілася. Каб адчуць прыгажосць аўтэнтыкі, шырокім масам лепш паказаць на экране знятыя на відэа песні, спевы, абрады. Тое, што мы бачым на сцэне, не павінна прэтэндаваць на тое, каб называцца аўтэнтыкай. Гэта іншае мастацтва.

**— У апошні час назіраецца ўсё большая цікавасць моладзі да народнай абрадавасці, рамёстваў, песень і танцаў. Што яны там знаходзяць для сябе?**

— Кола жыцця павярнулася. Быў час — мы праяўлялі непамерную цікавасць да культуры Захаду, пераважна масавай. Пазнаёміліся, асвоіліся ў раней невядомым, навучыліся чамусьці. А цяпер падумалі: гэта іхняе, а дзе наша? А хто мы? Мы — беларусы! Наша зямля — багацейшая на традыцыі, на песні. Яны спяваюць толькі калі адпачываюць. А нашы людзі ўсё жыццё сваё ў песню ператвараюць. Радуюцца — спяваюць, сумуюць — спяваюць. Едуць на луг касіць — песня ажно звініць! Едуць з працы — стаміліся за дзень, здаецца, і рукой ужо цяжка варухнуць — дык таксама спяваюць. А спявае народ — дык жыць будзе. Моладзь у нас добрая. Старое пакаленне ўсе веды свае перадае ім — і носьбіты народнай культуры ніколі не сыдуць з нашай зямлі.

**— Ці адзначаеце вы ў сямейным коле народныя святы і наколькі пільна прытрымліваецеся абрадаў?**

— Мая сям’я — гэта я сам. Ну, пэўна, таксама і вучні, якіх маю багата і ў Беларусі, і па-за яе межамі. І сам адзначаю ўсе народныя святы, ад Вялікадня да Масленкі, і вучням, думаю, прывіў да гэтага любоў. У гэтым годзе вясну гукаў. З балкона. І мяне падтрымалі суседзі. Наш дом спецыяльна пабудаваны для дзеячаў культуры. Багата ў ім спевакоў жыве.

**— Хрысціянская царква крытычна ставіцца да некаторых народных традыцый, лічачы іх перажыткамі язычніцтва. Як захоўваць народную спадчыну, не скатваючыся да ідэалізавання язычніцкага мінулага народа?**

— Цяпер язычніцкага мала засталося ў народных абрадах. І дарэчы, амаль ва ўсіх удзельнічаюць святары. Ухваленне зямлі, ураджаю, адзначэнне першага выгану кароў... Кожны з абрадаў нашага народа нясе ў сабе дабрыню і любоў да роднай зямлі.

**— Што, па-вашаму, прыгажосць і што такое каханне?**

— Каханне — самае светлае з чалавечых пачуццяў. Яно, бы расінка, яркае, зіхатлівае, нічым не запэцканае. А прыгажосць — гэта тое, што ты бачыш з акна, калі едзеш па Беларусі. Я быў у Францыі, двойчы — у Амерыцы, нават у Эфіопіі з гастролямі. Паездзіў па Прыбалтыцы. Але нідзе не бачыў такой прыгожай прыроды, як у нас. А наогул, лічу, што чалавек, не ўлюбёны ў красу роднай зямлі і ў духоўную красу людзей, якія жывуць на ёй, не зможа стаць добрым балетмайстрам, добрым рэжысёрам. Я сам улюбёны да слёз у маю Тураўшчыну. У Мінску жыву ўжо, пэўна, 22 гады — забралі мяне сюды ў філармонію, працаваць з ансамблем “Свята”. Але кожны год мяне нясцерпна цягне на Тураўшчыну. Выеду, дыхну тамтэйшым паветрам — і вось я зноў поўны сіл і натхнення.

**— За што вы ўдзячныя лёсу і чаго ў вашым жыцці не хапае?**

— А ведаеце, усё ёсць. За тое і дзякую Богу і лёсу, які ён мне даслаў. Можа, крыху здароўя. У маім узросце мала хто танцуе, а мне яшчэ не-не ды і хочацца на сцэну самому выскачыць. Танец жа — гэта жыццё. А я люблю жыццё.

**— Вашы мары пра Беларусь — якія яны?**

— Няхай пакаленне маладых будзе шчаслівым. Шчаслівыя, вясёлыя, працавітыя... І каб не ведалі, што такое вайна. А мы вучылі іх усяму таму, што ўзялі за сваё жыццё, і будзем вучыць надалей.

## Глыбокае-2012

# Край адметны, непаўторны

Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ

**Гораду Глыбокае выпаў вялікі гонар быць сталіцай Дня беларускага пісьменства ў 2012-м. Блаславёная зямля, цудоўны маляўнічы куток сінявокай Віцебшчыны, у якім жывуць шчырыя, добрыя, спагадлівыя і таленавітыя людзі, якія сваёй працай і творчасцю ўслаўлялі і ўслаўляюць родны кут. Спрадвеку тут беражліва захоўваюць і перадаюць у спадчыну чысціню і багацце прыроды, народныя традыцыі і промыслы.**

Здаўна Глыбоччына славілася і сваімі майстрамі мастацкага слова. Сёння варта ўспомніць пра іх. І не таму, што, у асноўным, дзякуючы іх таленту і адбудзецца гэтае цудоўнае вераснёўскае свята. Справа — у іншым. Знаходзяцца скептыкі, якія сур’ёзна сцвярджаюць, што месца яго правядзення выбрана няўдала. Маўляў, раён не даў вядомых творцаў, якімі б ганарылася ўся Беларусь. Ці так гэта? З такім пытаннем я звярнуўся да Міхаіла Чарапкоўскага — выдатнага мясцовага гісторыка і краяўзнаўца, які ўзначальвае аддзел ідэалагічнай работы райвыканкама.

— Нашы апаненты глыбока памыляюцца, — сказаў Міхаіл Пятровіч. — Глыбокская зямля — радзіма многіх паэтаў, празаікаў, драматургаў, мастакоў, якія заявілі пра сябе ў поўны голас. У фальварку Палевачы нарадзіўся рэжысёр, тэатральны дзеяч Ігнат Буйніцкі — арганізатар першага прафесійнага тэатра ў Мінску. На хутары Калеснікава — Вацлаў Ластоўскі, аўтар “Кароткай гісторыі беларусаў” і “Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі”. Адсюль родам паэт, празаік і фальклярыст Янка Пачонка, Клаўдзій Дуж-Душэўскі — актыўны дзеяч беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, таленавіты будаўнік-архітэктар, Язэп Драздовіч — графік, жывапісец, скульптар, рускія пісьменнікі Лявон Ракоўскі, Мікалай Мінскі (Віленкін), польскі пісьменнік і сцэнарыст Тадэвуш Даленга-Мастовіч... Іх імёны ўвекавечаны ў назвах вуліц, на мемарыяльных дошках.

Варта дадаць, што з гэтым унікальным азёрным куткам цесна звязаны лёсы і творчасць Міхася Машары, Паўліны Мядзёлкі, Еўдакіі Лось, Алега Салтука, Уладзіміра Сауліча, Ірыны Жарнасек, Алеся Жыгунова, Марыі Баравік, Галіны Сутулы. У свой час тут пабывалі Уладзімір Караткевіч, Іван Шамякін, Пятрусь Броўка, Пятрусь Макаль, іншыя вядомыя літаратары.

Літаратурнае жыццё на Глыбоччыне па-ранейшаму віруе і струменіць. Больш як чвэрць стагоддзя пры раённай газеце “Веснік Глыбоччыны” працуе літаб’яднанне “Далягляды”, вакол якога гуртуюцца маладыя таленты. Упэўнена на старонках газет і часопісаў, у калектыўных зборніках заяўляюць пра сябе Ганна Вязіцкая, Ірына Бельская, Ганна Зінкевіч, Людміла Андзілеўка і многія іншыя.

Думаецца, што гэты пералік імён сталых і маладых літаратараў дае падставу сцвярджаць, што нездарма Глыбокае выбрана сталіцай дзевятнаццатага па ліку Свята беларускага пісьменства.

***У наступных матэрыялах, прысвечаных гэтай падзеі, “ЛіМ” раскажа пра іншых знакамітых людзей раёна, захавальнікаў нацыянальнага скарбу, самадзейных артыстаў і народных умельцаў, а таксама пра помнікі гісторыі і культуры, тапаніміку і гідраніміку мясцовасці. Мы плануем знаёміць чытачоў з тым, як рыхтуецца раён да свята, што робіцца для добраўпарадкавання памятных мясцін, далейшага развіцця горада і вёсак.***

**Газета “Літаратура і мастацтва” — інфармацыйны партнёр Свята беларускага пісьменства.**

Алесь МАРЦІНОВІЧ

# Дылогія пра «чырванакніжнікаў»

**Тыя, хто па-сапраўднаму заклапочаны зберажэннем прыроды для нашчадкаў, з радасцю сустрэлі напісаную таленавітым паэтам і празаікам Віктарам Гардзеем "Малую дзіцячую Чырвоную кнігу", што выйшла ў выдавецтве "Беларусь" у 2008 годзе. Паколькі ў ёй расказваецца пра рэдкія віды беларускай фаўны, яна адразу стала сваёй для выхавацеляў дзіцячых садкоў, настаўнікаў пачатковых класаў, а таксама педагогаў, якія займаюцца пазашкольнай работай. Яны паспяшаліся пазнаёміць з ёй і саміх дзяцей. Гэта ж свайго роду міні-энцыклапедыя па прыродзе.**

Летась у тым жа выдавецтве "Беларусь" пабачыла свет яшчэ адна "Малая дзіцячая Чырвоная кніга" В. Гардзея. Пра змест яе сведчыць падзагаловак "Ахоўная флора". За апошнія 100 гадоў беларуская флора недалічылася каля 70 відаў раслін, а многія віды істотна скараціліся. Сярод знікаючых — і тыя, што здаўна вельмі шанаваліся ў народзе. Іх можна напаткаць у нацыянальнай міфалогіі, у вусна-паэтычнай творчасці. Для прыкладу, святаяннік горны, чараўнік зеленакветкавы, чыставуст каралеўскі. Дый пра многія іншыя расліны з любоўю і захапленнем, а ў асобных выпадках з дасціпнай усмешкай і гумарам (дарэчы, і ў гэтым адметнасць ягонай творчасці, не ў апошнюю чаргу той, што адрасавана дзецям), расказвае В. Гардзей. Расказвае так захоплена, як гэта рабіў і ў першай частцы, прысвечанай фаўне.

Шчыра прызнаюся, што і сам я, пакуль не прачытаў першую "Чырвоную кнігу" В. Гардзея, не ведаў, напрыклад, што ёсць матылёк, які называецца адмірал, ці не менш экзатычны від — мядзведзіца гера. Гэта толькі матылі, героямі ж кнігі з'яўляюцца зубры, бабры, кот лясны, начніца вялікая, сом еўрапейскі, чарапаха балотная, стронга ручаёвая... Хіба пералічыш усе віды, якія патрабуюць нашай пільнай аховы і зберажэння! І пра кожны від В. Гардзей піша з любоўю. Застаецца толькі падобраму пазайздросціць ягонаму майстэрству, уменню сказаць так, каб гэта запаміналася, а разам з тым і заклікала да ашчаднага стаўлення да таго віду, пра які гаворыцца.

Уваходзіны ж у свет флоры пачынаюцца з верша "Кветкі роднай зямлі". Калі ў папярэдняй кнізе В. Гардзей прапанаваў уступны артыкул "Не шкодзь прыродзе, жыві з ёю ў згодзе!", што было цалкам апраўдана, бо шмат каго з чытачоў неабходна было пераканаць у тым, наколькі гэта важна — зберагчы для нашчадкаў харастсва жывёльнага і расліннага свету, то ў новай кнізе аўтар звяртаецца ўжо і да чытача, які ў гэтым упэўніўся сам, паспеўшы адкрыць для сябе непаўторнасць беларускай фаўны.

Прачула і сардэчна В. Гардзей прамаўляе:

*Цвіці, мая калючая шыпшына!*
*Пара святла і радасці прыйшла.*
*І матылёк зноў*
*кружыць над лагчынай,*
*І зноў на кветкі падае пчала.*

Аднак праз гэтую радасць і замілаванне прасочваецца і трывога, што знаходзяцца яшчэ людзі, якія забываюць пра неабходнасць "жыць у любові, з прыгажосцю ў згодзе". "Самотна мне, — прызнаецца паэт, — балюча і прыродзе, // Калі завяне ў спёку васілёк". Міжволі прыгадваецца Максім Багдановіч. Памятаеце, як у сваім знакамітым "Апокрыфе" Максім Кніжнік прамовіў: "...добра быць коласам; але шчаслівы той, каму дадзена быць васільком. Бо нашто каласы, калі няма васількоў?" Пазатэкстава ў В. Гардзея гучыць тое самае. Яму балюча не толькі за маленькі сінявокі васілёк, таму і заклікае: "Званочкі не тапчы над роснай сцежкай! // Не рві маю шыпшыну, не ламай! // І сачацвет аранжавай усмешкай // Азорыць наш бясконца мілы край".

Паэтавай любоўю, захапленнем, замілаваннем, што перарастаюць у заклапочанасць, збянтэжанасць, трывогу, і прасякнута новая "Малая дзіцячая



Чырвоная кніга", у якой расказваецца пра шмат якіх "чырванакніжнікаў". Гаворыцца так праўдзіва і пераканаўча, што адразу ўяўляеш, як выглядае тая ці іншая расліна, даведваешся, чым адметная яна, чым адрозніваецца ад шэрагу іншых, якія гэтаксама патрабуюць да сябе не толькі пашанотлівага стаўлення, а і ўважліва-клапатных адносін.

Як хоць бы чыставуст каралеўскі. Здавалася б, ну што ў ім асаблівага:

*У сямействе сваім велікан,*
*Ёсць асобіны*
*ростам два метры.*
*Хай карона не зводзіць у зман —*
*Гэта папараць з воўчае нетры.*

Але, як мяркуюць вучоныя, менавіта чыставуст каралеўскі — дарэчы, самы вялікі папаратнік у Беларусі — даў падставу для з'яўлення легендаў і паданняў пра міфічную папараць-кветку, якая, быццам, расцвіўшы ў Купальскую ноч, цвіце ўсяго некалькі імгненняў. У чыставусце каралеўскім "здзіўляе яркае свячэнне спораў, але не на ніжнім баку лісця, як звычайна, а на асобнай мяцёлцы, якая нагадвае нейкую фантастычную кветку. Цікава, што споры пачынаюць свяціцца якраз напярэдадні Купалля".

Кніга-то "Малая дзіцячая...", але дзякуючы цудоўнаму веданню яе аўтарам прыроды, у дадзеным выпадку расліннага свету, і перад дарослым чытачом адкрываецца шмат цікавага, пазнавальнага, а ў нечым і новага. У залежнасці ад таго, наколькі дасведчаны той, хто возьме яе ў рукі. Вобразна кажучы, з прыроднага таленту В. Гардзея — усяго многа.

Прынамсі, можна знайсці адказ на тое, адкуль з'явіліся такія вядомыя выразы і выслоўі, як прайсці праз церні, цярновая дарога, цярністы лёс. Дый некаторыя іншыя, блізкія ім паводле свайго значэння. Аказваецца, выток неабходна шукаць у сліве калючай, што інакш называецца цёрн звычайны. Шыпы, якія з'яўляюцца на яе галінках, не страшныя хіба што пчолам:

*Чарнеюць слівы —*
*іх тут многа,*
*А цёрн калючы, як знарок.*
*Адсюль — цярновая дарога,*
*Адсюль — і церневы вянок.*

У гэтай кнізе прадстаўлена без малога сто відаў раслін. Характэрна тое, што шмат якія з іх у асноўным растуць там, дзе беражліва ставіцца да захавання жывёльнага і расліннага свету, а гэта — заказнікі і запаведнікі, самым галоўным сярод якіх, як вядома, з'яўляецца Белавежская пушча. Аднак можа пахваліцца багаццем сваёй флоры і маляўнічае возера Свіцязь. Ёсць тут нават даледавіковая флора — прыбярэжнік аднакветкавы, палушнік азёрны, лабелія Дортмана, якія, канечне ж, таксама сталі героямі "Малой дзіцячай Чырвонай кнігі". Адна з самых прыгожых — лабелія Дортмана, што расце на чыстым пясчаным дне возера, дзе глыбіня не перавышае 1—2 метраў.

Дылогія В. Гардзея пра "чырванакніжнікаў" — унікальная з'ява ў нашай літаратуры. Нічога падобнага дагэтуль не было. Дый у нашых суседзяў таксама пакуль ніхто не ўзяўся паэзіяй і прозай расказаць пра рэдкія віды фаўны і флоры. Ажыццявіць падобны праект В. Гардзею ўдалося дзякуючы таму, што ён з маленства любіць родную прыроду. Аднак не ў меншай ступені і таму яшчэ, што цікавіцца рознай прыродазнаўчай і прыродаахоўнай літаратурай. Вялікая эрудзіраванасць і дапамагла яму ў гэтай па-сапраўднаму падзвіжніцкай рабоце.

Атрымалася свайго роду энцыклапедыя для маленькіх, у якой, як і вымагае таго сам "жанр", выбраны алфавітны прынцып падачы матэрыялу, а назвы жывёл, птушак, насякомых, раслін прыведзеныя ў адпаведнасці з сучаснай навуковай класіфікацыяй. Самае ж цікавае, што гаворка пра іх вядзецца як у вершах, так і ў прозе. Прытым празаічная частка — гэта дакладныя звесткі, што дазваляюць лепш зразумець той ці іншы від рэдкага прадстаўніка фаўны (указваецца, дзе ён жыве ці жыў).

Не адмаўляючы высокага творчага майстэрства Віктара Гардзея, трэба, аднак, сказаць і пра тое, што ягоная "Малая дзіцячая Чырвоная кніга" ў дзвюх частках — гэта да ўсяго і кніга-ўчынак. Толькі пісьменнік, які не на словах, а на справе самаадданы любіць сваю Радзіму-Беларусь, можа ўзяцца за ўвасабленне такой маштабнай, але разам з тым і надзіва адказнай задумы. Можна колькі заўгодна клясціся ў любові да Бацькаўшчыны, але нават пальцам не паварушыць, каб здзейсніць штосьці канкрэтнае. У жыцці В. Гардзей нешматслоўны, характар у яго, калі можна так сказаць, не мітынговы, але зрабіў ён такое, што само па сабе сведчыць: родная Беларусь для яго — усё.

> *"Дылогія В. Гардзея пра "чырванакніжнікаў" — унікальная з'ява ў нашай літаратуры. Нічога падобнага дагэтуль не было. Дый у нашых суседзяў таксама пакуль ніхто не ўзяўся паэзіяй і прозай расказаць пра рэдкія віды фаўны і флоры. Ажыццявіць падобны праект В. Гардзею ўдалося дзякуючы таму, што ён з маленства любіць родную прыроду.*

Менавіта такой любоўю прасякнута і напоўнена сэрца В. Гардзея. Гэтай любові ён чакае і ад падрастаючага пакалення. Таму і напісалася ім "Малая дзіцячая Чырвоная кніга", дзве часткі якой як два шырока распасцёртыя крылы бусла, які лунае ў небе нашай Бацькаўшчыны і быццам разумее, што лепшай зямлі на планеце няма. Свае думкі В. Гардзей часам падмацоўвае спасылкамі на творы Янкі Купалы, Міхася Лынькова, Уладзіміра Караткевіча і іншых пісьменнікаў, а гэта яшчэ ў большай ступені ўзмацняе выхаваўчае ўздзеянне на чытача.

У прадмове "Не шкодзь прыродзе, жыві з ёю ў згодзе" В. Гардзей расказвае пра тое, як працавалася яму над "Чырвонай кнігай". Праца ад задумы да яе ажыццяўлення заняла каля двух дзесяцігоддзяў. Пачалося ўсё, калі аўтар загадваў аддзелам фаўны ў рэдакцыі часопіса "Родная прырода", і, як прызнаецца, "вельмі



хутка зразумеў, што жывёльны свет Беларусі ведаю даволі павярхоўна, прынамсі, не так добра, як гэта патрабуецца рэдактару навукова-папулярнага выдання. Бянтэжылі спецыфічныя тэрміны, незнаёмыя, малаўжытковыя назвы асобных звяроў і птушак, таму, як кажуць, давялося на хаду перавучвацца". Як нельга да месца прыйшліся кнігі пра прыроду, прачытаныя ў маленстве.

Былі і іншыя ўспаміны: уражанні дзіцячых і юначых гадоў, праведзеных у Ганцавіцкім раёне — па-сапраўднаму нерушавым, асабліва на той час, прыродным кутку Палесся, дзе вадзілася нямала рэдкіх насельнікаў фаўны. Дый флора была надзіва багатая. У пазнанні ж яе В. Гардзею вельмі паспрыяла тое, што ягоная бабуля Марыя Андрэеўна славілася ў наваколлі вялікай траўніцай і народнай лекаркай. Дзякуючы ёй яшчэ школьнікам ён, па сутнасці, і пачаў чытаць кнігу роднай прыроды. Прынамсі, тыя старонкі яе, што звязаныя з раслінным светам. І назаўсёды застаўся ўдзячным бабулі за гэтыя, калі можна так сказаць, урокі прыродазнаўства. Таму яшчэ ў юнацтве напісаў верш, які назваў "Аптэка бабулі Мар'яны".

*Я помню, бабуля лячыла*
*Людзей на вайне як магла.*
*І хатка, дзе зёлкі сушыла,*
*Вясковай аптэкай была.*

*Калі ж самой сіл не стала,*
*На поле альбо сенажаць*
*Бабуля мяне пасылала*
*Гаючыя травы збіраць.*

*Збіраў я чабор, і сардэчнік,*
*І піжму, і ліпавы цвет,*
*Бо знаў я, малы чалавечак,*
*Што нехта ў пакутах жыве.*

Значна пазней, калі стаў вядомым пісьменнікам, В. Гардзей, пішучы аўтабіяграфічную трылогію "Аселіца ў басейне Чорнага мора", прысвяціў сваёй бабулі аповесць "Блаславёныя зёлкі". Аселіца гэтая, па ягоных словах, сапраўды зіхацела, свяцілася ўсімі колерамі вясёлкі адразу за хатай, а ў самой хаце "па ўсёй сцяне, дзе тырчыць нейкі цвік, абапал вялікай торбы развешана процьма старых бабуліных каптуроў і чэпчыкаў, якія, сцёршыся да дзірак, яшчэ доўга служаць гаспадыні ў якасці пакоўных торбачак для зёлак". Хлапчуком, нахадзіўшыся з бабуляй па лясах і лугах, ён ужо і сам добра ведаў, што пры хваробах жывата карысна піць адвар з альховых шышак, глог дапамагае сардэчнікам і нервовым людзям, а калі ў некага з вас моцны кашаль і ліхаманка, то ад прастуды лепшага сродку, чым гарачы ліпавы чай, на свеце, мабыць, не бывае. Што многія ахоўныя расліны таксама маюць лекавыя ўласцівасці, ён і стараўся падкрэсліць у другім томе "Малой дзіцячай Чырвонай кнігі". Пры гэтым абавязкова напамінаў: нельга забываць, што пэўны від знаходзіцца пад пагрозай знікнення. Значыць, трэба падумаць, ці зрываць тую ці іншую зёлку. Хай лепей расце, яе пры хваробе можна замяніць іншай, якая больш распаўсюджана.

Важна і тое, што абедзве кнігі цудоўна ілюстраваныя. Дзякуючы вядомаму фотамайстру Ігару Бышнёву кожнага "чырванакніжніка", у першую чаргу жывёл, можна ўбачыць на ўласныя вочы.

Як быццам, тое, што можна было зрабіць, зроблена. Тым не менш...

Віктар Гардзей цешыць сябе спадзяваннем: "Два прыгожа афармленыя тамы так і просяць, каб іх аб'ядналі ў адну кнігу. Першую, пра ахоўную фаўну, хацелася б крыху дапоўніць новымі вершамі, зрабіць больш чытэльнымі асобныя празаічныя замалёўкі. Патрэбны матэрыял пра тых ці іншых "чырванакніжнікаў" у мяне ёсць, і назапашваўся ён не адно дзесяцігоддзе. Урэшце, "Чырвоная кніга" напісана для маленькіх жыхароў беларускай краіны, таму і цепліцца ў маёй душы надзея, што аб'яднаны том "Малая дзіцячая Чырвоная кніга" калі-небудзь будзе выпушчаны ў серыі «Школьная бібліятэка».

Што можна да гэтага дадаць? Хіба толькі тое, што хацелася б, каб пажаданне аўтара спраўдзілася. Зразумела, у выдаўцоў сёння, як, бадай, ніколі, шмат цяжкасцей, ды на любові да прыроды нельга эканоміць. Таму, верыцца, будуць знойдзены сродкі для выдання дылогіі ў серыі "Школьная бібліятэка".

Анатоль ТРАФІМЧЫК

# Падзел, што праходзіў па сэрцы Якуба Коласа

Тэма савецка-польскага падзелу Беларусі ў айчыннай паэзіі — шырокая, шматслойная — застаецца па-ранейшаму слаба даследаванай, нягледзячы на багацце і неадназначнасць матэрыялаў. У сувязі з гэтай тэмай звычайна згадваюць верш Якуба Коласа "Беларускаму люду" (1921) з сёння шыракавядомымі радкамі "Нас падзялілі — хто? Чужаніцы, // Цёмных дарог махляры...", хаця стасоўна падзелу Беларусі Песняр не абмяжоўваўся толькі адным вершам. Больш за тое, самы вядомы твор класіка ўтрымлівае выказванні пра тое, што рабілася ў роднай старонцы, гвалтаванай чужынцамі.

Сам жа К. Міцкевіч за гады ваеннага ліхалецця ў якасці мабілізаванага прайшоў ваенную падрыхтоўку і нават пабываў на фронце (румынскім), цяжка захварэў, быў камісаваны і асеў у Курскай губерні. Падаецца, што менавіта там ён ясна ўсвядоміў адсутнасць роднасці з расійскім народам. Вось што піша ён сябру Янку Купалу: "С позиций пришел в Обоянь, где жила моя семья, больным человеком. Брат[о]к мой милый! Случалось тебе когда-нибудь застрять где-нибудь на железнодорожной станции, ждать поезда? Вот в таком положении чувствую я себя теперь, где бы я ни находился. Всё жду, когда же наступит возможность оставить эту Московщину и вновь очутиться среди своих людей. Скажу тебе, друже, татарский здесь народ. Болит моя душа по Белоруссии. Чувствуешь ли, братец, как тяжко жить на чужбине? <…> Чувствую я, однако, одно: бедный, бедный наш народ! Как несправедлива его доля! И когда только дождётся он просветления? Много встречал я наших виленцев, минчан, которые склоняются от востока к западу, ждут избавления ныне от Германии. Я, однако, остаюсь при своем мнении до гроба: немцы не дадут нам счастья. Немцы знают, что делают: им нужно утопить великий народ в братской крови, обессилить и обездолить его. Что же нам делать? Пробуждать в народе самосознание, ориентация должна быть на самого себя".

Гэтыя перажыванні трохі пазней, у 1919 г., Якуб Колас занатоўвае ў XVIII раздзеле "Новай зямлі" "Зіма ў Парэччы":

*Далёка я ад межаў родных*
*Сярод людзей,*
*душой халодных*
*І сэрцам чэрствых.*
*<…>*
*О родны край!*
*О край пакуты,*
*Нягодай цяжкаю прыгнуты!*
*Калі ж ты збудзеш тое гора,*
*Што і цяпер там, як і ўчора,*
*Як і даўней, цябе знішчае*
*І горкім смуткам авявае?*

Антон Адамовіч слушна заўважае, што пачатак гэтага раздзела дае нам "паэтаву ацэнку самое перажыванае ім тады савецка-польскае акупацыі Беларусі як "нягоды цяжкае", "гора, што і сягоння, як і ўчора, як і даўней яе знішчае", "часу вялікага разбурэння", "здзеку, што чалавек — звер чалавеку так чыніць злосна, неўспагадна" — без якога-небудзь выразнення ўва ўсім гэтым акупантаў польскіх ад савецкіх ды абодвух — ад іхных папярэднікаў гістарычных з "учора" й нат аж з "даўней" (калі каго крыху й выдзяляецца, дык якраз людзей савецка-расейскага ізаляцыйнага наваколля аўтара, і гэта — як "людзей, душой халодных і сэрцам чэрствых"…)".

> *Можна меркаваць, што паэма "Новая зямля" ўзнікла на глебе расстання аўтара з родным куточкам: у астрозе з'явіліся пранізлівыя, глыбока лірычныя радкі, з якіх пачынаецца твор; працяг пісаўся на Куршчыне — "рыжабародым краі"; а добрая палова гэтай перліны беларускага мастацтва слова паўстала ў Савецкай Беларусі.*

Ваенны і курскі перыяды Якуб Колас праз колькі гадоў назаве "паднявольным блуканнем" (падкрэслена намі. — **А. Т.**), напісаўшы ў апошнім раздзеле "Новай зямлі":

*…А там дарога, зноў дарога,*
*Разлука з краем, і трывога,*
*І паднявольнае блуканне,*
*І гэта нуднае змаганне*
*За інтарэсы жывата…*

Папярэднія перажыванні паэта, успрыманне Расіі як чужыны, а расіян як татараў, маскалёў (але ніяк не братоў-славян) спрычыніліся да выспявання Коласа-нацыяналіста, зварот якога да мінулага ў той час не мог не азначаць і пазіцыі паэта, скіраванай супраць гаспадарання суседзяў, чужынцаў у Беларусі. Радзіму паэт хацеў бачыць вольнай.

Нягледзячы на тое, што беларускі народ на той час заявіў пра сваё існаванне, акрэсліў этнічныя межы, краіна была падзелена. Між тым палітычныя падзеі далі падставу для аптымістычнага погляду ў будучыню. У першай палове 1920-х гг. савецкая ўлада бярэ курс на беларусізацыю. Дзякуючы нэпу імкліва аднаўляецца эканоміка. Беларускае сялянства, дагэтуль рабаванае з розных бакоў прыхаднямі, урэшце адчула значную палёгку.

К. Міцкевіч, змучаны вайной і напаўгалодным існаваннем на чужынскай Куршчыне, неўзабаве пасля падзелу вяртаецца ў Беларусь — у Мінск. Жыццё паэта наладжваецца. Але не быў бы ён народным Песняром, калі б не жыў інтарэсамі краіны. А яе тады распалавінілі, навязваючы на абедзвюх частках каланізацыйныя парадкі. І калі датуль антысаветызм Якуба Коласа быў яшчэ дастаткова аморфным, то ў 1921 г. ён канкрэтызуецца, каталізатарам чаго становіцца менавіта падзел Беларусі.

Антысавецкія матывы, іншы раз з акцэнтам на тэме падзелу Беларусі ворагамі-чужаніцамі, сустракаюцца і ў паэме "Новая зямля". У перыяд 1921 — 1923 гг. былі створаны 17 (з усіх 30) раздзелаў "энцыклапедыі беларускага сялянства" (Алесь Адамовіч). І паводле назірання Антона Адамовіча, у тых раздзелах, напісаных ужо ў Савецкай Беларусі, выпады супраць сучаснасці асабліва вострыя (трэба разумець, у параўнанні з ранейшымі, нават астрожнымі, раздзеламі): "Гэтак, у раздзеле XVI (1922) знаходзім абураную філіпіку супраць спраўцаў Рыжскага падзелу Беларусі, без выразнення сярод іх бальшавікоў ды палякаў, праўда, толькі з крыху меншай вастрынёй і выразнасцю, чымся ў крыху ранейшым лірычным вершы таго ж Коласа «Беларускаму люду»". Паэт, які адчувае сваё перабыванне пад Саветамі як пад "варожай пятою" (выраз з апошняга раздзела "Новай зямлі", датуемага 1922 — пачаткам 1923 г.), дэкларуе, што "нявіднымі ніцмі" "моцна-моцна звязан" з "малюнкамі роднае краіны", хоць і зараслі "пуцявіны // У гэты мілы мой куточак":

*І зараслі не палынамі,*
*Не крапівой, не драсянамі,*
*Не чаратом, не лебядою —*
*А беларускаю бядою.*
*Ды покі будзе сэрца біцца,*
*Яно не зможа пагадзіцца*
*Ні з гэтым гвалтам,*
*ні з бядою*
*Над нашай роднаю зямлёю…*

Паэт праклінае "вусны, рукі", якія на "мілы край адвечнай мукі" "ланцуг кавалі // І ў твар зняважліва плявалі!" (у чым бачыцца перагуканне з кавалямі Коласавых "Родных малюнкаў"), разам з тым выказваючы надзею,

*Што хоць не мы,*
*дык нашы дзеці*
*Убачаць цэльным*
*цябе ў свеце!*

Аднак, як бачым, апошнія раздзелы "Новай зямлі" менш рэзкія. Верагодна, тут спрычыніліся і тое, што пасля лета 1922 г. у Савецкім Саюзе друкаванае слова становіцца падцэнзурным.

Можна меркаваць, што паэма "Новая зямля" ўзнікла на глебе расстання аўтара з родным куточкам: у астрозе з'явіліся пранізлівыя, глыбока лірычныя радкі, з якіх пачынаецца твор; працяг пісаўся на Куршчыне — "рыжабародым краі"; а добрая палова гэтай перліны беларускага мастацтва слова паўстала ў Савецкай Беларусі. Пры іншых абставінах (без зняволення, доўгай дарогі дадому) твора, магчыма, або не было б зусім, або ён быў бы кардынальна іншым. У далейшым — у страшныя 1930-я — з мэтай перавыдаць паэму аўтар сам пераацэньвае свой твор, кажучы пра неадпаведнасць яго лейтматыву эпосе. Народны паэт відавочна "дыпламатнічаў" дзеля ўлагоджвання кан'юнктуры. Хаця з іншага боку, аўтар і не хлусіў: каштоўнасці мастацкага твора і бальшавіцкай аксіялогіі кардынальна разыходзіліся.

Увогуле тэма падзелу Беларусі ў творчасці Якуба Коласа дазваляе прасачыць эвалюцыю нацыянальнай пазіцыі паэта. З "краёўца" ён вырастае ў "дзяржаўніка". Спрычыніліся да такіх перамен і перыпетыі ў лёсе самога творцы, і трагедыя падзелу роднай краіны.

Паэма "Новая зямля" з'яўляецца выразным індыкатарам грамадзянскіх поглядаў аўтара. У гэтым творы Якуб Колас даў ацэнку трагічным падзеям у Беларусі, пікам якіх стаў падзел краіны. У сваю чаргу самі тыя падзеі, хоць і прысутнічаюць у тканіне паэмы хутчэй як адступленні, у пэўнай ступені сталі перадумовай яе стварэння.

Школа добрых пачуццяў

## З белым лебедзем — праз жыццё

Раіса БАРАВІКОВА



Не так даўно сустрэла Віктара Карамазава, сказала, што хачу ў гэтай рубрыцы звярнуцца да паэзіі Сцяпана Гаўрусёва. І адразу ж пачула ўзрушанае: "Ну вядома! Даўно не ўспаміналі Сцяпана. А памятаеш яго верш «Я вырас пад гарматнымі стваламі»?" Ну як жа не помніць… Быў ці не сакавік 1966-га. Позні вечар. Мы з Таццянай Дзмітрусёвай, выкліканыя незабыўным Аляксеем Пысіным у Магілёў на семінар пачаткоўцаў, сядзім на падаконні ў пакойчыку яшчэ не дабудаванага інтэрната лаўсанавага завода, куды нас размясцілі на начлег. Таня бярэ адну з кніжачак, якія нам даў Пысін са словамі: "Чытайце, дзяўчаты, вучыцеся!", перагортвае старонкі і чытае:

*Я вырас пад гарматнымі стваламі,*
*Я мераў час секундай, а не днём,*
*Я вызначаў свой рост не пад сталамі —*
*Пад расчахлёнай пашчай, пад агнём…*

*Мы не змаглі даверыць ночы сіняй,*
*Уздрыгвалі, як хруснуць дзе дубцы.*
*І з "юнкерсаў" падбітых алюміній*
*Ламалі для дзяўчат на грабянцы…"*

Гэта адна з ранніх кніг вершаў Сцяпана Гаўрусёва "Шчодрасць". Потым было шмат іншых кніг, ён працаваў вельмі плённа, нягледзячы на розныя жыццёвыя раздарожжы. І, як у кожнага магутнага паэта, сярод мноства вершаў ёсць такія, што помняцца і помняцца… Учытайцеся: "Чорны воран, белы лебедзь — гляну ўвысь і на жарству. Мяне воран не зачэпіць, покуль з лебедзем жыву"… Так, белы лебедзь — сімвал чысціні, дабрыні, высакароднасці. Калі носіш гэта ў сабе, тады і ніякае зло не зачэпіць, ніякая нікчэмнасць. А як забыцца на верш "Пярсцёнкі з медных пятакоў", колькі болю і драматызму ў радках: "Вайной разгойданае вецце шумела ўсцяж ля бальшакоў. Кляпалі хлопцы пад павеццю пярсцёнкі з медных пятакоў…" І ўжо заключная страфа: "…Калі сям'я твая ў напасці, зямля спаганена бацькоў, каму прынесці могуць шчасце пярсцёнкі з медных пятакоў?" Так званы "магілёўскі куст" нашай Паэзіі даў ёй неўміручыя радкі пра той трагічны час ваеннага ліхалецця. І, вядома, найперш — Аляксей Пысін, але за ім адразу ж і Сцяпан Гаўрусёў.

Можна было б цытаваць і цытаваць, нават цэлыя вершы, але хочацца згадаць і самога Сцяпана Захаравіча. Упершыню я пабачыла яго восенню 1967 года ў фае Опернага тэатра, дзе адбываўся Пленум пісьменніцкага саюза, на якім адразу кінуўся ў вочы дужага складу, высокі і прыгожы мужчына з шавялюрай густых валасоў, злёгку кранутых сівізною. "Хто такі?" — запыталася ў некага і пачула: "Сцяпан Гаўрусёў". Непасрэднае знаёмства адбылося пазней. Да свайго сораму ніколі яму не сказала: "Дзякуй!", хоць заўжды помніла і помню, што, калі выйшла мая першая кніжка "Рамонкавы бераг", патэлефанаваў Аляксей Васільевіч і сказаў: "У «Магілёўскай праўдзе» буду друкаваць на твой бераг рэцэнзію Тані Гаўрусёвай — пляменніцы Сцяпана…", якая, напэўна, і была напісана ёю па падказцы Гаўрусёва. І яшчэ быў момант, гэта ўжо з будзённага жыцця. У сярэдзіне сямідзясятых працую ў "ЛіМе", нашу доўгія спаднічкі, якія тады былі ў модзе. І вось неяк заходзіць Сцяпан Захаравіч. Адразу стала шумна ў кабінеце, а потым ён і кажа: "Ведаеце, дзяўчаты і хлопцы, а я ж сёння ў выдавецтве ганарар атрымаў, — паглядзеў на маю доўгую спадніцку і дадаў: — А пойдзем-ка, Рая, у ЦУМ, я табе нармальную жаночую спадніцу куплю!"

Тады я аджартавалася, а цяпер шкадую, няхай бы і пайшла ў той ЦУМ! Была б у мяне спаднічка — як памяць — ад выдатнага Паэта Сцяпана Гаўрусёва.

# Неўміручая зорка Максіма

Анастасія ХУРСЕВІЧ

Імкліва набліжаецца 120-годдзе з дня нараджэння вядомага беларускага паэта Максіма Багдановіча. Ва ўсіх навучальных установах краіны ў чарговы раз згадваюць біяграфію нашага класіка. Але сухія факты ўжо, бадай, прыеліся школьнікам. Што ведае тыповы вучань пра Максіма Багдановіча? Тое, што пражыў ён крыху болей як 20 гадоў, выдаў зборнік вершаў "Вянок" і памёр ад сухотаў у Ялце. Гэта, безумоўна, важна. Але ж жыццё кожнага чалавека, тым больш таленавітага і вядомага, — гэта захапляльная гісторыя. Варта толькі капнуць глыбей, зазірнуць у мінулае, зацікавіцца лёсам асобы…

Менавіта гэта і зрабіў Алесь Марціновіч — аўтар кнігі "Свяці, зорка, свяці", прысвечанай жыццёваму і творчаму шляху Максіма Багдановіча.

Калі кніга толькі трапіла мне ў рукі, я, па шчырасці, не надта ўзрадавалася. "Напэўна, будзе сумна", — падумала я. Аднак ужо праз некалькі старонак маё меркаванне змянілася, прычым у супрацьлеглы бок. Кніга сталася не толькі выдатным вучэбным дапаможнікам, але і выключна цікавым творам.

Падрабязнай біяграфіі Максіма Багдановіча папярэднічае дасканалае вывучэнне яго радаводу, ажно да прапрадзеда паэта. Пра маладосць, знаёмства і сямейнае жыццё бацькоў Максіма Адамавіча чытаеш з непадробным захапленнем. Яшчэ цяжка пазнаць у маленькім сыне Максімку будучага паэта. Мы проста знаёмімся са звычайнай сям'ёй, якая жыве ў згодзе і ўзаемнай любові, становімся сведкамі кранальных хатніх сцэн, спачуваем героям у цяжкія для іх часы.

Старонка за старонкай — і мы ўжо назіраем станленне будучага класіка беларускай літаратуры. Вось ужо Максім — актыўны, таленавіты, адукаваны малады чалавек, закаханы ў прыгажуню Ганну Какуеву. Гэта каханне паэтычнае, чыстае і трагічнае для Максіма. Менавіта Ганне Какуевай прысвечаны многія яго цудоўныя вершы.

Усё далей вядзе нас аўтар сцежкамі Максіма Багдановіча. Новыя гарады, знамянальныя даты, лёсавызначальныя сустрэчы… І разам з тым — непазбежнае згасанне Максіма Багдановіча. Чытаючы пра апошнія дні класіка, дні без сям'і, без сяброў, я адчула сапраўдны боль. Да слёз шкада было і Адама Ягоравіча, які не паспеў развітацца з сынам. Алесь Марціновіч змог закрануць струны чалавечай душы, пранікнёна напісаўшы пра гэтую трагедыю.

Кніга прызначана для дзяцей і падлеткаў, таму аўтар піша проста, дае ўсе неабходныя тлумачэнні. У выніку "Свяці, зорка, свяці" чытаецца лёгка і пры гэтым змяшчае шмат новых для школьніка звестак. Варта сказаць і пра выдатную, багатую беларускую мову аўтара, думаецца, пасля прачытання гэтай кнігі многія змогуць узбагаціць свой лексічны запас, адчуць сябе больш упэўнена, свабодна, размаўляючы па-беларуску. Выданне "Свяці, зорка, свяці" прыдасца на ўроках беларускай літаратуры, бо, як вядома, інфармацыя запамінаецца нашмат лепш, калі яна пададзена ў цікавай, займальнай форме.

Асабіста мне кніга "Свяці, зорка, свяці" дапамагла паглыбіць свае веды, лепш зразумець асобу і талент нашага слыннага паэта, за што хочацца шчыра падзякаваць Алесю Марціновічу.



Васіль Макарэвіч

* * *

*Рака шырока ў вусці пазяхне —*
*Марозік, як ні цісннуў, не дацісннуў.*
*Мне дай зіму — за пазухай яе*
*Я панясу ў далёкае дзяцінства.*

*Са мной адліга — сумная кума*
*З азёрамі вады празрыста-талай.*
*І не прыходзіць пад акно зіма —*
*Няўжо дарэшты ногі адтаптала?*

* * *

*Табе не пагражаў вянок з гароху,*
*Хоць фіміям ты ўладам не кадзіў.*
*Калі крыху быў не ў ладах з эпохай,*
*То пад руку з жанчынаю хадзіў.*

*На кожны промах маецца прычына*
*І свой рэзон і довад на вяку.*
*На схіле год ты не ў ладах з жанчынай —*
*Ідзеш з эпохай-паннай пад руку.*

* * *

*З дзіцячай ласкай: "Косю-кось…" —*
*Ты вешаўся каню на шыю.*
*Ды з пожні нёс яму пракос*
*Мядовай пахкай канюшыны.*

*На тлумным дзедавым гумне*
*Празрыстай раніцай пагоднай,*
*Здаецца, дзякаваў ён мне, —*
*Ў аглоблях галавой пагойдваў.*

* * *

*Зірні — абсерваторыя за шпілямі*
*Трымае ноччу пільніцай дазор.*
*І неба па-над горадам зашпілена*
*На гузікі вачастых круглых зор.*

*Пра тое, што жыве наш свет не байкамі,*
*Дажджамі метэораў сведчыць ноч.*
*І месяц усплывае круглым бакенам*
*Шторазл ля Шляху Млечнага, наўзбоч.*

* * *

*Дажджы кіслотныя піла.*
*А сёння, дужая, скупая,*
*Цвіце так гнеўна крапіва,*
*Аж дол пад ёю ускіпае.*

*Ступіўшы ранкам на аблог,*
*І цэлы дзень амаль украдкай*
*З яе вачэй чартапалох*
*Не зводзіць, як з арыстакраткі.*

* * *

*Агні гараць амаль на ўсіх капрах.*
*І ноч ідзе. Нашто пытацца броду?*
*А вецер ходзіць побач, па барах,*
*Ды рэжа клёнам жоўтыя бароды.*

*Яму не спіцца. Можа быць, падман,*
*Што недзе спяць, як дзеці, ураганы.*
*Ці ўдарыць раптам нафтавы фантан*
*І Млечны Шлях затопіць з берагамі?*

* * *

*А па двары, як бесхацінец-бомж*
*Пасля кантынентальнага запою,*
*Ідзе сусветны крызіс басанож*
*Слановай ацяжэлаю ступою.*

*Са збітым комам лямцу-барады,*
*Хоць і назвацца можа нават кумам,*
*Ён пакідае за сабой сляды —*
*Не лепшыя ані ад Каракумаў.*

* * *

*Плячом аднесці небасхіл не змог,*
*Не пагасіў і кратэра кадзіла.*
*І зноў цярэшся ў века каля ног,*
*Нібыта нейкі цюцька шалудзівы.*

*А грымне гром і скаланецца луг*
*З калматым і сівым*
*чартапалохам, —*
*Спалохана зірне тады наўкруг,*
*Хоць і бамбёжкі зведала, эпоха.*

* * *

*А зыркія фарбы Шагала*
*З майстэрні, карцін і паліц,*
*Ажно да Парыжа шугалі,*
*Гатовы і Луўр падпаліць.*

*Прывёз чарадзея ў завулак*
*І ў дзіўным мігценні Стажар,*
*Парыж даў Шагалу прытулак,*
*Каб толькі не ўспыхнуў пажар.*

* * *

*Не насіў ты піялу*
*І кінжал на поясе.*
*Дык бяры, дружок, пілу*
*У тайзе, ля полюса!*

*Паваждаешся з пілой,*
*Снег, як проса, месячы, —*
*Здасца ноччу піялой*
*Запалярны месячык.*

* * *

*На сэрцы неспакойна, —*
*Жанчына йдзе ў красе*
*І грудак дзве іконы*
*Пад блузкаю нясе.*

*Нясе, як два дзіцяткі.*
*Скажы, хіба не цуд?!*
*Святою Багаматкай*
*Саджу яе на кут.*

* * *

*Ці то зайздрасць,*
*ці то рэўнасць*
*Зноў пракраліся мне ў сны.*
*Дзве княгіні, дзве царэўны —*
*Пладаносныя сасны!*

*На душы ў іх ласкі залеж,*
*Прыіск шчодрай светлаты.*
*Хутка, хутка пойдуць замуж —*
*Едуць з піламі сваты!..*

* * *

*Маланкі паляць магній,*
*Каб высвеціць наўскос,*
*Як на крыжы ён смагне*
*Каторы век, Хрыстос.*

*А хто рвануўся з месца,*
*Каб з хвіляю жуды*
*Да губ яго паднесці*
*Хоць кропельку вады?!*



*Фота Кастуся Дробава*



Надзея Парчук

## Я дзякую Табе…

*Цяпер мая душа ратунак свой знайшла:*
*ёй з неба ўпаў пучок праменняў.*
*Ён вымеў мой адчай дазвання, бы мятла,*
*і сыпануў свайго насення.*

*Насеннем тым было не смутак і не зло,*
*не ціша невыноснай адзіноты.*
*Як зернейка ўзышло, то сэрца ажыло*
*і сталася душы не да маркоты.*

*Я дзякую Табе, нябачны Дабрадзей,*
*За існую ў жыцці маім прысутнасць.*
*Пашлі Ты мне яшчэ пучок святых надзей,*
*каб услаўляла я Тваю Прамудрасць.*

*Ты сілы-моцы дай і шлях мой асвяці*
*святой Сваёй рукой, вадой жывою —*
*каб песняй мне гучаць ці кветкаю цвісці,*
*у промнях блаславёную Табою.*

## Каб шчасце нязгасна цвіло...

*Каб рэкі паілі нас чыстай вадой,*
*а ў полі калоссе шумела —*
*не цешмася, людзі, чужою бядой,*
*каб наша, крый Бог, не прыспела.*

*Каб лад быў у хатах, а ў душах — святло,*
*і радасць усмешкай вітала —*
*давайце маліцца за тое сяло,*
*дзе нас колісь маці люляла.*

*Павінна хоць штосьці застацца святым*
*у нашых знявераных сэрцах,*
*бо толькі жывём мы, пакуль даражым*
*Радзімай, рачулкай, азерцам.*

*Каб шчасце людское нязгасна цвіло*
*на нашых жыццёвых сцяжынах,*
*адорвайма іншых сардэчным цяплом —*
*найшчодра,*
*нястомна,*
*няспынна!*

## Дарожанька, дарога!..

*Ляціць мая дарога*
*да роднага сяла —*
*да краю дарагога,*
*дзе росы з серабра,*

*дзе сонца залатое*
*ўсміхаецца з нябёс —*
*зіхоткае такое*
*і шчырае да слёз,*

*дзе жыта каласіцца*
*высокаю сцяной...*
*Дык як не ганарыцца*
*радзімаю сваёй?!*

*Дарожанька, дарога!*
*Крылатая мая!*
*З тваёю дапамогай*
*зноў дома буду я.*

## Сіла слова

*Як мала трэба чалавеку,*
*каб ашчаслівіць дзень яго,*
*і не шукай заморскіх лекаў,*
*а два-тры словы — усяго!*

*Але такіх, каб самых-самых —*
*жаданых сэрцу і душы,*
*адным табой яму абраных, —*
*з кранальнай шчырасцю скажы.*

## На адным дыханні

*Мімалётна час пранёс*
*лета па-над гаем —*
*пазалотаю бяроз*
*верасень шугае,*

*зыркай барваю гарыць*
*маладзенькі клёнік,*
*вецер лісцем шамаціць,*
*восень піша дзённік,*

*дрэвы сыплюць прыгажосць*
*грыбнікам пад ногі...*
*Год заўжды, нібыта госць,*
*што забег з дарогі.*



Генадзь Коўш

## Роздумы

* * *

*Рэкі-лініі*
*На далонях*
*Зямлі —*
*Мацерыках.*
*Рэкі-лініі*
*Лёсу.*

* * *

*Вечар на вуліцы —*
*змрок.*
*Вечар у прыродзе —*
*восень.*
*Вечар у жыцці —*
*сталасць.*
*Для прыроды*
*ён чарговы.*
*Для жыцця —*
*адзіны.*
*Потым —*
*зорная ноч.*

* * *

*Мы жывём,*
*Каб у нечым*
*праявіцца.*
*Праяўляемся,*
*Каб потым у гэтым*
*жыць…*
*Мы праяўляемся*
*слязамі*
*на вачах.*

* * *

*Чалавек сівее.*
*Лісце жаўцее.*
*Грыб чарнее…*
*У кожнага*
*свой колер*
*старасці.*

* * *

*Жоўтыя лісткі дрэваў*
*пад нагамі.*
*Жоўтыя лісты паперы*
*ў архіве.*
*Адны — у архіве.*
*Другія —*
*пад нагамі…*
*Галоўнае,*
*каб былі*
*ў памяці.*

* * *

*Пачуцці.*
*Перажыванні.*
*Часта*
*мы кідаем іх*
*Пад ногі.*
*У выглядзе акурка*
*цыгарэты.*
*Кідаем,*
*Каб па іх*
*тапталіся.*

* * *

*Запалілася зорка.*
*Бо цемень*
*перайшла*
*дазволеныя межы.*
*Час кантралюе сітуацыю.*
*Мы — не.*
*І вінавацім у гэтым*
*зоркі.*

* * *

*Хачу разглядзець*
*Далячынь.*
*Не атрымліваецца.*
*Далёка.*
*Далячынь*
*хавае сябе*
*ў неразгледжаным…*
*Далячынь і ў Блізкім.*



# Арыенцір для выдавецтва

**Кнігарня і чытач ніколі не існавалі асобна адно ад аднаго. Гэта тое месца, дзе кожны чалавек, які цікавіцца літаратурай, знаходзіцца ў пастаянным пошуку "сваёй каштоўнасці", свайго сябра — той самай кнігі, можа нарэшце дасягнуць жаданай мэты. Напэўна, таму пляцоўкай для правядзення тыдня "Свет беларускай кнігі", арганізаванага выдавецтвам "Мастацкая літаратура", быў абраны сталічны магазін "Кнігі & кніжачкі" ААТ "Белкніга".**

**Кацярына БЯДУЛІНА,**
**фота Кастуся Дробава**

На імпрэзах, што прайшлі ў межах тыдня, можна было набыць цікавую і прыгожую кніжку, атрымаць аўтограф і пагутарыць з пісьменнікамі: Аленай Масла, Аксанай Спрынчан, Людмілай Рублеўскай, Віктарам Шніпам, Навумам Гальпяровічам, Алесем Марціновічам, Пятром Васючэнкам, Анатолем Бутэвічам, Анатолем Зэкавым, Віктарам Праўдзіным.

— Такія сустрэчы праходзяць не першы раз, прычым з вялікім поспехам, — падкрэсліў галоўны рэдактар выдавецтва "Мастацкая літаратура" Віктар Шніп. — Трэба адзначыць, што адной з галоўных задач літаратараў з'яўляецца стварэнне кніг, якія выхоўваюць падрастаючае пакаленне. Напрыклад, Алена Масла і Аксана Спрынчан прадстаўлялі дзіцячую літаратуру. Алесь Марціновіч прэзентаваў кнігу "Свяці, зорка, свяці. Дзецям пра Максіма Багдановіча". Менавіта непасрэдны кантакт нашых аўтараў, супрацоўнікаў выдавецтва і чытачоў дазваляе ўбачыць, якія кнігі карыстаюцца попытам. Чытачы, у сваю чаргу, маюць магчымасць задаць пытанні, якія іх цікавяць, і пачуць вычарпальныя адказы. Гэта дапамагае і пісьменнікам, і выдавецтву глядзець наперад.

Падчас тыдня беларускай кнігі была прадстаўлена і выдавецкая серыя "Казкі XXI стагоддзя" — задума актуальная і цікава выкананая. Кожная такая кніга — гэта не толькі сам тэкст. У ёй дадзена слова і аўтару, і мастаку, які аформіў выданне. А ў саміх казках аб'ядноўваюцца матывы беларускага фальклору і рэаліі, у якіх жывуць сучасныя дзеці. Яны вучаць любіць прыроду, выхоўваюць, дапамагаюць знайсці адказы на самыя розныя жыццёвыя пытанні, пашыраюць кругагляд. Нездарма Ханс Крысціян Андэрсен пісаў, што казка несмяротная, нават у самыя суровыя часы недзе яна жыве, і распавесці яе могуць штодзённыя рэчы — стары чаравік, гузік, аскепак шкла...

Свет беларускай кнігі на сённяшні дзень надзвычай разнастайны, пачынаючы з вершаў, загадак для самых маленькіх і да вельмі глыбокіх, філасофскіх твораў. Ці карыстаюцца яны папулярнасцю ў наведвальнікаў кнігарні? З гэтым пытаннем я звярнулася да дырэктара магазіна "Кнігі & кніжачкі" Алены Тарасюк.

— Беларуская кніга цяпер карыстаецца вялікім попытам, прычым гэта выданні як на рускай, так і на беларускай мовах. Пакупнікі з вялікай зацікаўленасцю гартаюць іх, прабягаюцца вачыма па некаторых старонках і потым вырашаюць набыць, — распавядае Алена Васільеўна. — У ліку асабліва папулярных можна назваць гістарычныя выданні, бо кніга пра мінулае расказвае пра нашых продкаў, побыт беларусаў, традыцыі… Гэта дае магчымасць з адлегласці мінулых гадоў паглядзець на сучаснасць, лепш ацаніць і зразумець яе. Гэта і альбомная прадукцыя, дзе можна знайсці незвычайныя фотаздымкі нашай краіны. Аднак захапляюцца гісторыяй не толькі турысты і дарослыя, але і дзеці! Часта ў кнігарню заходзяць вучні малодшых класаў і задаюць такія сур'ёзныя пытанні, што проста здзіўляешся.

Кожны ведае, што выхоўваць любоў да кнігі трэба з самага ранняга ўзросту. Таму што кніга — скарбніца ведаў і добры дапаможнік ва ўсім. Яе не можа замяніць ні тэлебачанне, ні радыё, ні нават Інтэрнэт.

***На здымку:** пісьменнікі Віктар Праўдзін і Анатоль Зэкаў падчас сустрэчы з чытачамі ў магазіне "Кнігі & кніжачкі".*

*У падтрымку чытання*

## Аляксей Жбанаў, бард, паэт, перакладчык:

# На месцы князя Вячкі

**Ганна ШЫБУТ,**
**фота аўтара**



— Бацькі казалі, што я пачаў чытаць рана, у чатыры гады. Чытаў усё, што трапляла ў рукі. Памятаю старую, без вокладкі, кніжку Міхася Лынькова "Пра смелага ваяку Мішку і яго слаўных таварышаў". Першая кніга, якая найбольш уразіла мяне, — "Малы і Карлсан-з-даху" шведскай пісьменніцы Астрыд Ліндгрэн. У пачатковых класах прыахвоціўся да твораў Янкі Маўра. Гэта класік беларускай прыгодніцкай літаратуры, наш Майн Рыд і Жуль Верн (іх кнігамі я, канечне, таксама захапляўся). Падабаліся і аповесці Паўла Місько "Грот афаліны", Леаніда Дайнекі "Меч князя Вячкі". Не адрываючыся, чытаў старонку за старонкай, уяўляў сябе на месцы галоўных герояў, перажываў і радаваўся разам з імі.

Калі казаць пра беларускіх творцаў, то ў падлеткавым узросце на фарміраванне майго светапогляду вельмі моцна ўплывала творчасць Уладзіміра Караткевіча, Васіля Быкава, Ніла Гілевіча, Максіма Багдановіча, Пімена Панчанкі. Напэўна, так было не са мной адным. "Каласы пад сярпом тваім" і "Дзікае паляванне караля Стаха" перачытваў неаднаразова з тым жа захапленнем. Цяпер у мяне і дома, і на працы шмат кніг. Спрабую чытаць усё адначасова. Неяк чым далей, тым больш звяртаю ўвагу на сучасных айчынных аўтараў, у тым ліку сяброў і знаёмых, якія дораць мне свае кнігі. На шчасце, пастаянна з'яўляюцца новыя імёны маладых паэтаў і празаікаў, пра якіх варта ведаць і сачыць за іх развіццём.

*Прэзентацыя*

# Лабірынты базыльянскай гісторыі

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ**

**У галерэі "Лабірынт" Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі адбылася прэзентацыя кнігі Сяргея Клімава "Базыльяне".**

Ці шмат мы ведаем пра гісторыю ордэна св. Базыля Вялікага? Спецыялісты, бадай, адзначаць, што гісторыя базыльянаў на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага бярэ пачатак з 1617 года, калі ўніяцкі мітрапаліт Язэп Руцкі, рэфармуючы манастырскае жыццё царквы, стварыў ордэн. Аднак яго гісторыя, як і падрабязнасці дзейнасці іншых каталіцкіх ордэнаў, што існавалі на беларускіх землях, малавядомая.

Гэтую "белую пляму" паспрабаваў ліквідаваць гісторык, дырэктар Нацыянальнага гісторыка-культурнага музея-запаведніка "Нясвіж" Сяргей Клімаў. Ён прадставіў манаграфію "Базыльяне", што выйшла ў выдавецтве Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. Куляшова. Гэта вынік даследавання, праведзенага ў межах навуковага праекта Інстытута Сярэдне-Усходняй Еўропы пад кіраўніцтвам прафесара Ежы Клачоўскага.

Як расказаў у сваім выступленні С. Клімаў, гэтай тэмай ён зацікавіўся ў канцы 1980 — пачатку 1990-х гадоў, калі працаваў у Мсціславе над стварэннем музея. У ваколіцах горада знаходзіўся шэраг манастыроў, у тым ліку базыльянскія. Але вядомая даследчыку навуковая літаратура не давала пра іх падрабязных звестак. Таму навуковец вырашыў распрацоўваць тэму сам. Наперадзе яго чакала праца ў Расійскім дзяржаўным гістарычным архіве ў Санкт-Пецярбургу, Архіве Санкт-Пецярбургскага філіяла Інстытута расійскай гісторыі Расійскай акадэміі навук, бібліятэцы музея Чартарыйскага ў Кракаве, Люблінскім архіве, бібліятэцы Люблінскага каталіцкага ўніверсітэта…

Аўтар манаграфіі імкнуўся запоўніць прагалы ў гісторыі манахаў-базыльянаў у найбольш складаны перыяд дзейнасці ордэна, у 1770 — 1830-х гадах. Нездарма С. Клімаў лічыць, што базыльяне сталі адзіным ордэнам, які ўвабраў у сябе традыцыі Вялікага Княства Літоўскага. Наколькі пастаўленая задача была выканана, меркаваць спецыялісту і шараговаму чытачу.

*Клуб бібліяфілаў*

# Зорны аўтограф

Людміла СІЛЬНОВА,
галоўны бібліёграф
НДА кнігазнаўства
Нацыянальнай
бібліятэкі Беларусі

**У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі нядаўна выяўлены дарчы надпіс маладога паэта, юрыста і будучага вядучага спецыяліста ў галіне міжнароднага і касмічнага права Яўгена Каровіна на зборніку яго ўласных лірычных вершаў і перакладаў з французскай паэзіі "Мой куточак" (Масква, 1916). Сярод перакладаў — вершы паэтаў-парнаснікаў Тэафіля Гацье і Стэфана Малармэ.**

Гэты невялікі зборнік у мяккай белай вокладцы ў далёкім 1916 годзе быў падораны беларускаму этнографу, музыколагу і пісьменніку Мікалаю Янчуку (1859 — 1921), колішняму выпускніку Маскоўскага ўніверсітэта (праўда, не юрыдычнага, як малады паэт, а гісторыка-філалагічнага факультэта.

У 1916 г. М. Янчук жыў і працаваў у Маскве. Акрамя напісання навуковых прац па этнаграфіі, фалькларыстыцы, літаратуразнаўстве Янчук займаўся арганізацыяй этнаграфічных канцэртаў, а таксама спрабаваў свае сілы ў драматургіі. Ён выявіў сябе аўтарам арыгінальных сцэнічных твораў "Выхаванец", "Піліп-музыкант", "Святы вечар", "Не памогуць і чары, як хто каму не да пары" і іншых; працаваў над інсцэніроўкай "Гайдамакаў" Тараса Шаўчэнкі для опернай сцэны. Мікалай Янчук з'яўляецца і аўтарам цудоўнай мелодыі песні на верш Янкі Купалы, якую называюць сёння па першых словах "Не загаснуць зоркі ў небе...". Ён прысвяціў песняру свой сяброўскі верш.

Верагодна, што маладога Яўгена Каровіна звязвалі з Мікалаем Янчуком менавіта літаратурныя стасункі. Акрамя зборніка вершаў "Мой куточак" (1916) аўтар-пачатковец меў у творчым набытку ўжо і драматычныя сцэны ў трох дзеях "На краі" (Масква, 1914). У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі гэта кніжка, на жаль, адсутнічае. Але яна захавалася, таксама з дарчым надпісам (цікава, каму?), у Расійскай нацыянальнай бібліятэцы, пра што сведчаць сучасныя каталогі РНБ, даступныя дзякуючы Інтэрнэту.

Дарэчы, паводле энцыклапедычных даведнікаў, Мікалая Андрэевіча правільней было б вызначаць як беларускага, украінскага і рускага вучонага-славіста. Янчук быў адным з заснавальнікаў і рэдактарам легендарнага ў шматнацыянальнай Расійскай імперыі часопіса "Этнографическое обозрение". І, паводле меркавання ўкраінскага этнографа Мікалая Сумцова, за адно гэта пасля смерці ён павінен быў трапіць у рай. Пазней, у 1921 г., Янчук увайшоў у склад прафесуры толькі што створанага ў Мінску Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (на кафедры беларускай літаратуры і этнаграфіі). Сюды ж, у Мінск, праз нейкі час трапіла і ўласная бібліятэка "зорнага прафесара".

На тытульным аркушы зборніка "Мой куточак", у самым версе яго — там, дзе "неба", — лунае выкананы акуратным дробным почыркам дарчы надпіс на рускай мове: "Глубокоуважаемому Николаю Андреевичу Янчуку от всегда признательного автора. 6.XI.1916".

Мы захацелі даведацца больш падрабязна пра асобу і лёс аўтара гэтай таленавітай паэтычнай кніжкі. Аказалася, што доўгі час у савецкай бібліяграфіі поўнае імя аўтара (з імем па бацьку) нават не было вядома. І толькі нядаўна было вызначана, што аўтар паэтычнага зборніка "Мой куточак" — гэта ў далейшым буйны савецкі вучоны, доктар юрыдычных навук, прафесар Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта, а пасля сусветна вядомы юрыст-міжнароднік, адзін з заснавальнікаў навукі міжнароднага касмічнага права Яўген Каровін (1892 — 1964). Ён аўтар дзясяткаў кніг і больш як 200 артыкулаў па актуальных праблемах міжнародных зносін і сусветнай бяспекі, у тым ліку прац па міжнародным касмічным праве ў сувязі з новай для чалавецтва дзейнасцю па даследаванні і выкарыстанні касмічнай прасторы. Яшчэ ў 1929 г. Я. Каровін — эксперт ад СССР на канферэнцыі па паветраным праве ў Парыжы. У 1958 г. на сесіі Міжнароднага фонду Гуга Гроцыя ў Мюнхене ён быў узнагароджаны медалём імя Гроцыя за вялікія заслугі ва ўстанаўленні права міжзорнай прасторы. На Парыжскім кангрэсе ў 1963 г. Я. Каровін узнагароджаны медалём Міжнароднай федэрацыі астранаўтыкі. Каровін таксама чытаў лекцыі ў Парыжскім універсітэце, Гаагскай акадэміі міжнароднага права, Вышэйшай дыпламатычнай школе ў Маскве. А яшчэ ён быў адным з кіраўнікоў Савецкага Чырвонага Крыжа, пасля таварыства "Веды", пастаянным членам рэдкалегіі і супрацоўнікам вядомых часопісаў "Международная жизнь" і "Новое время".

Сучасны рускі перакладчык, літаратуразнавец і выдавец Яўген Віткоўскі, стваральнік электроннай анталогіі "Век перакладу", піша, што менавіта паэтычны зборнік "Мой куточак", пра які мы вядзём гаворку, даў нагоду для пошуку матэрыялаў паэта-перакладчыка Яўгена Каровіна. Кніга была нейкі час, відаць, недаступная для бібліёграфаў і даследчыкаў літаратуры, таму гэтыя пераклады не ўлічаныя ні ў адным паказальніку ці анталогіі. У нас "Мой куточак" Яўгена Каровіна 87 гадоў захоўваўся ў калекцыі "Бібліятэка М. Янчука" ў фондах Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Усяго ў Электронным каталогу НББ мы налічылі і каля 30 іншых кніг знакамітага юрыста, аднак не мастацкіх, а толькі навуковых.

1 студзеня 2035 г. навуковая і творчая спадчына заслужанага дзеяча навукі РСФСР Я. Каровіна пяройдзе ў грамадскі набытак. Цудоўна было б убачыць там і раней невядомыя літаратурныя творы знакамітага вучонага, які ў маладосці падпісаў Мікалаю Янчуку сваю першую кнігу паэта і перакладчыка.

# Сакрэты «амбарнай кнігі»

**У мінскай кнігарні "Кніжны салон" прайшло чарговае пасяджэнне сталічнага таварыства бібліяфілаў.**

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ,
фота Кастуся Дробава

Пагадзіцеся, часцей за ўсё поспех мерапрыемстваў залежыць ад загадзя распрацаванай праграмы. Спяшаючыся ў прыцемках кароткага лістападаўскага дня ў "Кніжны салон", ведаў, што стану сведкам дакладу гісторыка Ільі Куркова "Беларускае таварыства бібліяфілаў і яго час". Але з-за пэўных арганізацыйных прычын фармат мерапрыемства быў зменены, што нечакана… пайшло яму на карысць.

Нямногія ведаюць, што ў кватэры літаратуразнаўцы Адама Мальдзіса доўгі час захоўвалася гэтак званая "амбарная кніга". Такую назву ёй даў Уладзімір Караткевіч. Аднойчы, знаходзячыся ў гасцях у Адама Іосіфавіча, славуты пісьменнік пачаў маляваць у пустым канцылярскім сшытку, які, хутчэй за ўсё, павінен быў выкарыстоўвацца ў гаспадарчай сферы. З лёгкай рукі Караткевіча ў ім пакідалі свае запісы, малюнкі і аўтографы іншыя госці — пісьменнікі, літаратуразнаўцы, крытыкі.

Трэба адзначыць, што некаторыя малюнкі з выдання ўжо вядомыя шырокай аўдыторыі. У прыватнасці, з яго рабіліся копіі для кнігі "Свет вачыма Караткевіча". Таму не дзіўна, што апошнім часам у бібліяфільскіх колах з'явілася ідэя ажыццявіць факсімільнае выданне "амбарнай кнігі". Істотна, што абое ўладальнікі, якія завіталі на пасяджэнне таварыства, станоўча ставяцца да такой ініцыятывы. Пішу "ўладальнікі", бо гаспадар "амбарнай кнігі" Адам Мальдзіс у свой час перадаў яе ў Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва. Дырэктар апошняй установы Ганна Запартыка прадставіла прысутным унікальны прадмет, а таксама разам з Адамам Іосіфавічам пазнаёміла іх з дэтэктыўнымі падрабязнасцямі падарожжа кнігі ў Оршу і няўдалай спробай яе выкрадання.



Што датычыць выступлення І. Куркова, дык, як мне падаецца, дакладчык занадта сканцэнтраваўся на эпосе, падчас якой існавала таварыства, што не дазволіла яму непасрэдна разгледзець дзейнасць бібліяфілаў. Зрэшты, будзем спадзявацца, што даследаванні працягнуцца.

***На здымку: дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Ганна Запартыка расказвае пра "амбарную кнігу".***

*Азбука Морзэ*

Чэслава ПАЛУЯН,
Раіса МАРЧУК,
Кацярына БЯДУЛІНА

● У галерэі "Панарама" Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі адкрылася выстаўка фотамастака, лаўрэата многіх міжнародных фотаконкурсаў Аляксандра Ласмінскага "Пад небам Гродзеншчыны". У экспазіцыі прадстаўлена каля 50 фотаздымкаў, зробленых аўтарам з вышыні птушынага палёту. Майстэрства знаходзіць неабходны ракурс, беражлівае выкарыстоўванне палітры прыродных фарбаў, лаканічная кампазіцыя ў кожнай рабоце даюць права гаварыць пра аўтара як пра сапраўднага творцу, які ўзнімае фатаграфію да ўзроўню мастацкай каштоўнасці. "Пад небам Гродзеншчыны" — фотапаэзія, падараваная ўсім нам з любоўю. Падчас адкрыцця выстаўкі адбылася прэзентацыя фотаальбома Ласмінскага "Гродзенская зямля з вышыні птушынага палёту", які пабачыў свет у выдавецтве "Беларусь".

— Выдавецтва Беларускага Экзархата стала лаўрэатам у пяці намінацыях VI адкрытага конкурсу выданняў "Асвета праз кнігу", арганізаванага Выдавецкай радай Рускай Праваслаўнай Царквы. У Доме Праваслаўнай кнігі ў Мінску прайшла прэзентацыя дзейнасці Выдавецтва Беларускай Праваслаўнай Царквы. Лепшымі былі названы беларускія кнігі "Дзетдомаўскія апавяданні" Наталлі Касцюк і "Пад крыжам лёсу" Анатоля Шаркава, Уладзіміра Грозава і Юрыя Бясцвіцкага, "Закон Божы". Ідэю кнігі Наталлі Касцюк "Дзетдомаўскія апавяданні" можна акрэсліць так: што б ні здарылася, выконвай адну з галоўных хрысціянскіх запаведзяў — любі бліжняга свайго, як самога сябе. Рабіць гэта бывае вельмі цяжка, бо не па сілах часам любіць таго, хто робіць балюча, не па сілах дараваць. Але толькі такая любоў здатная ачысціць і выратаваць душу, прывесці яе да Бога. У кнізе "Пад крыжам лёсу" на аснове аўтарскіх даследаванняў, архіўных дакументаў і рассакрэчаных матэрыялаў савецкай выведкі, а таксама ўспамінаў удзельнікаў падзей у даступнай і займальнай форме асвятляюцца малавядомыя факты Другой сусветнай вайны і пасляваеннай гісторыі.

● У Адэсе абвешчаны міжнародны конкурс на праект помніка Уладзіміру Высоцкаму. Такое рашэнне прыняў выканкам Адэскага гарадскога савета. Помнік будзе ўстаноўлены перад будынкам Адэскай кінастудыі на Французскім бульвары, дзе шмат здымаўся Высоцкі. Тут памятаюць яго "Вертыкаль", "Кароткія сустрэчы", "Інтэрвенцыю", знакаміты серыял "Месца сустрэчы змяніць нельга". Праекты на конкурс будуць прымацца цягам трох месяцаў. Адкрыюць помнік Высоцкаму 24 ліпеня 2012 года, напярэдадні 32-й гадавіны з дня яго смерці.

— Шостая кніга серыі "Дзённік слабака" Дэфа Кіні ў першы тыдзень пасля рэлізу трапіла ў верхнія радкі рэйтынгу продажаў. За кароткі тэрмін колькасць прададзеных асобнікаў склала больш як мільён. Такі вынік пераўзышоў усе чаканні, але сезон падарункаў, што набліжаецца, можа прынесці яшчэ большыя сюрпрызы. Аналітыкі мяркуюць, што да канца года продажы могуць дасягнуць 4 мільёнаў. Першы тыраж бестселера склаў 6 мільёнаў асобнікаў, што само па сабе з'яўляецца рэкордам года для амерыканскага рынку.

● Асабістыя паперы Іосіфа Сталіна, лісты і кнігі — усяго больш як 28 тысяч дакументаў — былі пераведзеныя ў лічбавы выгляд і апублікаваныя ў межах праекта "Электронны архіў Сталіна". Гэта незвычайная задумка рэалізавана выдавецтвам Ельскага ўніверсітэта ў супрацоўніцтве з Расійскім дзяржаўным архівам сацыяльна-палітычнай гісторыі ў Маскве. У дадзены момант рэсурс знаходзіцца на стадыі тэсціравання. Мяркуецца, што пасля запуску архіва доступ для бібліятэк будзе адкрыты на платнай аснове.

# Вперёд — в прошлое

**Среди изданий, увидевших свет при поддержке ООО "Харвест", особое место занимают книги исторической тематики. Они рассказывают о прошлом нашей страны, знакомят с новыми историческими гипотезами, представляют неизвестные страницы истории других народов и государств. Сегодня мы продолжаем знакомить читателей с такими книгами.**

Денис МАРТИНОВИЧ, Юзефа ВОЛК











## История великого народа

Сегодня в мире насчитывается приблизительно 16 миллионов евреев. Больше всего в США — примерно 5,5 млн. человек. Около 5 млн. — в Израиле, до 2 млн. — в европейских странах, 1 млн. в Латинской Америке, порядка 300 тысяч в Канаде. Крупные еврейские общины имеются в ЮАР и других африканских странах, Австралии, Новой Зеландии.

Несмотря на то, что все, по сути потомки одного народа, они очень разные люди. Они говорят на языках своих стран, за пределами Израиля, как правило, не знают иврита. Среди них есть и белые, и чернокожие, и брюнеты, и рыжие, и набожные, и атеисты. Они в разной степени растворены в обществах, в которых живут. У каждого — свои привычки, культура и темперамент, которые сближают их с согражданами, но отдаляют от соплеменников из других уголков мира. Тем не менее они ощущают особенности своего исторического пути, чутки к традициям. У них общие предки.

В книге **Михаила Вольпе "Евреи, которые были"** история евреев излагается как история единого народа, а не отдельных общин, долго существовавших почти обособленно после изгнания из Палестины две тысячи лет назад. Как отмечает сам автор, главной своей задачей он считал последовательное изложение исторических событий таким образом, чтобы логика длительного пути еврейского народа была понятна любому интересующемуся человеку.

Издание состоит из двух частей. Первый раздел расскажет об истории народа, важных событиях на пути становления и развития традиций. Второй познакомит с основными понятиями еврейской культуры, изложенными в форме краткого энциклопедического справочника. В приложении вы найдёте информацию о средневековых еврейских путешественниках, а также познакомитесь с "Путешествием Вениамина Тудельского".

Ещё одна книга Михаила Вольпе — **"Еврейские традиции. Энциклопедия для детей и взрослых"** — написана совершенно в ином ключе. Поскольку издание адресовано и взрослым, и детям, в нём популярно рассказывается об истории еврейского народа — без больших научных выкладок, без глубоких исторических справок. Но кратко, чётко и увлекательно. Ещё более заманчивым издание делают яркие картинки, которые помогут заинтересовать детей и оставят в их сознании образ, нарисованный автором в тексте. Материал книги расположен в алфавитном порядке. Жирным шрифтом в тексте выделены слова, которые представлены в энциклопедии отдельными статьями. Это облегчает "несквозное" чтение книги (то есть изучение выборочных статей) и помогает запомнить её материал.

Из этого издания вы узнаете, что такое "бар мицва" и "бат мицва", ктуба и ешива, какой год называется "беременным", кто такой Дибук… Познакомитесь со многими реалиями культурной и религиозной жизни евреев.

В предисловии автор делает несколько оговорок. Он подчёркивает, что при цитировании библейских текстов отдавал предпочтение переводу из издания Торы. Поскольку он ближе к оригиналу на иврите и точнее отражает еврейский менталитет. Естественно, это издание не исчерпывает темы еврейских традиций, да и автор не ставил перед собой такой цели. Он отмечает: "Мне хотелось, чтобы дети и взрослые вспомнили о своих корнях, по возможности, получили наглядное (потому так много рисунков) представление о том, чем жили и живут евреи в разных странах, и что существенно позабыто нами".

## Как фильм о железной дороге

Один из ведущих операторов Национальной киностудии "Беларусьфильм" Олег Авдеев снял немало кинокартин. Работая над фильмами, он всегда с интересом знакомился с событиями прошлого. В своё время его внимание привлекли факты, связанные с началом строительства железных дорог в Российской империи. Эта тема настолько увлекла оператора и талантливого художника, что он начал иллюстрировать отдельные эпизоды из этой "железнодорожной эпопеи" — создавать картины. В результате — целая серия работ, объединённая в **альбом "Первые железные дороги России"**. Как отмечает доктор искусствоведения А. Красинский, "созданные Олегом Авдеевым иллюстрации вбирают в себя кинематографический опыт автора. Каждый сюжет — это не застывшая в своей законченности картина, а своего рода кинокадр, предполагающий продолжение".

И действительно, в работах Олега Авдеева словно оживает прошлое. Причём сама железная дорога не становится основным "героем картин". Она превращается в фон, который тем не менее влияет на жизнь героев — будь то офицер, любопытные дети, незнакомка или женщина, которая на вокзале встречает или провожает своего мужа.

Редкие сведения о строительстве первых железных дорог: Царскосельской (1837), Петербург-Московской (1851) и Белорусской (вторая половина XIX века), представленные в виде картин, не только подчёркивают индивидуальный стиль художника, но и могут стать хорошим помощником при изучении прошлого нашей страны.

## Загадки и отгадки

Какие причины содействуют интересу людей к истории? Национально сознательная часть соотечественников видит связь между прошлым и настоящим. Кто-то ищет в событиях давно минувших дней романтику и приключения. Возможно, отдельные читатели философского склада характера являются приверженцами теории "золотого века", а поэтому просто не интересуются нашим днём.

Но есть люди, которые откроют любую книгу из банального любопытства и азарта, стремясь отгадать зашифрованные на её страницах загадки. Именно для такой категории читателей предназначена книга **Анны Спектор "100 величайших загадок истории от древнего Египта до наших дней"**. Согласимся, что тайны истории сопровождают человечество на протяжении веков. Некоторые из них давно раскрыты, но по-прежнему вызывают споры, другие же остаются неразгаданными. Пытаясь проникнуть в эти тайны, учёные делают грандиозные открытия, писатели создают новые произведения, а кинематографисты снимают фильмы. Но вместо того, чтобы ждать нового романа, кинопремьеры или церемонии вручения очередной Нобелевской премии, попробуем разгадать загадки вместе. Когда произошёл Всемирный потоп? Имелись ли у древних людей электрические приборы? Кто открыл Америку? Кем был таинственный узник Бастилии? Почему "Титаник" потерпел крушение? Эти и иные загадки, которые до сих пор будоражат умы человечества, вы сможете разгадать сами.

## Сто дней до приказа

Наверное, сложно найти гражданина Беларуси или тем более жителя столицы, который не видел на отечественном телевидении или на экранах минского метрополитена рекламу армии и армейской службы. Поскольку автор этих строк не является профессиональным социологом, предсказать эффект этой рекламы сложно. Но как увеличить количество желающих посетить белорусские военкоматы, я знаю точно. Для этого достаточно купить своему ребёнку книгу **Бориса Проказова "Детская энциклопедия военного дела. Техника, униформа, знаки различия"**, которая предназначена для среднего школьного возраста. Поверьте, лет через десять рубежи родины будут в надёжных руках!

В энциклопедии в увлекательной форме изложена история развития военного дела от Древнего мира до наших дней. Автор рассказывает о значимых сражениях, боевой технике, а также о великих полководцах, от гения которых зависел исход войны. "Детская энциклопедия военного дела" показывает, как на войне одни люди становились героями, другие — преступниками, а третьи — связными. Кроме того, здесь рассказывается обо всех видах вооружения (история создания, применение, модернизация), военной униформе и знаках различия как офицерского, так и рядового состава.

Книга написана интересным и доступным языком, поэтому увлечёт юного читателя уже с первых страниц. А наличие схем, карт и прекрасных иллюстраций поможет лучше представить картину военных событий.

## От Трои до Рима

Читатель, познакомившийся с энциклопедией военного дела, теперь является достаточно опытным в этих делах. Поэтому без колебаний ответит на вопрос, какой фактор может оказаться решающим в определении победителя сложной битвы. Уверен, что большинство поклонников военной истории скажут, что единственного фактора не существует. Количество войск и техники, правильный выбор позиции, разработка плана и его успешная реализация… Однако согласимся, что во все времена существовало одно обстоятельство, которое могло или перечеркнуть всё созданное целым государством, или, наоборот, привести его к победе при чрезвычайно неблагоприятных обстоятельствах. Как вы уже, наверное, догадались, речь идёт о наличии или отсутствии у армии талантливого полководца.

В книге **"Полководцы Древнего мира. От Троянской войны до падения Рима"** историк **Ангус Констам** предлагает читателю перенестись в эпоху протяжённостью более двух с половиной тысяч лет. Эта великолепно иллюстрированная книга представляет более 160 выдающихся военачальников — от мифологического воина Ахилла до китайского генерала и стратега Чжоу Юя. Увлекательные краткие биографические очерки о великих полководцах, таких, как Александр Великий и Юлий Цезарь, расположены в алфавитном порядке, в то время как географически эта книга охватывает войны и конфликты в пределах обширнейшего региона, раскинувшегося от Восточной Европы через Ближний Восток до Индии и Китая. Описания военных успехов и поражений полководцев древности, их методов ведения войны дают возможность сравнить мастерство военачальников армий греков и римлян с бесшабашностью варварских орд, которая, однако, не только наводила ужас, но и приносила свои результаты.



## Новые издания

# Душа, открытая Богу

Борис СЕЧЕНКО

**Три книги Святейшего Патриарха Московского и всея Руси Кирилла, выпущенные Издательством Белорусского Экзархата, сразу же нашли своего заинтересованного читателя. И не только среди людей верующих, но и среди тех, кому в наше непростое время зачастую не хватает настоящей духовной опоры. Её и находишь, знакомясь с высказываниями Святейшего, отрывками из текстов его выступлений, статей, опубликованных в периодике, ответами на вопросы во время пресс-конференций.**



Очередная, четвёртая книга Патриарха Кирилла "Храните веру в сердцах" (составитель Александр Велько) — по сути, продолжение предыдущих. В ней также можно найти ответы на многие вопросы, которые волнуют нашего современника, разобраться в сложных реалиях повседневной жизни, убедившись, что дойти до сущности многих из них можно только, когда обретёшь веру в Бога, поймёшь, что самая важная на земле истина — та, которая исходит от самого Бога.

Нельзя не прислушаться к суждениям Святейшего в начале раздела "Церковь Апостольская": "Большей мудрости и большей силы слова в роде человеческом не было, нет и никогда не будет. Церковь обладает величайшим сокровищем — она обладает Божественной истиной. Не человеческой, суетной и мирской — какой бы привлекательной ни казалась та суетная и мирская "истина" — Церковь обладает Божественным откровением, то есть тем, что Сам Бог пожелал сказать людям".

Патриарх напоминает, что "наша вера возникла не на пустом месте, это не результат человеческих измышлений, пусть даже самых возвышенных. Наша Вера — от Самого Господа". Святейший Кирилл подсказывает тем, кто ещё находится на пути духовных сомнений, где истина: "Церковь всегда была общиной исцеления, она объединяла народ, исцеляла физические и духовные недуги не словами пастырей, а силой Божией любви и благодати".

Насколько заинтересованный разговор ведётся, до какой степени широк охват проблематики, видно уже по названиям разделов: "Единая Святая Русь", "Жизнь по заповедям Христа", "Главное там, где Бог", "Любите ближнего", "О смысле жизни" и другие. Особое внимание Святейший обращает на молодёжь. Об этом, в частности, свидетельствует раздел "Молодёжи надо прививать духовность", хотя и в других разделах этот вопрос затрагивается в той или иной степени. Патриарх Кирилл обеспокоен тем, что "общество искушается ценностями, чуждыми христианству. В их основе лежит превратное понимание свободы, данной человеку Богом, и идея, что любой выбор правомерен, а мораль относительна. Таким образом, искажается само представление о нравственной норме и, как следствие, утрачивается понятие греха".

Наилучший пример того, какими жизненными ориентирами руководствоваться, — жизнь самого Патриарха Кирилла. "Я люблю всё, я люблю жизнь, — признаётся он. — Я люблю природу, людей, искусство, спорт, но больше всего в жизни я люблю то, чем я занимаюсь, — я люблю Церковь и люблю церковное служение, люблю молитву и люблю размышлять, люблю открывать свою душу Богу, потому что реально чувствую Его присутствие в своей жизни".

Святейший Патриарх Московский и всея Руси Кирилл призывает: "Храните веру в ваших сердцах и на этой вере основывайте всю свою жизнедеятельность. Будь то личная жизнь или общественное служение, будь то государственное служение или художественное творчество — всё достигает своей высоты и расцвета тогда, когда человеческие усилия соединяются с Божественной благодатью".

Да услышит голос этот каждый, кто познакомится с книгой "Храните веру в сердцах". Пропустив то, о чём говорится в ней, через свое сердце, суждения и размышления Святейшего воспринимаешь как важный духовный ориентир. Одновременно лишний раз убеждаешься, насколько насыщенная жизнь Патриарха Кирилла. Видишь, что он находит любую возможность обратиться в нём, ради кого и служит Богу. Ведь книга содержит только то, что было сказано им в 2010 — 2011 годах, да и то приведено в сокращенном виде. А получился объёмный том. Кстати, Издательство Белорусского Экзархата проявило удивительную оперативность. В качестве источника для публикации взята и Проповедь Святейшего Патриарха за Божественной литургией в храме в честь святых равноапостольных Константина и Елены г. Абакана, прозвучавшая 3 августа этого года.

---

Мікола ПРЫТЫКА

**Нядаўняя смерць слыннага рускага паэта Андрэя Вазнясенскага нагадала і такую гісторыю. У музеі "Дудуткі" ў вёсцы Пціч гасцяваў па запрашэнні публіцыста Яўгена Будзінаса і Вазнясенскі. Але мала хто ведаў, што не мінаў рускі паэт і вясковай хаты, дзе стала прапісаўся былы ваенны журналіст Андрэй Захаранка.**



*Андрэй Захаранка і Андрэй Вазнясенскі, Львоў, 1966 г.*

# Знаёмы Андрэя Вазнясенскага

Прычына простая — яны знаёмыя з 1960-х гадоў. У Вазнясенскага нават верш ёсць — "Лейтэнант Загорын":

*Я во Львове. Служу на сборах,*
*в красных кронах,*
*лепных соборах.*
*Там столкнулся с судьбой моей*
*лейтенант Загорин. Андрей.*

Далей ішло ўдакладненне прозай: "Дзіўна… Нават Андрэй Андрэевіч, 1933, 174. Боты 42. Ён даў мне сваю гімнасцёрку. Яна самкнулася на маіх грудзях тугая, як скура тапалі. І раптоўна над маёй галавой загаманіла чужое жыццё, як гамоняць кроны… "Дзіўна", — падумаў я". Дзіўнага, праўда, было няшмат. Праводзіліся зборы не проста афіцэраў запасу, а ваенных журналістаў. Так, у тыя ж 1960-я на Ціхаакіянскім флоце называлі жыццё і службу беларускія пісьменнікі Уладзімір Караткевіч, Генадзь Кляўко, Рыгор Барадулін. А Вазнясенскаму выпаў Львоў. І сустрэча з цікаўным да культуры, мастацтва, літаратуры цёзкам Андрэем Андрэевічам.

Наш зямляк нарадзіўся ў Рэчыцкім раёне, у Васілевічах. Яго малодшыя браты таксама выбралі журналістыку, літаратуру. Палкоўнік Леанід Захаранка рэдагаваў некаторы час "Белорусскую военную газету". На вялікі жаль, Леанід Андрэевіч таксама памёр. А другі брат — Мікола Захаранка, драматург, паэт, які жыве і працуе на Лагойшчыне. Адна з п'ес Міколы Андрэевіча была пастаўлена ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы.

Андрэй Захаранка, які на ніве ваеннай журналістыкі даслужыўся да палкоўніка, працаваў у "Красной звезде", напісаў некалькі аповесцей. Адна друкавалася і па-беларуску — у "Настаўніцкай газеце". Быў Андрэй Андрэевіч знаёмы з Бэлай Ахмадулінай, іншымі паэтамі, пісьменнікамі. На яго лецішчы ў Пціччы гасцяваў і рускі драматург Аркадзь Пінчук. Між іншым, родам таксама з рэчыцкіх Васілевіч. Ён, Аркадзь Пінчук, першую сваю кнігу апавяданняў выдаў у Мінску, па-беларуску. І ў Саюз пісьменнікаў Беларусі ўступіў у Мінску. Адну з рэкамендацый даў земляку народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін.

…А той верш са львоўскіх збораў сярэдзіны 1960-х і цяпер уваходзіць у многія выданні паэзіі Андрэя Вазнясенскага:

*Ночь.*
*Мешая Маркса с Авиценной,*
*спирт с вином, с луной Целиноград,*
*о России*
*рубят офицеры.*
*А Загорин мой — зеленоглаз!*
*И как фары огненные манят —*
*из его цыганского лица*
*вылетал сжигающий румянец*
*декабриста или чернеца.*

*Так же, может,*
*Лермонтов и Пестель,*
*как и вы, сидели, лейтенант.*
*Смысл России*
*исключает бездарь.*
*Тухачевский ставил на талант.*

*Если чей-то череп застил свет,*
*вы навылет прошибали череп*
*и в свободу*
*глядели*
*через —*
*как глядят в смотровую щель!*

*Но и вас сносило наземь, косо,*
*сжав коня кусачками рейтуз.*
*"Ах, поручик, биты ваши козыри".*
*"Крою сердцем —*
*это пятый туз!"*

*Огненное офицерство!*
*Сердце — ваш беспроигрышный бой.*
*Амбразуры закрывает сердце.*
*Гибнет от булавки*
*болевой.*

*На балкон мы вышли.*
*Внизу шумел Львов.*
*Он рассказал мне свою историю.*
*У каждого*
*офицера есть своя история.*
*В этой была*
*женщина и лифт.*
*"Странно", — подумал я…*

Побач з вёскай Пціч, дзе жыў "лейтэнант Загорын", на другім беразе ракі Пціч — старажытныя Дудзічы, радзіма многіх знакамітых асветнікаў, святароў, пісьменнікаў ды і проста добрых і цікавых людзей. Краязнаўца, этнограф, пісьменнік, перакладчык Аляксандр і кампазітар Міхал Ельскія, скульптар Карл Ельскі, паэт Уладзімір Дудзіцкі… Адсюль родам і маці рускага паэта, празаіка, перакладчыка Валерыя Ліпневіча. Між іншым, і цяпер, зіму праводзячы ў падмаскоўнай Рузе, ён улетку і ўвосень гасцюе на радзіме мамы, дзеда і бабулі. Дзед — Васіль Бардзіян, 1891 года нараджэння, закончыў у Дудзічах 4 класы царкоўна-прыходскай школы. У грамадзянскую вайну ганяўся за бандамі Махно. Бачыў камандарма Будзённага. Быў адным з першых старшыняў калгаса ў Дудзічах. У пухавіцкай вёсцы Валерый Ліпневіч напісаў сваю першую паэтычную кнігу "Трава і дождж". Пасля ў дзедавай хаце пісаліся многія вершы для кніг "Цішыня", "Дрэва і рака", "Невядомая планета".

— Першы дудзіцкі верш напісаны мною ў 13 гадоў, пасля лета і доўгай дарогі да цягніка — 12 кіламетраў пешшу, ды са слязьмі на вачах ад развітання з бабуляй і дзедам, — расказаў мне Валерый Ліпневіч.

Пра Дудзічы і ваколіцы, пра Андрэя Захаранку ёсць старонкі і ў мастацкім нарысе, ці нават аповесці, В. Ліпневіча "У крэсле пад яблыняй", надрукаванай у часопісе "Новый мир" у 2006 годзе. А ўваходзіў Андрэй Андрэевіч у літаратуру як мастацкі і жыццёвы вобраз спярша праз верш А. Вазнясенскага.

***Фота з архіва сям'і А. Захаранкі***

---



# Энцыклапедыя раёна

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

**У Мінску выдадзены ілюстраваны краязнаўчы энцыклапедычны даведнік "Бялыніччына". Выданне з'яўляецца творчым праектам рэдакцыі бялыніцкай раённай газеты "Зара над Друццю".**

На прэзентацыі кнігі аўтар праекта і ўкладальнік даведніка, галоўны рэдактар "Зары над Друццю" Міхась Карпечанка распавёў, што ідэя стварэння энцыклапедыі раёна з'явілася пасля выхаду ў газеце серыі даведачных матэрыялаў, напісаных у энцыклапедычным стылі. Было калісьці модна друкаваць "кніжку ў газеце" — развёрстваць пэўны тэкст так, каб пасля чытач мог выразаць і сшыць старонкі маленькай, кішэннага фармату кнігі. Але з матэрыялам, сабраным журналістамі пра гісторыю, тапаніміку Бялыніччыны, выдатных людзей мінулага і сучаснасці, калектывы і арганізацыі, гэтак нельга было паступіць. І сапраўды, якая ж энцыклапедыя на газетнай паперы і ў кішэнным фармаце?

Дружна бялынічане ўзялі ўдзел у падрыхтоўцы прэзентацыі выдання, якая прайшла ў мясцовым Цэнтры культуры з удзелам кіраўніцтва Бялыніцкага раёна, творчай грамадскасці і гасцей — групы беларускіх пісьменнікаў, якія завіталі ў Бялынічы ў рамках азнаямленчай паездкі па Магілёўскай вобласці. Прэзентацыя была выпрашана ў форме інтэрактыўнага падарожжа па старонках выдання з прадстаўленнем некаторых артыкулаў спецыялістамі (напрыклад, протаіерэй царквы ў гонар Абраза Бялыніцкай Божай Маці айцец Сергій распавядаў пра гісторыю славутай цудадзейнай іконы, а супрацоўніца Галоўчынскай сельскай бібліятэкі Іна Траццякова — пра мінулае Галоўчына), выхадам на сцэну некаторых герояў даведніка і канцэртнымі нумарамі музычных калектываў і асобных выканаўцаў, артыкулы пра якіх патрапілі ў выданне.

Цікавы пачын бялынічан можа стаць добрым прыкладам для энтузіястаў з іншых рэгіёнаў. І сапраўды, давайце дэтальна вывучаць гісторыю і сучаснасць роднага куточка, каб пасля далучыць гэтыя доследы да агульнай гісторыі нашай краіны.

**Не так даўно Беларусь прымала гасцей з Рэспублікі Польшча — славуты ансамбль "Śląnsk" імя С. Хадыны. Папярэдняя сустрэча мінчан з ім адбылася аж сорак гадоў таму! Прыхільнікі ансамбля прадчувалі свята песні, але канцэрт, які адбыўся, перасягнуў усе чаканні. Сто таленавітых музыкаў, танцораў з велізарнай мастацкай сілай прадставілі нацыянальны вобраз Польшчы, перадалі маляўнічыя карціны народнага жыцця палякаў. Беларусы сустрэлі артыстаў з захапленнем. Авацыі не аціхалі на працягу 20 хвілін. У віхуры фіналу залу і сцэну аб'яднала здравіца ў гонар Беларусі. Польскія артысты выканалі на беларускай мове песню "Бывайце здаровы!". Але пра ўсё падрабязней.**



**Валянцін ЧАБАН,**
**прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, кандыдат мастацтвазнаўства**

# Брава, «Śląnsk»!

Канцэрт у Мінску адкрыўся прывітальным харавым уступам і папулярнай песняй "Каралінка". Выкананне адразу ўдыхнула ў атмасферу Вялікай залы Палаца Рэспублікі ноту сардэчнасці. Хор у іх спявае магутна, суладна, інтанацыйна чыста і выключна музычна. Скрупулёзная праца хормайстра К. Анчыка адчувальная перш за ўсё ў тонкай дынамічнай нюансіроўцы. Багацце адценняў ёсць і ў інструментальным суправаджэнні. Дырыжор М. Банах па-майстэрску правёў усе вакальныя і танцавальныя акампанементы. Артыстычнае пераўвасабленне ў калейдаскопе вобразаў ансамбля зачароўвае. Нумары змяняюць адзін аднаго вокамгненна. Пры гэтым гледачу і слухачу ўсё зразумела без каментарыяў. А вось аддаць перавагу якому-небудзь нумару нялёгка. Бо ўся праграма і кожны яе складнік — залаты фонд, узор таленавітай творчай думкі. Высокая вакальна-харавая, танцавальная культура ўлучае народныя традыцыі і акадэмічную школу.

У майстэрстве выканання ўражлівае прафесійнае стаўленне да ўсіх элементаў мастацкасці. Агульная інтанацыя праграмы ансамбля "Śląnsk" светлая. Ва ўсім іскра радасці і весялосці. А яшчэ — захапляльны гумар. Асабліва ярка ён выявіўся ў нумарах "Два Міхалы", "Піе Куба да Якуба". Шчырым смехам публіка сустрэла камічны танец "Баба і дзед": танцоўшчык увасабляе сялянку з кошыкам за плячыма, дзе хаваецца яе няўдалы стары муж. Ён ляніва дрэмле, але і не абмінае выпадку "пабегаць" за маладымі дзяўчатамі. Кожны танец хвалюе, запальвае (балетмайстар Я. Сьвёнтак). Асаблівую арганічнасць існаванню танцораў у вобразе надае імправізацыйная свабода артыстаў. Аднак, свабода гэтая падпарадкавана строгай мастацкай дысцыпліне. У тэмпераментных скоках падхалянскіх горцаў вірue ваяўнічы дух, мужчынская моц, і, як і ва ўсялякім мужчынскім танцы, тут бачныя заразлівая зухаватасць, гарэзлівая весялосць. Танцавальная культура артыстаў раскрылася і ў польскіх класічных танцах: зграбнасць, падкрэсленая складнасць фігур, выразны рытм рухаў — усё гэта спалучалася ў выкананні "Паланэза-мазура". Найважнейшымі элементамі мастацкасці ансамбля "Śląnsk" з'яўляюцца кампазіцыйная дакладнасць сцэнічнага малюнка і касцюмы. Іх у гардэробе ансамбля… 1200!



Агульнае ўражанне ад канцэрта — свята ва ўсёй яго раскошы! Кароткае слова "Śląnsk" нясе ў сабе велізарны мастацкі змест: талент, багацце творчай думкі, шматфарбны свет вобразаў. Гэта жывы арганізм, створаны маэстра С. Хадынам паводле законаў прыгажосці.

Не толькі мінчан, але і маладзечанцаў парадаваў падарунак польскіх гасцей. За гэта шчыры дзякуй арганізатарам — Беларускаму канцэртнаму ўнітарнаму прадпрыемству "Фугата", якое ўзначальвае дырэктар, дырыжор ды імпрэсарыа, колішні выпускнік Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Віктар Дмухоўскі. Ідэя прадставіць славуты польскі калектыў беларусам нарадзілася ў яго больш як год таму. Гастролі старанна рыхтаваліся і паспяхова здзейсніліся. Віктар Дмухоўскі змог знайсці спонсараў: у ліку іх — Маршалак Сілезскага ваяводства, Інстытут імя А. Міцкевіча, Міністэрства культуры і народнага здабытку Рэспублікі Польшча, імпрэсарыят "Ла пасіёне кон мота" ў г. Чанстахове.

Дзе б ні выступаў "Śląnsk", усюды яму спадарожнічае поспех. Паводле слоў дырэктара ансамбля З. Церняка і мастацкага кіраўніка К. Ратайчака, гастролі калектыву распісаныя на некалькі гадоў наперад. З яго мастацтвам знаёмыя гледачы на ўсіх кантынентах. Нізкі вам паклон, сілезцы! Чакаем новых сустрэч з вамі.

***На здымках: спыненыя імгненні праграмы ансамбля.***

---

**Тамара ГАРАНІНА,**
**кандыдат філасофскіх навук, дацэнт кафедры філасофіі ГДУ імя Ф. Скарыны**

# Гамеліяда ва ўніверсітэцкіх сценах

**Нядаўна ва ўніверсітэцкіх сценах у выставачнай зале Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны з поспехам прайшла персанальная выстаўка прафесара Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Яўгена Шунейкі, якая была арганізавана пры падтрымцы БДАМ і валанцёрскага таварыства "Сябра дзяцей" пры ГДУ імя Ф. Скарыны.**





На выстаўцы экспанавалася 30 твораў у тэхніках жывапісу, акварэлі, пастэлі, а таксама ў арыгінальных тэкстыльных вырашэннях. Усе яны былі прысвечаны тэматыцы горада над Сожам, адсюль такая шматзначная назва выставы — "Гамеліяда", што прадугледжвае асэнсаванне вобразаў гомельскай гісторыі, сучаснасці, будучыні.

Сапраўды, сярод прадстаўленых твораў шмат такіх, якія ўпершыню ў беларускім мастацтве закранаюць знакавую тэматыку: "Апосталы Пётр і Павел у Гомелі", "Этнолаг Е. Раманаў у Нова-Беліцы", "Княгіня І. Пашкевіч з яе гомельскімі сіротамі-выхаванкамі", "Гомельская студыя імя М. Урубеля ў 1920 годзе", "Фартэпіяннае прысвячэнне М. Урубелю (1856 — 1910) і В. Сярову (1865 — 1911) у пакоях гомельскага палаца". Шэраг кампазіцый творца прысвяціў жыццю гомельскай універсітэцкай моладзі, станоўчаму гомельскаму розгаласу ў вялікім свеце, а таксама незабыўным матывам гомельскага парку і маляўнічым сожскім берагам. Змястоўную экспазіцыю дапоўніла серыя пейзажных матываў Клермон-Ферана (Францыя), горада-пабраціма Гомеля.

Адкрыццё выстаўкі прайшло як сапраўднае творчае свята. Перад шматлікімі студэнтамі ўніверсітэта і Гомельскага мастацкага вучылішча выступіў ветэран Вялікай айчыннай вайны, адзін з легендарных вызваліцеляў Гомеля Уладзімір Клыга, акцёр Гомельскага абласнога драматычнага тэатра Аляксей Бычкоў, дырэктар гомельскага выдавецтва "Барк" Міла Беразоўская і іншыя госці вернісажу. Прачула гучалі вершы, песні пра Гомель, яго гісторыю, вызваленне, сучаснае жыццё.

Выстаўка адразу ж набыла вялікую папулярнасць, за тыдзень яе наведала больш як 500 гледачоў. Можна сказаць, што яна мае свой экспазіцыйны працяг. Частка з падараваных універсітэту Яўгенам Шунейкам твораў знайшла сваё ганаровае месца на чарговай выстаўцы творчых работ педагогаў, супрацоўнікаў і студэнтаў ГДУ імя Ф. Скарыны, прысвечаных 68-й гадавіне вызвалення Гомеля ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

***На здымках: работы Яўгена Шунейкі, прадстаўленыя на выстаўцы ў ГДУ імя Ф. Скарыны.***

---

# Дыхаць... разам

**Арцём КУМЕЛЬСКІХ**

**Незвычайная для Маладзёжнага тэатра эстрады імпрэза адбудзецца на яго сцэне ўвечары 5 снежня: дабрачынны паказ сацыяльна-філасофскага спектакля "Дыхай са мной". Гэтая ўзрушальная пастаноўка — работа асаблівага тэатра "Мімоза", які з'явіўся ў Мінску 10 гадоў таму.**

Сярод айчынных творчых калектываў "Мімоза" і сапраўды асаблівы. Ён быў створаны ў лістападзе 2001 года пры ўстанове культуры і адпачынку інвалідаў "Інвацэнтр" і з часам заняў заўважнае месца ў сацыякультурнай прасторы нашай сталіцы, стаўшы паўнавартасным інтэграваным тэатрам, які паказвае свае спектаклі на розных пляцоўках горада. Грунтуючыся на прынцыпах арттэрапіі, "Мімоза" служыць ідэям сацыякультурнай рэабілітацыі інвалідаў. Рэжысёр і кіраўнік калектыву Вольга Прохарава бачыць сваю галоўную задачу ў тым, каб абыграць інваліднасць у спектаклі, падаўшы яе не як недахоп, а як адну з уласцівасцей чалавечай індывідуальнасці. На роўных удзельнічаюць у пастаноўках як людзі з рознай групай інваліднасці, так і не інваліды, што дае магчымасць тым і другім поруч пераадольваць комплексы, звязаныя са стаўленнем да інвалідаў у нашым грамадстве. І яшчэ адна асаблівасць: на базе гэтага тэатра створана каманда інтэграванага КВЗ "Батлейка", якая ўдзельнічае ў фестывалях міжнароднага ўзроўню.

Спектакль "Дыхай са мной", які паставілі Вольга Прохарава і рэжысёр па пластыцы Андрэй Каламіец (Беларускі рэспубліканскі ТЮГ), узнімае спрадвечную тэму змагання за чалавечую душу. Гісторыя, што адбываецца ў Еўропе 1529 года, распавядае пра духоўныя выпрабаванні на шляху спакус; пра фатальную дылему: ідэальная вонкавая прыгажосць ды агідны ўнутраны свет, звыродлівая знешнасць і самаахвярная высакародная душа. Пра барацьбу юных герояў за каханне. І выбар, які чалавек робіць сам.

Жана ЛАШКЕВІЧ

# Прэміяльная драма

## Палемічныя старонкі наўздагон падзеі

**Першую Нацыянальную тэатральную прэмію аспрэчвалі дванаццаць спектакляў: музычныя тэатры сапернічалі з лялечнымі, лялечныя — з драматычнымі; спектаклі балетныя, пластычныя, антрэпрызныя і для дзяцей у конкурсе на новую ўзнагароду не ўдзельнічалі; кожны тэатральны калектыў вылучаў на прэмію спектакль са свайго рэпертуару, як меркавалася, найлепшы; сто дванаццаць чалавек працавала ў журы — у якасці Беларускай тэатральнай акадэміі.**

Лялечны баль не склаў канкурэнцыю опернаму хору, драматычныя артысты не вызначылі стаўлення да аб'ектаў, прадстаўнік Міністэрства культуры адмыслова тлумачыў, што намінацыя "лепшае музычнае афармленне спектакля" не датычыць уласна музычнага спектакля... Конь і трапяткая лань у адны калёсы не запрагаліся: відавыя правілы тэатральнага мастацтва заставаліся непарушнымі, дый законы відаў мастацтва збольшага — на сваіх пазіцыях. А тое, што пераможцамі адначасова зрабіліся спектаклі оперны і драматычны (пастаноўка **"Набука"** Дж. Вердзі ды **"Не мой"** паводле А. Адамовіча), можна лічыць загадкавай "гульнёй любові й выпадку".

Паказальна, што лепшым рэжысёрам тэатральная акадэмія назвала Аляксея Ляляўскага за спектакль **"Драй швэстэрн"** ("Тры сястры" паводле А.Чэхава), дзе шматкроць перасякаючца, далучаюцца, яднаюцца ўсе чыннікі і складнікі спектакля лялечнага тэатра, прадметныя і акцёрскія; так, што ўзнікае нейкая асаблівая матэрыя, з якой тварыцца тэатральнае дзейства, а хрэстаматыйная п'еса перакідацца чароўнай незнаёмкай і ў шчыльным тэатральным асяроддзі вядзе рэй інтэлект. Думанне. Мысленне. Заразліва занятак, якім спакушаюць гледача ў добрым тэатры.

...Чатырох оперных зорак сабраў драматург Р. Харвуд у пансіянат для асоб сталага веку: яны мусяць паразумецца на падставе агульнага мінулага. Але існае паразуменне абяцае толькі будучыня, гэта значыць, агульная справа — падрыхтоўка квартэта з "Рыгалета". Чатырох дыхтоўных акцёраў Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа з адметным досведам сабраў рэжысёр Рыд Таліпаў у сваім апошнім спектаклі **"Квартэт"**. Пятую ролю ў гэтай кранальнай камедыі мусіла адыграць музыка Вердзі: яе прысутнасць вымагала ансамбля і спраўджанага жыцця ў мастацтве. Музыка не схібіла і апынулася на першых ролях, бо квартэт знаных коласаўцаў ўвесь час раскідаўся. Збіваўся. Пераважна на рэчытатыў.

Праз колькі дзён нешта падобнае адбіла **"Магічнае люстра пана Твардоўскага"** драматурга С. Кавалёва: лялечны спектакль з Гродна літаральна губляўся на сцэнічных абшарах Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага. Містыка й метафары імпрэзы біліся на аскепкі, фіналы і часавыя прасторы сыходзілі сцэнічным дымам, рэплікі як быццам страчвалі сэнс, а лялькі адмаўлялі сваё сцэнічнае першынство. Будова спектакля гойдалася і паволі хілілася, рызыкуючы абрынуцца.

Што гэта было? Недарэчнасць? Чужыя сцэны і пляцоўкі? Брак часу на падрыхтоўку? Час, калі тэатральны арганізм настроены на адпачынак (спектаклі іграліся а 15-й і 16-й гадзінах)? Крывое вока?



А чыё вока разгледзела класічныя традыцыі сапраўднага акадэмічнага тэатра (цытата з буклета Нацыянальнай тэатральнай прэміі) ў Драматычным тэатры Беларускай Арміі, дзе з п'есай Лопэ дэ Вэгі **"Сабака на сене"** абышліся... ну зусім без цырымоній, — так, што спектакль набыў нечаканыя сюжэтныя павароткі?

...Заможная гаспадыня графіня Дзіяна ціхамірна дрэмле ва ўласнай гасцёўні на канапцы. Нейкія зухі прабіраюцца ў цемры; адзін збочвае да Дзіяны і цалуе яе. Як мяркуеце, пра што мусіць іграцца славутая сцэна абурэння графіні і допыт слуг? І як пасля такога камертона з'яўляецца на публіцы сакратар графіні Тэадора, у якім няцяжка пазнаць цалавальнага злодзея? Адна нетактоўнасць абыходжання, і драматургія пачынае помсціцца: Тэадора ўяўляецца разліковым хлусам, Дзіяна — крывадушніцай. А хіба прайдзісвет Трыстан, слуга Тэадора, запросіць з сабою Фаб'ё, слугу Дзіяны, да графа Лудавіка — хлусіць старому пра сына, які нібыта знайшоўся і ўвасобіўся ў Тэадора? У Фаб'ё, вядома, свой разлік, ён хоча ажаніцца з Марсэлай, укаханай у Тэадора, і нібыта зацікаўлены ў такім падмане, але Фаб'ё не надта разумны, надта балбатлівы, занадта баязлівы — логіка, якую надаў характару Фаб'ё драматург, замінае кемліваму Трыстану даверыцца такому ненадзейнаму чалавеку. Хочаце змяніць падзею — мяняйце логіку характару, увасабляйце Фаб'ё іншым. Пад канец сцэнічнай гісторыі граф Лудавіка з'яўляецца да Дзіяны з партрэтам — на ім ён, Лудавіка, у маладосці. Выкапаны Тэадора. Так Драматычны тэатр Беларускай Арміі паўстае супраць супольнага падману Трыстана, Тэадора і Дзіяны, а таксама старчака Лопэ дэ Вэгі — маўляў, выдуманая гісторыя сталася праўдзівай. Але праўда палягае ў тым, што гэткую праўдзівасць апявалі шматлікія іншыя драматургі. І ў тым, што мастацкі кіраўнік тэатра Аляксей Дудараў назваў сваё абыходжанне з "сярэднявечным драматургам" інсцэніроўкай і заклікаў "...зберагчы Лопэ дэ Вэгу, Чэхава. Пры гэтым ашчадліва ставіцца да іх творчасці. Калі гэта будзе, дык ніхто не заўважыць, што творы трапілі ў перапрацоўку", — а праз вершы Лопэ дэ Вэгі ў спектаклі выразна адчуваецца... то Роберт Бёрнс, то яшчэ хтосьці — перапрашаю, не вызначыла з першага разу.

Што гэта было?

Але праўда і тое, што ёсць у пастаноўцы Марыны Дударавай колькі вабных і кранальных момантаў, дый колькі абаяльных персанажаў: стары Лудавіка (Віктар Моўчан), які ўсім і кожнаму распавядае пра сваю самоту; Мім на пляцы (Даніла Мілееў) — помнік, які ажывае, слухае і нават вымагае з мінакоў грошы; закаханая Марсэла (Алена Шкуратава) з дзявочымі прыкрасцямі і ўзрушэннямі; Трыстан (Ігар Фільчанкоў) — а для ягоных выбрыкаў сцэна часам падаецца замалай.

Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага паглядзеў на п'есу Л. Уліцкай "Мой унук Веніямін" вачыма рэжысёра Валянціны Ераньковай, і паўстаў спектакль **"Эсфір"** з гераіняй няпростага лёсу і незалатога характару — Эсфір'ю Львоўнай. У сталым веку Эсфір Львоўна прычакала колькі небяспечных паваротак лёсу, замахнулася на самагубства, перажыла цудоўнае выратаванне і пераасэнсавала жыццё. Ад шчырага перакання пра "богам абраны народ" самастойна дайшла да адкрыцця пра тое, што "няма ні эліна, ні іудзея", ад уладарнасці характару — да гнуткасці пачуцця, ад тэорыі правільнага жыцця — да ахвярнае сутнасці ягонай практыкі. Але гэта — у п'есе. У спектаклі Эсфір Львоўну сыграла Вольга Клебановіч — з выразным яўрэйскім маўленнем і каларытнымі падрабязнасцямі, якія добры назіральны артыст назапашвае, ашчаджае і з любоўю прадстаўляе сваім гледачам. Далей за гэтыя падрабязнасці спектакль не сягае — у глыбіню не зазіраў, на вышыню не падымаўся, памяркоўна спавядаючы выразнасць і каларыт, каларыт і выразнасць.

Што гэта было?

А тым часам па-над радкамі гэтых апісанняў мусіць паўстаць прывід... Не оперы, не, — драмы! І паколькі дзея адбывалася на спаборніцтвах па набыцці Нацыянальнай прэміі, назавём яго прывідам прэміяльнай драмы.

Уважліва чытаем афішу з жанравага пункту гледжання: "кранальная камедыя", "музычная камедыя", "камедыя-фарс", "сямейная меладрама"... І ўсё яно разам мізарнела перад дэтэктыўнай камедыяй Р. Куні. Яго п'есу **"№ 13"** на сцэнічную мову Тэатра-студыі кінаакцёра Нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм" пераклала рэжысёр Таццяна Траяновіч. Здаецца, да апошняе рэмаркі. Акцёры справіліся з тэкстам і са складаным сцэнічным рухам (па ходзе дзеі выяўляючы і прадстаўляючы Цела мужчынскае, сярэдніх гадоў, звонку невыразнае — дэтэктыва, збітага з тропу гатэльнаю шыбай), а Павел Харланчук, выканаўца ролі сціплага прыгажуна Джорджа Пігдэна, быў названы лепшым выканаўцам мужчынскай ролі, якую прадставіў у развіцці. Для гэтага развіцця акцёру хапіла сцэнічнага часу і матэрыялу драматурга, які забяспечыў дзве гадзіны прымусовага пазітыву, разняволення і гучнага глядацкага рогату. Эмацыйны градус такога рогату трупа Мальера вызначала як "бугага", сучасныя японцы памералі адмысловым прыстасаваннем, а знаўцы цытатаў перапыталі, з каго гэта народ так смяецца? І ці праўда, што думкі засмечваюць мазгі?

Натуральна, па ўсіх гэтых пазіцыях не канкурэнты Рэю Куні ні Дастаеўскі, ні Горкі, ні Сухаво-Кабылін; не справіцца з Рэем Куні ні Чэхаў, ні Лопэ дэ Вэга, зберажоныя Аляксеем Дударавым, а што да Крапівы альбо Вудзі Алена, дык яны нават у адну афішу з Рэем Куні не трапілі. А калі б не авалоданне Нацыянальным тэатрам оперы і балета ўсімі сучаснымі тэхналогіямі ў справе пастаноўкі "Набука"? А калі б не Алесь Адамовіч і купалаўская традыцыя сапраўднага акадэмічнага тэатра?

...Але няўжо для таго, каб гэта высвятліць, спатрэбіліся аж сто дванаццаць тэатральных адмыслоўцаў?

***На здымку: сцэна са спектакля Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы "Не мой" — пераможцы конкурсу на атрыманне Нацыянальнай прэміі ў пяці намінацыях.***

# Дама на «агледзінах»

Марына БЛАЖЫЕЎСКАЯ

**Гродзенскі абласны тэатр лялек гэтай восенню ўдзельнічаў у XIII Міжнародным фестывалі тэатраў лялек "Рязанские смотрины", які праводзіцца ў Разані раз на два гады. За сваю больш як 20-гадовую гісторыю фэст атрымаў высокую адзнаку прафесіяналаў і зрабіўся значнай падзеяй у жыцці лялечнікаў не толькі з Расіі, але і з краін замежжа.**

Сёлета фестываль быў прысвечаны Году касманаўтыкі і 50-годдзю з дня першага палёту чалавека ў Космас. Госці "агледзін", лялечнікі з Беларусі, Даніі, Іспаніі, Польшчы, Украіны, на пяць фестывальных дзён ператварыліся ў "кукланаўтаў" і выправіліся на фестывальную арбіту хапаць з неба зоркі.

Праграма фестывалю была вельмі насычаная і разнастайная. У афішах суседнічалі авангардныя спектаклі і перформансы, піратэхнічныя шоу і добрыя спектаклі для сямейнага прагляду, здатныя выклікаць шчырую цікавасць і шчырыя эмоцыі не толькі ў сучасных дзяцей, але і ў іх бацькоў. Упершыню за ўсю гісторыю фестывалю быў паказаны спектакль на адкрытым паветры (open-air). Госці з Санкт-Пецярбурга, Тэатр Імя Якога Нельга Назваць, на пляцоўцы перад Разанскім тэатрам лялек "запалілі" "МаячОк" — спектакль з элементамі фаер-шоу, па стылістыцы падобны да імпрэз вулічных тэатраў, што распаўсюджаныя ў Еўропе. Аднак сапраўдны феерверк незабыўных уражанняў у гасцей і ўдзельнікаў фестывалю выклікала "Пікавая дама" Гродзенскага абласнога тэатра лялек.

"Мы выступалі на новай Малой сцэне Разанскага драматычнага тэатра, — распавяла Людміла Паўлоўская, актрыса, якая працуе ў "Пікавай даме" ў якасці памочніка рэжысёра. — Наш спектакль па сваіх тэхнічных магчымасцях разлічаны на аўдыторыю 70 — 80 чалавек. У Гродне на імправізаванай "малой сцэне" манежа Тызенгаўза іграем для 60 гледачоў. А ў Разані ахвочых паглядзець "Пікавую даму" было ў некалькі разоў больш, чым змагла змясціць зала. Гледачы ўладкаваліся на прыступках, ля сцэны, у праходах, а многія, на жаль, засталіся ў фае і ля ўваходу ў тэатр. Пасля паказу я і галоўны рэжысёр Алег Жугжда ўспаміналі, як калісьці і мы ў ліку ўдзельнікаў найбуйнейшых тэатральных фестываляў з цікаўнасцю прабіваліся на спектаклі легендарных рэжысёраў і знакамітых тэатральных калектываў. Прыемна было ўсведамляць, што цяпер і наш тэатр дасягнуў такога ўзроўню".

Спектаклю паводле аповесці А. Пушкіна і оперы П. Чайкоўскага няма яшчэ і года. Як зазначаюць акцёры, занятыя ў пастаноўцы, вялікага досведу іграць яго на чужой сцэне няма, але ўжо дакладна адзначыліся адрозненні ва ўспрыманні "Пікавай дамы" беларускім і расійскім гледачом. Апошнія, як кажа Людміла Паўлоўская, надзвычай уважлівыя да кожнага слова, што гучыць са сцэны, імгненна і тонка рэагуюць на ўсе нюансы і жарты. "Выступаць перад такім гледачом прыемна, але складана. Аднак такое дбайнае стаўленне да сваёй класікі заслугоўвае толькі ўхвалы", — адзначае памочнік рэжысёра.

Неверагодны поспех Гродзенскага абласнога тэатра лялек спарадзіў нямала жартаў пра нашых лялечнікаў. Раз-пораз чулася: "«Дама» вытрымала "агледзіны" на ўсе сто працэнтаў" або "«Пікавая дама» — пік фестывалю". Калегі з іншых тэатраў узнагародзілі Ларысу Мікуліч (выконвае ролі Дамы, старой графіні і беднай сваячкі Лізаветы Іванаўны) тытулам "Артыстка сусветнага значэння", а рэжысёра спектакля Алега Жугжду не хітруючы называлі геніем.

Фэст "Рязанские смотрины" не конкурсны. Ніякіх месцаў тут не размяркоўваецца, аднак існуе традыцыя ў дзень закрыцця форуму дарыць лепшым з лепшых плюшавыя сэрцы. Гродзенцы аддалі сваё сэрца спектаклю "Церамок" Разанскага тэатра лялек, а самі атрымалі "прызы" не толькі прафесійных і глядацкіх сімпатый, але і сімвалічныя сэрцы шматлікай дэлегацыі крытыкаў і журналістаў.

**Ужо зусім хутка ў выдавецтве "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" пабачыць свет персанальная энцыклапедыя "Максім Багдановіч". Пакуль жа "ЛіМ" працягвае знаёміць сваіх чытачоў з яе артыкуламі (гл. таксама № 34).**



Літаграфія Антаніны Лапіцкай "Максім Багдановіч".

Г. К. ТЫЧКО

**ГРЫНЧЫК** Мікола (Мікалай Міхайлавіч; 1923—99), беларускі крытык, літаратуразнавец. Доктар філалагічных навук (1970), прафесар (1971). Заслужаны дзеяч навукі Беларусі (1977). У кнізе "Максім Багдановіч і народная паэзія" (1963) даследаваў творчасць Багдановіча ў яе сувязях з беларускім фальклорам, шырока асвятляў творчы шлях паэта і яго ролю ў беларускай літаратуры. Яго ідэйна-творчыя пошукі разглядаў у непасрэднай сувязі з характэрнымі з'явамі літаратурна-грамадскага жыцця пачатку XX стагоддзя. Грынчык вылучаў розныя этапы ў асваенні Багдановічам беларускага фальклору — ад выкарыстання фальклорнай міфалогіі і вераванняў у нізцы вершаў "У зачараваным царстве" да апрацоўкі народных матываў у "вершах беларускага складу", падкрэсліваючы, што ў апошніх фалькларызм набываў новыя рысы. Як лічыў даследчык, сутнасць наватарства Багдановіча ў тым, што народная паэзія арганічна пранікае ва ўсю тканіну твораў і праяўляецца не толькі ў сюжэтна-вобразных ці стылістычных запазычаннях, як было раней, а яшчэ і ў тым, што ў ацэнцы разнастайных сацыяльных з'яў аўтар выказваў народны пункт гледжання. Грынчык падкрэсліваў, што Багдановіч упершыню ў беларускай літаратуры спрабаваў вылучыць і тэарэтычна абгрунтаваць некаторыя зыходныя прынцыпы мастацкага фальклярызму ("Забыты шлях", 1915). Паводле меркавання даследчыка, адкідаючы метад знешніх запазычанняў і стылізацыі, вышэйшым прынцыпам выкарыстання фальклору ў літаратуры паэт лічыў свабоднае, творчае пераасэнсаванне фальклорнага матэрыялу, калі пісьменнік, "не намагаючыся падрабіцца пад народную песню", у адпаведнасці са сваёй самабытнай паэтычнай індывідуальнасцю творыць "у народным духу". Палемічны дух артыкула "Забыты шлях", падкрэсліваў Грынчык, тлумачыцца тым, што ён прасякнуты ідэяй барацьбы за "развіццё беларускай народнай культуры". Далейшая эвалюцыя фальклярыстычных поглядаў Багдановіча, паводле яго меркаванняў, адбывалася ў напрамку ўзмацнення сацыяльных тэм і матываў: ад перапрацовак лірычных і бытавых песень паэт пераходзіў да выкарыстання эпічных фальклорных жанраў. Вызначальнымі рысамі яго творчасці сталі высокая грамадзянская патэтыка, гераізацыя патрыятычнага подзвігу. Гэты працэс завяршыўся з'яўленнем паэм "Максім і Магдалена" (1915) і "Страцім-лебедзь" (1916). Цяпер уключэнне фальклору ў скарбніцу беларускай агульнанацыянальнай культуры трактавалася паэтам не толькі з пункту гледжання ступені ўдзелу народнасці ў развіцці літаратуры, але спалучалася з адлюстраваннем магутных рэвалюцыйна-вызваленчых ідэй.

У працы "Фальклорныя традыцыі ў беларускай дакастрычніцкай паэзіі" (1969) Грынчык аналізаваў выкарыстанне народнай міфалогіі і дэманалогіі ў спадчыне Багдановіча, засяроджваючыся на наватарскім пераасэнсаванні паэтам традыцыйных сродкаў народнай вобразнасці. У манаграфіі "Шляхі беларускага вершаскладання" (1973), даследуючы творчасць Багдановіча, адлюстраваў вялікі ўплыў паэта на фарміраванне нацыянальнай паэтычнай школы, яго ролю ў засваенні беларускай паэзіяй класічных і наватарскіх прыёмаў версіфікатарства.

Розныя аспекты творчасці Багдановіча інтэрпрэтаваў Грынчык у даследаваннях "Народна-песенныя матывы ў творчасці М. Багдановіча" (1958), "Народная паэзія ў ранняй творчасці М. Багдановіча (1908—1910 гг.)" (1959), "З крыніц жыватворных. Да 70-годдзя з дня нараджэння М. Багдановіча" (1961) і інш.

М.М. ГРЫНЧЫК

"**БЯСЕДНАЯ**", верш Багдановіча. Напісаны ў 1914 — 1915. Адзін з найбольш ранніх узораў "вершаў беларускага складу", падрыхтаваных паэтам для зборніка "На ціхім Дунаі". Як і іншыя вершы гэтага цыкла, ён вытрыманы ў народна-песенным стылі і з'явіўся вынікам шматгадовых пошукаў паэта ў галіне стварэння новых рытмічных структур нацыянальнага верша, істотна адрознага ад пашыранай у той час сілаба-тонікі. Пошукі новых структурных форм і прынцыпаў у Багдановіча цесна звязаны са зместам, абнаўленнем маральна-этычнай і філасофскай праблематыкі "вершаў беларускага складу", з задачай паглыблення іх выхаваўчай ролі, эстэтычнай дзейнасці ("каб стаяць бліжэй да душы роднага народа, лепей паталіць яе духоўную смагу"). У аснове твора папулярныя матывы т.зв. бяседных песень з іх характэрнымі вобразна-стылістычнымі прыёмамі і зваротамі ("А чалом, чалом, мае госцейкі, // На бяседачку ў хату новую. // Ў хату новую — сасновую"), якія надаюць вершу большую сюжэтную завершанасць, паслядоўнасць. Сюжэтна ён блізкі да апублікаваных П. В. Шэйнам у "Матэрыялах для вывучэння побыту і мовы рускага насельніцтва Паўночна-Заходняга краю" "Гаспадару дома" і "Гаспадыні дома" (1891, т. 1, ч. 1, с. 64—65). Як заўважыў У. Дубоўка, малюнак вышывання "каршуновага суда" блізкі да песні, апублікаванай Е. Р. Раманавым у "Беларускім зборніку" (1886, ч. 1—2, с. 365). Аднак Багдановіч не наследуе традыцыйныя вобразы і матывы, усталяваныя трафарэты, а імкнецца на гэтай аснове паглыбіць эмацыянальны змест, раскрыць індывідуальныя рысы характару беларускай жанчыны-працаўніцы, выключную шчырасць і адкрытасць, сардэчную чуласць і гасціннасць ("Ды красна бяседа не ўзорамі, // А ласкавымі прыгаворамі; // Не ядвабнымі абрусамі, // А ласкавымі прымусамі"). Вось чаму нельга аднесці твор да знешняй стылізацыі, гэта паэтычнага пераймання выключна моўна-стылістычных прыёмаў, як сцвярджаў У. Дубоўка ў артыкуле "Рыфма ў беларускай народнай творчасці" ("Узвышша", 1927, № 3, с. 104). У яго аснове творчая трансфармацыя народнапесенных традыцый, імкненне ўзбагаціць вобразна-выяўленчыя прыёмы беларускай лірыкі, пашырыць яе жанрава-стылістычную разнастайнасць. Гэта плённая тэндэнцыя знайшла сваё далейшае развіццё ў больш позніх "вершах беларускага складу", асабліва такіх, як "Лявоніха", "Як Базыль у паходзе канаў", "Скіргуся" і інш. Песенны будова твора адпавядае ўся сістэма эмацыянальных зваротаў ("А чалом, чалом, мае госцейкі"), ласкальна-памяншальных эпітэтаў і паўтораў ("Ў хату новую — сасновую", "За абрусікі бялёвыя, — // Ой, бялёвыя-саматканыя"), а таксама танічная форма верша (акцэнтнае падкрэсліванне апорных слоў у радку, дактылічная рыфмоўка, багацце інтанацыйных паўз і інш.).

Упершыню — газета "Вольная Беларусь", 28.4.1918. Паклаў на музыку М. Сірата.

Л. К. ТАРАСЮК

**"КІНЬ ВЕЧНЫ ПЛАЧ СВОЙ АБ СТАРОНЦЫ"**, верш Багдановіча. Напісаны ў Яраслаўлі, датуецца 1911. Уваходзіць у цыкл "Думы" зборніка "Вянок". Верш грамадзянскага гучання, патрыятычнай ідэі духоўнага абуджэння роднага краю. Пачаты ў форме звароту да паэўнага адрасата — сучасніка паэта, занепакоенага лёсам Бацькаўшчыны, — як нязгода з яго станам пасіўнага горкага перажывання ("Кінь вечны плач свой аб старонцы!"), верш затым разгортваецца як паэтычная аргументацыя веры ў лепшы, спрыяльны для роднага краю час, ён прамаўляецца як унутранае перакананне аўтара — вельмі асабістае і ў той жа час агульназначнае. Грамадзянскім аптымізмам, абвяшчэннем непазбежнасці гістарычнай справядлівасці пераадольваліся распаўсюджаныя ў літаратуры перыяду рэакцыі матывы грамадзянскага смутку; у вершы адчуваюцца інтанацыі і вобразны лад рэвалюцыйна-публіцыстычнай паэзіі, у прыватнасці, верша Я. Коласа "Беларусам" (1906) з яго верай у абуджэнне роднай старонкі, у вясну новага жыцця. Мастацкая змястоўнасць вобразаў Багдановіча ў сваёй аснове мае тыпова адраджэнскую сімволіку, якая набывае ў вершы эстэтычную шматмернасць і адзнакі ўласна багдановічаўскай паэтычнай культуры. Жыццядзейнасць і энергія народнага духу ўвасабляюцца ў вобразе незгасальнага сонца, святло якога нават цёмнай ночча адбівае "люстэрка — месяц залаты". Цікава пераасэнсавана і мастацкая сімволіка традыцыйных паэтычных вобразаў зімы і вясны як антынамічных фаз духоўнага жыцця (смерці і абуджэння); тут адчувальна не толькі нацыянальная паэтычная традыцыя, але і больш шырокі кантэкст тагачаснай паэзіі, і перш за ўсё рускага сімвалізму, пра што сведчыць вобраз снежнай маскі, пад якой да часу схавалася родная старонка: "Я пад яе зімовай маскай — // Пад снегам — бачу твар вясны". Мастацкая выверанасць вобразных асацыяцый, эмацыянальная насычанасць паэтычнага выказвання, строгая дакладнасць рыфмоўкі — усё гэта, адшліфаванае некалькімі варыянтамі верша, служыць увасабленню грамадзянска-патрыятычнага пафасу твора.

Упершыню — "Наша ніва", 8.9.1911, № 36 пад загалоўкам "Хай іншы жаліцца старонцы".

Т. К. ЧАБАН

**"ЗАБУДЕТСЯ МНОГОЕ, КЛАВА"**, верш Багдановіча на рускай мове. Датуецца прыблізна 1915. Прысвечаны, паводле ўспамінаў бацькі паэта А. Я. *Багдановіча* (ліст ад 21.3.1926), сяброўцы Багдановіча Клаве, з якой ён быў знаёмы ў час знаходжання ў Старым Крыме (1915). Як і некаторыя іншыя вершы паэта на рускай мове, дадзены твор мае рамансавую інтанацыю, стылізаваны пад гарадскі раманс. Рамансавыя радкі ўключаны ў тэкст, гучаць з вуснаў гераіні: "Прошли золотые денёчки, // Осталися только мечты". Рамансава стылізаваныя, часам да банальнасці, вобразы верша: "золотые денёчки", "в тёмно-синем платочке", рыфмы "Клава — отрава", "ты — мечты". Магчыма, у гэтых вобразах ёсць і лёгкае парадзіраванне раманса, іранічны погляд "збоку" на крымскі раман, што ўкладваецца ў рамкі непатрабавальнага сюжэта нядоўгага кахання і расстання. Аднак гэта знешні, ахоўны пласт верша, праз які прабіваецца небанальнасць, іскіннасць пачуцця лірычнага героя, у якім зліліся ў супярэчлівы клубок каханне і пакута, сорам і туга: "Как в сердце шипела отрава // Любви, и тоски, и стыда". Гэтая неадназначнасць, складанасць пачуццяў і перажыванняў у вершы Багдановіча блізкая да супярэчлівага ўнутранага стану героя інтымнай лірыкі М. *Лермантава*: "И сердце любит и страдает, // Почти стыдясь любви своей". Верш Багдановіча напісаны 3-стопным амфібрахіем з перакрыжаванай рыфмоўкай радкоў.

Упершыню — "Творы", т. 1, 1927.

М. М. ГРЫНЧЫК

**"ВЫ, ХТО ЛЮБІЦЕ НАТРАПІЦЬ"**, верш-прысвячэнне Багдановіча. Напісаны ў 1-й пал. 1912 г. Гэта своеасаблівы зварот паэта да свайго чытача, шчыры дыялог, папярэдняя даверлівая гутарка з ім. Адсюль размоўны тон, свабодная, натуральная па гучанні інтанацыя верша (верлібр), імкненне падкрэсліць шчырасць аўтарскіх пазіцый, іх сціпласць і непрэтэнцыёзнасць. Для паэта гэтая шчырасць, адкрытасць тону набывала асаблівае значэнне — ён свядома адмяжоўваўся ад афіцыйнай, "казённай" літаратуры, якая верай і праўдай служыла "верхнім дзесяці тысячам". Пазіцыя гэтая чымсьці блізкая да думкі, выказанай Багдановічам раней у артыкуле "Глыбы і слаі" (1911): "Наша пісьменнасць неразвітая і каравая, але вялікім пачуццём напоўнена ўсё яе цела, не на грашовых справах трымаецца яна і ніколі не пойдзе чысціць боты капіталу" (т. 2, с. 192). Гэтая незалежнасць пазіцый, вернасць жыццёвай праўдзе, высокі маральны тонус становяцца зыходным творчым дэвізам усяго зборніка "Вянок".

А. Л. ВЕРАБЕЙ

**"ЖДУ Я… ПОРХАЮТ СНЕЖИНКИ ПУШИСТЫЕ…"**, верш на рускай мове. Прыпісваецца Багдановічу. У ім раскрываюцца трывожныя перажыванні і адначасова радасныя думкі і пачуцці закаханага юнака, які прыйшоў на спатканне з дзяўчынай і чакае яе. Душэўны стан лірычнага героя выяўляецца ў яго адносінах да навакольнага асяроддзя. Ён адчувае вечнасць і прыгажосць прыроды. Але ў сваім маркотным чаканні і гудзенне праваддзе ўспрымае як сумную песню. Яшчэ больш ахутвае яго сэрца журботай і самотная мелодыя, што выконваецца на раялі. Узмацняюць яго хваляванне і гукі царкоўнага звону, якія пачуліся ў прызначаны час спаткання. Прырода, такая жывая і рухомая, здаецца, набліжае сустрэчу закаханых. Для юнака імгненні чакання здаюцца бясконцымі, "время тянется, точно застылое". Яго ахоплівае пачуццё адзіноты, "тихо, кругом ни души…" У страсным маленні звяртаецца да каханай: "Что же ты, чудная, милая, милая?.. // Где ты? Спеши же, спеши!" З "тайной тревогою" ўглядаецца ў нямую даль. Пачатковыя 5 строф верша адкрываюцца анафарычнымі зачынамі "жду я…", "жду…", "жду…", "жду…", "жду…". Потым паказваецца душэўны стан юнака, для якога каханая выступае чароўнай і далёкай мрояй. 6-я страфа пачынаецца кульмінацыйным узрушаным выклікам: "О, наконец-то!" Паміж дрэў, у прыцемках, мільганула бясцэнны цень. Гэта яна. Затрапятала сэрца юнака, душа напоўнілася шчасцем. У 7-й, заключнай страфе яшчэ большай становіцца яго радасць. Верш надзвычай меладычны. У ім адзначаецца незвычайнасць і значнасць кахання. Элегічнае гучанне твора вызначае 4-стопны дактыль у няцотных і 2-стопны ў цотных радках.

Упершыню — "Голос", 1910, 27 студз., дзе апубл. з подпісам: Rion.

**Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»**

## Словакраязнаўцы



**Уладзімір Дарагуж з Чэрвеня, збіральнік гісторый і паданняў, расказвае пра свае даследаванні былой Ігуменшчыны, разважае пра еднасць сучаснага і мінулага:**

— Амаль штодня прыходжу на мясцовыя могілкі, дзе пахаваны мае родныя, землякі. Кожнае імя на гэтых шэрых плітах знаёмае і блізкае майму сэрцу. Шмат каго ведаў асабіста. Чуў гісторыі пра іх продкаў, пра тое, які ўнёсак зрабілі яны ў развіццё нашага краю. Цікавіўся паходжаннем іх прозвішчаў, збіраў біяграфічныя даведкі. Сярод тых, хто жыў на гэтай зямлі, ёсць і вельмі вядомыя постаці. Прынамсі, у былым маёнтку Убель у 1819 годзе нарадзіўся знакаміты кампазітар Станіслаў Манюшка. Яго прапрадзед, таксама Станіслаў, у канцы XVIII стагоддзя атрымаў надзел ад Міхаіла Казіміра Агінскага і пабудаваў на ім радавую сядзібу, якая перадавалася з пакалення ў пакаленне больш як дзвесце гадоў. Мужчыны з роду Манюшкаў былі вельмі адукаванымі і інтэлігентнымі людзьмі. Бацька кампазітара Чэслаў Манюшка захапляўся маляваннем, заўзята калекцыяніраваў творы мастацтва, быў у сяброўскіх адносінах з мастаком Валенціем Ваньковічам. Але ў сярэдзіне XIX стагоддзя прадаў маёнтак і паехаў вучыцца ў Еўропу, потым жыў у Мінску. Праз шмат гадоў у вёсцы Убель стварылі невялічкі, але адзіны ў свеце, музей Манюшкі, які працуе і цяпер. Памяць пра нашага земляка жыве!

Займаючыся краязнаўствам, я высветліў, што наш край наогул багаты на музыкантаў. Напрыклад, у былым маёнтку Капланцы ў 1886 годзе нарадзіўся Мікола Равінскі, які паклаў на музыку творы класікаў беларускай літаратуры: вершы Дубоўкі, Купалы, Дуніна-Марцінкевіча і Багдановіча. Шмат чуў ад людзей, якія яго ведалі, пра цяжкі лёс музыканта, які вымушаны быў назаўсёды развітацца з радзімай. Але ён праславіў Чэрвеньшчыну і ўсю нашу Бацькаўшчыну.

Мы, нашчадкі, памятаем сваіх землякоў. І менавіта тут, на звычайных беларускіх могілках, я ўсведамляю, што толькі еднасць сучаснага і мінулага дае нам адчуванне будучыні.

## Казацкі касцюм натхняе

Бажэна СТРОК

Гісторыя касцюма — гэта люстэрка, у якім адбіваецца мінулае чалавецтва. На працягу многіх стагоддзяў менавіта адзенне як важнейшая частка культуры захоўвала калектыўную памяць і традыцыі народа. Гэта датычыць і традыцыйнага казацкага касцюма, які ярка дэманструе асаблівасці ўкладу жыцця мужных воінаў і не перастае здзіўляць выразнасцю дэкору. У ім знаходзілі натхненне стваральнікі моднай індустрыі мінулага і сучаснасці. "Сувязь часоў" — такую назву мела выстаўка, якая адбылася нядаўна ў філіяле Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь "Дом-музей I з'езда РСДРП". Экспазіцыю падрыхтаваў беларускі калекцыянер і даследчык казацкай культуры Ігар Бабіцкі.

## Музейны ўнікат

**На працягу некалькіх стагоддзяў, пачынаючы з 1528 года, старажытны Лагойск належаў знакамітаму роду Тышкевічаў, прадстаўнікі якога старанна збіралі звесткі пра тутэйшы край і рупліва захоўвалі гістарычную спадчыну беларусаў. У выніку Лагойск стаў своеасаблівым цэнтрам гістарычнай і археалагічнай навукі. Агульнымі намаганнямі Канстанцін і Яўстафій Тышкевічы стварылі арыгінальныя экспазіцыі па гісторыі, геаграфіі, літаратуры, мастацтве, народнай творчасці, тапаніміцы, этнаграфіі і археалогіі. Адкрыты ў 1842 годзе ў лагойскім палацы першы ў Беларусі публічны музей старажытнасцей быў адным з лепшых прыватных.**



ЗА СОВЕЦКУЮ БЕЛАРУСЬ

ДЭКЛАРАЦЫЯ

аб адказнасці гітлераўцаў за утвараемыя зверствы

Раіса МАРЧУК, фота аўтара і Святланы Гарэлік

# Экслібрыс як сведка часу

Дзевяць гадоў таму адчыніў дзверы Лагойскі гісторыка-краязнаўчы музей імя Канстанціна і Яўстафія Тышкевічаў. У сувязі з гэтым можна гаварыць не проста пра адкрыццё новага музея непадалёк ад Мінска, а пра аднаўленне першай установы такога кшталту ў Беларусі. Якія ўнікальныя рэчы тут маюцца? Наведвальнікаў перш за ўсё цікавіць, ці ёсць экспанаты, так ці інакш звязаныя з жыццём і дзейнасцю братоў Тышкевічаў. І вельмі прыемна, што такія экспанаты можна ўбачыць.

— У нашым музеі захоўваецца кніга пад назвай "Мазаіка" (I том), выдадзеная ў 1884 годзе на польскай мове, — распавядае галоўны захавальнік фондаў Наталля Васілішына. — Прозвішча яе аўтара — Пражэўскі. Адкрыўшы выданне, адразу разгледзім экслібрыс з фамільным гербам Тышкевічаў — "Ляліва". Дарэчы, яшчэ некалькі шляхецкіх сем'яў мелі такі ж герб. А трапіла кніжка ў музей дзякуючы жыхару Лагойска Дзмітрыю Жыткоўскаму, сваякі якога беражліва захоўвалі рарытэт цягам доўгага часу.



У зале, прысвечанай графам Тышкевічам, экспануюцца цагліны і іх фрагменты, што вырабляліся на цагляным заводзе братоў Тышкевічаў і іх нашчадкаў у XIX стагоддзі. Дарэчы, гэтыя рарытэты ўнікальныя тым, што на кожным выбіты вялікія літары — ініцыялы падвойных імён магнатаў і іх прозвішчы. У асноўным цагліны знаходзілі падчас раскопак, якія вяліся на месцы былога палаца Тышкевічаў у Лагойску. Да нашага часу захавалася некалькі гаспадарчых пабудоў і будынак былой палатнянай мануфактуры, заснаванай Канстанцінам Тышкевічам у 1837 годзе. Сённяшняя спартыўная школа — гэта пераабсталяваная графская лядоўня. Летась хтосьці з супрацоўнікаў падабраў на гарышчы гэтай установы некалькі цаглін з лацінскімі літарамі і прынёс іх у музей.

У Лагойску вам пакажуць невялічкую вартоўню і стайню XIX стагоддзя, якія былі ўзведзены з той жа цэглы і амаль без



змяненняў дайшлі да нашых дзён. Першапачаткова з такога ж матэрыялу пабудавалі ў 1824 годзе Свята-Нікалаеўскую царкву. Сённяшні выгляд яна займела пасля рэканструкцыі. Цікавы факт: які выгляд мелі палац Тышкевічаў, лядоўня і вартоўня, распавядаюць адпаведныя малюнкі Напалеона Орды.

Яшчэ адзін унікальны экспанат — падшыўка лагойскай падпольнай газеты "За Совецкую Беларусь" — заўсёды выклікае непадробную цікавасць у наведвальнікаў музея. Выданне друкавалася і распаўсюджвалася падчас Вялікай Айчыннай вайны на акупаванай немцамі тэрыторыі. Першы рэдактар газеты Іван Муравіцкі доўгі час зберагаў рэліквію.

— Калі адкрыўся музей, Іван Іванавіч перадаў гэты каштоўны экспанат нам, хаця яму прапаноўвалі аддаць падшыўку і ў Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, і нават у Маскву, — зазначыла Наталля Васілішына.

***На здымках: так выглядала лагойская падпольная газета "За Совецкую Беларусь"; фрагмент цэглы, зроблены на цагляным заводзе Тышкевічаў; экслібрыс з кнігі "Мазаіка".***

# Сіла дуды

**Народная прымаўка кажа: як дуда зараўла — усіх з розуму звяла, а як гуселькі зайгралі — усіх на розум настаўлялі. Цяпер дзеянне гэтай прымаўкі можна ацаніць не толькі тэарэтычна, але і практычна — слухаючы дыск "Дударская музыка Беларусі", што не так даўно пабачыў свет у межах праекта Этнагістарычнага цэнтра "Явар" пры падтрымцы Пасольства ЗША ў Рэспубліцы Беларусь. Гэта некамерцыйны праект, таму дыск можна атрымаць на вечарынах "Дударскага клуба", а таксама падчас "Дударскіх фэстаў".**

Марына ВЕСЯЛУХА

"У 1920 — 30-я гады ў савецкіх рэспубліках для кожнага народа быў вызначаны самы тыповы і традыцыйны інструмент. У БССР ім стала дуда, таму беларускія дудары прадстаўлялі краіну на ўсесаюзных конкурсах. У канцы 1920-х — сярэдзіне 1930-х гадоў супрацоўнікі Усесаюзнага радыё зрабілі гуказапісы беларускіх музыкаў Хведара Стэся, Міколы Навіцкага і Сцяпана Шахаўца, якія выконвалі беларускія танцы і найгрышы", — гаворыцца ў прадмове да дыска. І такі выбар відавочны. Першае згадванне дуды ў старажытнабеларускай літаратуры адносіцца да канца XV ст. (перакладны твор "Аповесць пра трох каралёў-валхвоў"). У ВКЛ дудары траплялі ў афіцыйныя дакументы і нават у пераліку падаткаплацельшчыкаў. Шматлікія згадкі пра гэты інструмент фіксуюцца і ў этнаграфічнай літаратуры XIX ст.

Ды што казаць, у 1925 годзе ансамбль беларускіх дудароў выступаў нават у Парыжы! На мастацкую выстаўку ў сталіцу Францыі мясцовых музыкаў на-




кіраваў Інстытут беларускай культуры. Ёсць сведчанні, што гэтае выступленне абудзіла за мяжой цікавасць да беларускага інструментальнага мастацтва: кансерваторыя італьянскага горада Пізары нават звярнулася ў Інбелкульт з просьбай даслаць для мясцовага музея нашы старадаўнія інструменты.

У пасляваенны час усё змянілася, і візітнай карткай беларускай музыкі замест дуды былі абраны цымбалы…

Але паколькі вядзецца гаворка пра новы дыск, можна зрабіць выснову, што дуда выжыла, нягледзячы на тое, што перастала існаваць як "тытульны" інструмент нашай нацыі. Яна адрадзілася, і гісторыю гэтага адраджэння можна прасачыць непасрэдна па дыску.

Так, распачынаюць складанку архіўныя запісы (!) найгрышаў 1930-х гадоў (арыгіналы захоўваюцца ў архівах у Маскве). Гэта "Лявоніха", "Беларускі казачок", "У дудку паіграю" дудара Сцяпана Шыкоўскага, "Дуда" Хведара Стэся, адноўлены "Найгрыш 1931 года" ўжо ў выкананні нашага сучасніка Алеся Лася. Рэлігійны гімн "Багародзіца" XIV — XV стст. у выкананні гурта "Стары Ольса" суседнічае з матывамі "Слаўны Паніч" і "А я люблю піва" ад *Testamentum Terrae*. Здаецца, што па меры набліжэння да фіналу канцэнтрацыя эмоцый узрастае, рытм гучання робіцца больш хуткім, а мелодыя — жорсткай. І гэта не дзіўна, бо тут дуда ўжо спалучаецца з новымі электроннымі інструментамі, а традыцыйныя мелодыі падаюцца ў інтэрпрэтацыі дыджэяў. Гэта "Палескі танок" ад *Osimira*, "У карчме" і "Дрыгула" "Старога Ольсы" ў апрацоўцы дыджэя Антона, песні "Змрочнасць" і "Лысы верабей" фольк-рок гурта *Litvintroll*.

Сапраўдным апагеем дыска можна лічыць фінальную *Theodores Song* у выкананні гурта *Vicious Crusade* і гуру беларускай дударскай музыкі Тодара Кашкурэвіча.

Мікола БАГАДЗЯЖ

# Нястомны падарожнік Канстанцін Ельскі

**Ён жыў і працаваў у трох частках свету. Шырокаадукаваны чалавек — географ, геолаг, медык, заолаг, батанік… Але ўсе гэтыя захапленні былі толькі дапаўненнем да асноўнай прафесіі — падарожніка. Яго, рамантыка па натуры, увесь час цягнула ў невядомыя мясціны, яму хацелася ўбачыць, што ж там, за рысай гарызонту. Такім быў Канстанцін Ельскі.**



Канстанцін нарадзіўся 17 лютага 1837 года ў вёсцы Ляды Смілавіцкай воласці Ігуменскага павета Мінскай губерні. Бацька хлопчыка, Міхал Ельскі, паходзіў са старажытнага пінскага шляхетнага роду. Сярод родзічаў яго былі людзі вядомыя: вайскоўцы, дзеячы навукі і мастацтва. З мастацкага асяроддзя абраў сабе Міхал і жонку. Ёю стала Ганна Манюшка, сваячка кампазітара Станіслава Манюшкі

У раннім дзяцінстве хлопчык выяўляе незвычайныя здольнасці да навук. Скончыўшы ў 1853 годзе "на выдатна" Мінскую гімназію, Ельскі паступае на медыцынскі факультэт Маскоўскага ўніверсітэта. Але праз тры гады пераводзіцца ў Кіеўскі ўніверсітэт на матэматычна-прыродазнаўчы факультэт. Яго цікавяць батаніка і заалогія, ён марыць пра далёкія, поўныя небяспекі вандроўкі, вялікія адкрыцці, самаахвярнае служэнне навуцы.

Прафесар-заолаг Карл Кеслер адразу вылучае сярод іншых сваіх студэнтаў здольнага юнака і становіцца яго навуковым кіраўніком. У 1858 годзе яны разам выязджаюць у навуковую экспедыцыю ў Крым і да вусця Дняпра, Паўднёвага Буга і Днястра. Аб'ект іх доследаў — членістаногія і малюскі. Першая значная навуковая праца маладога Ельскага выклікае цікавасць да яго з боку навукоўцаў Кіева. Пасля абароны яе, яшчэ ў сценах універсітэта, Канстанцін атрымлівае званне кандыдата біялогіі.

У 1860 годзе Ельскі завяршае навучанне ва ўніверсітэце і вырашае застацца ў Кіеве. Паступае на выкладчыцкія курсы і адначасова ўладкоўваецца пазаштатным настаўнікам у гімназію.

Але выкладанне батанікі і заалогіі дзецям не з'яўляецца дасягненнем жыццёвай мэты для маладога чалавека. Ён працягвае свае доследы, рыхтуючыся да магістарскіх выпрабаванняў. Навуковая праца, якую ён піша, прысвечана анатоміі малюска Litoglyphis naticoides. На яе абароне ў кастрычніку 1862 года Канстанцін Ельскі выступае ў якасці аднаго з першых у Расіі прыхільнікаў эвалюцыйнай тэорыі Чарльза Дарвіна. "Тэорыя Дарвіна аб перарадженні відаў спрыяе развіццю прыродазнаўчых навук", — заяўляе ён. Абарона праходзіць паспяхова. Ельскі атрымлівае званне магістра. Пазней ён быў залічаны ў штат выкладчыкам і кіраўніком універсітэцкага кабінета заалогіі.

Здаецца, усё складваецца выдатна. Аднак іншы раз абставіны, якія ад нас не залежаць, карэнным чынам уплываюць на наш лёс. У паўстанні К. Каліноўскага ўзяў удзел родны брат Ельскага Уладзімір. Ён быў высланы ў Арэнбургскую губерню. Сустракаўся з людзьмі, якія рыхтавалі паўстанне, і сам Канстанцін. Гэта магло быць выкрыта ў любы дзень. І тады з навуковай кар'ерай трэба было б развітацца назаўжды.

Дваццацісямігадовы вучоны рашаецца на адчайны крок. Ён пакідае ў Кіеве любімую жанчыну, сына Яна і накіроўваецца ў Бесарабію. Афіцыйна — у чарговую экспедыцыю. Насамрэч — дзеля таго, каб лягчэй выбрацца за мяжу. Без пашпарта Канстанцін пераходзіць румынскую граніцу. Адтуль — праз Дунай у Турцыю.

Апынуўшыся ў Канстанцінопалі зусім без грошай, Ельскі, на здзіўленне, даволі хутка знайшоў спосаб зарабіць сабе на харчаванне. Спачатку ён уладкаваўся расфарбоўшчыкам геаграфічных карт для школьнікаў, пасля пачаў браць удзел у геаграфічных экспедыцыях. Даследаваў радовішча карысных выкапняў у акрузе Тузла блізу Дарданелаў.

Апантаны навуковец спадабаўся турэцкім калегам. У 1865 годзе яны дапамаглі яму перабрацца ў Парыж, дзе Канстанціну адразу пашанцавала ўладкавацца ў Прыродазнаўчы інстытут. Ацаніўшы глыбокія веды новага супрацоўніка, прафесар Дэйроль — непасрэдны кіраўнік Канстанціна — у той жа год прапаноўвае яму паехаць у Гвіяну, паўднёваамерыканскую калонію Францыі, у якасці пастаўшчыка чучал птушак і шкур жывёл. Але дабірацца да Гвіяны трэба за свой кошт. Ельскі такіх сродкаў не мае. Што ж рабіць?

Дапамог выпадак. Стала вядома, што якраз у гэты час з Тулузы ў Гвіяну накіроўваецца ваенна-транспартны фрэгат "Амазонка" з катаржнікамі. Канстанцін звярнуўся ў ваенна-марское міністэрства з прашэннем выдаць яму бясплатны білет пасажыра самага нізкага класа на гэты карабель. У міністэрстве здзівіліся незвычайнай просьбе, але задаволілі яе.

У жніўні 1865 года карабель дасягае ўзбярэжжа Амерыкі. Цэнтр французскай Гвіяны — горад Каена — уразіў Ельскага сваёй экзатычнасцю. Негры, індзейцы, мулаты, крэолы. І ўсё гэтае яркае зборышча жэстыкулюе, спявае, танчыць, цягне рукі ў спадзяванні атрымаць манетку. Канстанцін Ельскі ўладкоўваецца ў бальнічную аптэку памочнікам фармацэўта. Гэта яго задавальняе, бо праца, удзел ва ўрачэбным абыходзе і прыгатаванне лекаў займае няшмат часу — з 7 да 9 гадзін. А дзяжурыць у бальніцы даводзіцца толькі кожны трэці дзень. Увесь вольны час ён аддае вывучэнню навакольнай прыроды, ходзіць у джунглях, збірае калекцыі насякомых, птушак, раслін, вывучае іх. Індзейцы-праваднікі становяцца яго сябрамі. Прэпараваныя чучалы жывёл адсылаюцца ў розныя еўрапейскія музеі. З'яўляюцца першыя грошы.

*«Ельскі прыгадвае здарэнне, што адбылося з адным жандарам, яго пацыентам. "У Сэн-Ларан быў такі выпадак: плывучы па рацэ (у лодцы. — **М. Б.**) разам з каланістамі, жандар убачыў у вадзе велізарную змяю, боа-мурына, і забіў яе. Калі здымалі шкуру, у страўніку ўдава знайшлі кракадзіла…" Даўжыня гэтай змяі была сем метраў...*

Неўзабаве даследчыка, ужо ў якасці ўрача, накіравалі абслугоўваць лазарэты на астравах Выратавання, якія з'яўляліся найбольш жахлівым месцам зняволення. Большасць вязняў, што ўтрымліваліся тут, былі асуджаны за палітычную дзейнасць. Даведаўшыся, што Ельскі цікавіцца флорай і фаўнай астравоў, высланыя сюды людзі пачалі дапамагаць яму ў доследах, перадаючы цікавыя экземпляры раслін і насякомых. Толькі адных мурашоў сабралася ў Ельскага 90 відаў.

*«У жніўні 1865 года карабель дасягае ўзбярэжжа Амерыкі. Цэнтр французскай Гвіяны — горад Каена — уразіў Ельскага сваёй экзатычнасцю. Негры, індзейцы, мулаты, крэолы. І ўсё гэтае яркае зборышча жэстыкулюе, спявае, танчыць, цягне рукі ў спадзяванні атрымаць манетку.*

Астравы Выратавання — Каралеўскі, Святога Жазэфа і Чортавы — насяляла вялікая колькасць птушак. Аднак стрэльбай карыстацца было нельга, каб не хваляваць наглядчыкаў, таму Ельскаму давялося асвойваць новы від зброі — сарбакан (духавую трубку), прывезены знаёмымі індзейцамі аднекуль з глыбіні Гвіяны. Вынікам палявання стала цудоўнейшая калекцыя птушыных чучал. У дадатак да гэтага Канстанцін сабраў даволі добрыя калекцыі ракаў, водарасцей, каралаў, якія па яго просьбе здабывалі з дна акіяна сасланыя арабы.

Цэлы год правёў на астравах Ельскі. А па вяртанні ў Гвіяну яго чакаў прыемны сюрпрыз. Канстанціна запрасілі выкладаць батаніку і земляробства ў Каенскае вучылішча. Аднак сумяшчаць абавязкі выкладчыка і даследчыка было цяжка. І Ельскі зноў звярнуўся да ўрачэбнай дзейнасці. У хуткім часе ён наладзіў вандроўку па рэках Ко і Аяпок. На берагах апошняй ён пазнаёміўся з вольным неграм Кустэнам, які зарабляў на жыццё вырабам птушыных чучал. Той навучыў нашага земляка вырабляць іх па-свойму — без гіпсу, крухмалу і папяры. У далейшым Ельскі неаднаразова выкарыстоўваў гэты спосаб.

У кастрычніку 1867 года Канстанцін дабраахвотна накіраваўся на Срэбраную гару працаваць урачом у лепразорый, пакуль туды не прыедзе на пастаянную работу спецыяліст. Людзі дзівіліся гэтаму ўчынку. Пракажы баяліся нават мясцовыя дактары. Аднак Ельскі ніколі не забываў, што ён — урач. Узнагародай за гуманізм і самаадданасць сталі новыя заалагічныя экспанаты: ля лепразорыя вадзіліся рэдкія птушкі — чырвоныя ібісы.

Пасля была праца ў аптэцы ў пасяленні для былых катаржнікаў Сэн-Ларан на рацэ Мароні. Тут ён вывучаў мясцовыя архідэі. І знайшоў дзейсны спосаб прыжывіць іх у еўрапейскіх аранжарэях. Ніводны з перасланых ім у Еўропу ўзораў не загінуў. Таксама ў джунглях ля Сэн-Ларана для Ельскага былі злоўленыя два ляніўцы — двухпалы і трохпалы. Яны доўгі час жылі на галерэі дома.

Тады ж Канстанцін пабываў на кававых плантацыях. "Кававае дрэва, — пісаў ён, — заўсёды цудоўнае, ці пакрытае яно белымі злёгку пахнучымі кветкамі, ці цёмначырвонымі ягадамі. Я ніколі не бачыў на дрэве насякомых альбо якуюнебудзь хваробу".

Ліяны, пальмы, птушкі, малпы, браняносцы, рыбы — усё здзіўляла, захапляла, вымушала да доследаў. Ельскі спісаў назіраннямі некалькі сшыткаў. Туды ж патрапілі і цікавыя гісторыі пра людзей, з якімі сустракаўся ўрач.

Ельскі прыгадвае два здарэнні, што адбыліся з адным жандарам, яго пацыентам. "У Сэн-Ларан быў такі выпадак: плывучы па рацэ (у лодцы. — **М. Б.**) разам з каланістамі, жандар убачыў у вадзе велізарную змяю, боа-мурына, і забіў яе. Калі здымалі шкуру, у страўніку ўдава знайшлі кракадзіла…" Даўжыня гэтай змяі была сем метраў, пра што пасля яе вымярэння і быў складзены дакумент. У другім выпадку гэтаму жандару пашанцавала значна менш. Ён падстрэліў качку і палез за ёю ў ваду. Раптам яго схапіла за плячо змяя і пачала цягнуць у вір. Жандар з вялікай цяжкасцю вырваўся. Па словах Ельскага, сляды зубоў змяі засталіся на плячы на ўсё жыццё.

Сярод знаёмых Канстанціна Ельскага было шмат індзейцаў. Ён бясплатна лячыў іх падчас сваіх далёкіх падарожжаў, падзяляў з імі ўсе цяжкасці і нягоды. Яны плацілі яму шчырай удзячнасцю. Колькі рэдкіх жывёл здабылі індзейцы для "добрага белага"! Вандроўнік гасцяваў у іх вёсках, неаднойчы накіроўваўся разам з жыхарамі на лоўлю чарапах, нават удзельнічаў у паляванні на акул. Ельскі высока цаніў здольнасці індзейцаў, бачыў у іх паўнавартасных людзей, якія маюць усе правы на свабоднае жыццё, здзіўляўся іх незвычайнай прыстасаванасці да паўднёваамерыканскіх джунгляў. Даследчык сцвярджаў: "Яны могуць здабыць у лесе літаральна ўсё, бо ведаюць карысныя ўласцівасці кожнай расліны, кожнага дрэва". Ельскага непакоіла тое, што індзейцаў становіцца ўсё менш і менш і яны "гінуць, таму што знаёмяцца з цывілізацыяй пры пасрэдніцтве скваплівых купцоў, якія за гарэлку набываюць усё, што індзеец можа здабыць".

У Гвіяне Ельскі прабыў больш як чатыры гады, а затым праз Балівію накіраваўся ў Перу, дзе планаваў павялічыць свае калекцыі. Тут ён прабыў дзесяць гадоў. На працягу гэтага часу нястомны падарожнік вывучаў фаўну наваколля сталіцы Перу Лімы, дзе ён жыў, неаднойчы пераходзіў цераз Кардыльеры, разам са сваім земляком Янам Штольцманам даследаваў вярхоўе Амазонкі.

Вядомы перуанскі вучоны Антоніа Раймондзі звярнуўся да яго з просьбай прыняць удзел у стварэнні прыродазнаўчага музея ў Ліме. У гэты ж час наш зямляк адкрыў сакрэт кітайскай чорнай тушы, не вядомы да гэтага еўрапейцам. Справа ў тым, што ў Ліме жыло на здзіўленне шмат кітайцаў, якіх тут жорстка эксплуатавалі і якія "часта бунтавалі і помсцілі сваім бязлітасным гаспадарам". Аднак доктара Ельскага яны адразу сталі паважаць і падзяліліся з ім "сакрэтнай" інфармацыяй. З мясцовага насельніцтва ў сталіцы Перу жылі негры, самба, мецісы чола. Усе яны зараблялі на жыццё цяжкай працай. Аднак ніхто не мог весяліцца больш непасрэдна і шумна, як гэтыя людзі. Цікаўны Ельскі запісаў нямала абрадаў і звычаяў карэннага насельніцтва.

У 1878 годзе саракагадовы даследчык вяртаецца ў Еўропу. Гады, праведзеныя ў Амерыцы, паспрыялі ведамасці і славе. Але шлюб яго не вытрымаў разлукі. Пасля нядоўгага знаходжання ў Варшаве, Ельскі перабіраецца ў Кракаў і ўладкоўваецца захавальнікам калекцый мясцовай Акадэміі навук. Аднachасова выкладае заалогію на вышэйшых жаночых курсах прыродазнаўства пры Прамысловым музеі.

У 1883 годзе ён жэніцца другі раз, са стрыечнай сястрой Аленай Корсак, прафесійным музыкантам. Аднак няўрымслівы характар і прага да вандровак не пакідаюць яго і з узростам. Навуковец удзельнічае ў геалагічных экспедыцыях у французскую правінцыю Брэтань (1886) і Далмацыю (1890). Шэсць апошніх гадоў жыцця былі прысвечаны напружанай рабоце па апрацоўцы матэрыялаў падарожжаў і доследаў. Вялікі падарожнік, навуковец, урач і гуманіст Канстанцін Ельскі памёр 26 лістапада 1896 года. Смерць абарвала працу па стварэнні новага падручніка па заалогіі. Жыццё яго стала для многіх паслядоўнікаў прыкладам штодзённага самааддананага служэння навуцы.

Сабраны Ельскім матэрыял даў магчымасць іншым вучоным правесці вялікую працу па класіфікацыі і абагульненні. Удзячныя батанікі назвалі адзін з адкрытых ім відаў лаўра яго імем — Ocotea Jelscii.

**Цікавы факт: калі праводзіліся раскопкі на Нямізе, у культурным пласце XII стагоддзя археолагі знайшлі лясную скульптуру — драўлянага канька. А што ствараюць з прыродных матэрыялаў нашы сучаснікі? Пра гэта можна даведацца падчас выставак, якія ладзяць члены мінскага клуба "Прырода і фантазія".**



# Убачыць прыгажосць, каб стварыць прыгажосць

**Раіса МАРЧУК,**
**фота аўтара і з архіва сям'і С. Станюты**

Больш як чатыры дзесяцігоддзі таму некалькі энтузіястаў правялі першую выстаўку сваіх работ у Палацы прафсаюзаў і аб'ядналіся ў секцыю "Прырода і творчасць", якая "прыжылася" пры сталічным Доме прыроды. Першыя наведвальнікі былі здзіўленыя, калі ўбачылі, якія незвычайныя рэчы нараджаюцца ў руках самабытных майстроў. Адна за адной ладзіліся ў розных установах выстаўкі, а самая значная прайшла на пляцоўцы беларускай Выстаўкі дасягненняў народнай гаспадаркі, а потым нават на ВДНГ у Маскве і нямецкім Патсдаме. У 1987 годзе з секцыі "Прырода і творчасць" нарадзіўся клуб з крыху новай назвай — "Прырода і фантазія".

— У пачатку сямідзясятых гадоў мінулага стагоддзя да самабытных умельцаў далучылася народная артыстка Беларусі і СССР Стэфанія Станюта, — успамінае кіраўнік клуба Аляксандр Ляйко. — Прыйшла не з пустымі рукамі, а прынесла пацеркі, завушніцы, калье з прыродных матэрыялаў, а таксама дробную пластыку. Гэтым рамяством яна вельмі захаплялася і старалася захапіць іншых. Калі размова ішла пра нейкую дапамогу, напрыклад, проста прасвідраваць дзірачку ў кулончыку, яна адказвала: "Сумесныя творы — гэта сумесныя, а асабістыя — гэта асабістыя. Дзяліць славу ні з кім не буду!" Адну частку сваіх работ народная артыстка перадала Дзяржаўнаму музею гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі, другую падарыла родным і сяброўкам, а чатыры дзясяткі яе твораў засталіся ў нашым клубе. Іх можна ўбачыць падчас выставак, якія мы рэгулярна ладзім. Стэфанія Міхайлаўна прываблівала арыстакратызмам і дабрадушнасцю. Яна часта паўтарала: "Трэба дружыць!" Прыходзіла на пасяджэнні заўсёды з тортам "Ленінградскі", які вельмі любіла. Мы чаёўнічалі, вялі няспешныя гутаркі, адпачывалі душою. Членаў клуба яднала не толькі творчасць, але найперш сяброўства, цёплыя чалавечыя адносіны.





Калі распаўся Савецкі Саюз, многія кінуліся зарабляць грошы, а Аляксандр Аляксандравіч са Стэфаніяй Міхайлаўнай пастараліся захаваць клуб. Сабралі вакол сябе каля трох дзясяткаў майстроў. Адна за адной праходзілі ў Мінску выстаўкі, далучаліся новыя творцы. Цяпер іх ужо шэсць дзясяткаў, прытым 95 працэнтаў майстроў — пенсіянеры. Ёсць і некалькі маладых людзей. Прынамсі, студэнтку Таццяну Чаховіч, дыпламаванага архітэктара, прывяла ў клуб яе бабуля Сафія Гвардзіян, даўні член клуба. Дарэчы, яго наведваюць не толькі мінчане, але і прадстаўнікі іншых рэгіёнаў. Майстры выстаўлялі свае работы ў многіх гарадах нашай краіны. Прытым у асноўным за свае сродкі. Тыя, хто хоць аднойчы завітаў на выстаўку самабытных умельцаў, мянялі свае адносіны да прыроды, а ў некаторых нават з'яўлялася жаданне самім штосьці майстраваць, тварыць.

— Тое, чым займаюцца мае калегі, не проста захапленне, хобі, — зазначае Аляксандр Ляйко, дарэчы, былы тэрміст-універсал. — У кожнага з нас падчас творчай працы нібы адкрываецца другое дыханне, паляпшаецца самаадчуванне. Але, лічу, нас вельмі мала. Справа яшчэ і ў тым, што клуб пакуль не мае пастаяннага памяшкання для правядзення майстар-класаў, пасяджэнняў, экспазіцыі, хаця сабралі ўжо больш як тысячу работ. Спадзяёмся, у бліжэйшы час вырашым гэтую праблему.

— Чым вы заклапочаны? Пра што марыце? — запыталася ў Аляксандра Аляксандравіча.

— Мне хацелася б, каб быў адзіны цэнтр, дзе б мы маглі перадаваць сваё майстэрства ўсім ахвочым. Многія і не ведаюць, што такое лясная скульптура, "з чым яе ядуць". Асабіста я гатовы займацца са сваімі вучнямі бясплатна, толькі б яны гэта хацелі. У мяне былі спробы знайсці пераемнікаў, але ўсе адказвалі: гэта вельмі складана! І я іх разумею, бо знайсці ў лесе, парку ці на балоце будучыя творы — задача не з простых. Працэй узяць драўляную нарыхтоўку, абчасаць яе і стварыць задуманы вобраз. Хаця галоўнае, мабыць, не знайсці, а менавіта ўбачыць прыгажосць і данесці яе да гледача. Нашы работы — адзіныя ў свеце, бо іх стварыла сама прырода, а ўжо майстар давёў яе задумку да канца.

***На здымках: Стэфанія Станюта дэманструе дробную пластыку, створаную сваімі рукамі; Аляксандр Ляйко прадстаўляе таежную гарэзніцу; пано з бяросты Зінаіды Шыдлоўскай.***

**Вядучая праекта — Раіса Марчук.**

**Водгукі і матэрыялы дасылайце на e-mail: lim_new@mail.ru з пазнакай "Дзівасвет".**

## Афарызм

*Прайграць не прыніжэнне.*
*Прыніжэнне — кпіць з таго, хто мужна прайграў.*

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

З глыбінкі

## Добрая байка і музыка

У рамках святочных мерапрыемстваў, прысвечаных Дню горада Барань, прайшло некалькі яркіх запамінальных падзей. Напярэдадні адбылося свята "Дзеці — гораду!". Вучні сярэдніх школ узялі ўдзел у конкурсе творчых работ у жанрах выяўленчага мастацтва і літаратуры. Па выніках конкурсу старшыня Бараньскага гарвыканкама В. Русакоў уручыў дыпломы і памятныя сувеніры пераможцам.

Барань — радзіма выдатнага беларускага байкапісца У. Корбана, які шмат гадоў працаваў у "Вожыку". Жыхароў горада злучае цеснае сяброўства з многімі беларускімі літаратарамі. А паміж рэдакцыяй "Вожыка" і Бараньскім гарвыканкамам год таму заключана дамова пра творчае супрацоўніцтва. Вядомы паэт і пісьменнік, лаўрэат літаратурных прэмій імя К. Крапівы і В. Віткі вожыкавец Павел Саковіч стаў госцем урачыстага вечара.

У святочным канцэрце ўзялі ўдзел падрыхтоўчая група ўзорнага тэатра "Вясёлка", народны ансамбль народнай музыкі і песні "Крынічанька", узорны калектыў эстраднага танца "Адамант". Сапраўдным падарункам для ўсіх прысутных на свяце стала выступленне гасцей: народнага ансамбля "Карусель" Дома культуры г. Рыбінска з Расіі і народнага вакальнага ансамбля "Вікторыя" Першамайскага раёна г. Віцебска пад кіраўніцтвам кампазітара Мар'яна Зелянкевіча.

Фэст "Бараньскія музыкі-2011", на якім разам з калектывамі г. Барань выступілі ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці з Расіі і Украіны, таксама быў прымеркаваны да Дня горада.

**Аксана ВАСІЛЁНАК,**
**Аршанскі раён**

## Падарожжа да вытокаў

Ганцаўшчына — адметны куток на карце Беларусі. Славіцца ён сваім гістарычным мінулым, абрадамі і традыцыямі. Тут — першае месца працы класіка нашай літаратуры Якуба Коласа. У межах святкавання 129-годдзя з дня нараджэння народнага песняра Беларусі ў Ганцавіцкі раён завіталі нашчадкі Коласа: яго сын Міхась Міцкевіч, унучка Марыя і праўнук Васіль. А таксама паэт Яўген Хвалей. Візіт пачаўся з наведвання помніка маладому Якубу Коласу, які быў адкрыты ў Ганцавічах падчас святкавання Дня беларускага пісьменства, і раённай бібліятэкі.

У Люсінскай сярэдняй школе ў школьным літаратурна-этнаграфічным музеі Якуба Коласа вучні падрыхтавалі прадстаўленне паводле твораў песняра. Госці пабачылі і музей, у якім захоўваецца больш як 300 экспанатаў. Вучні з цікавасцю слухалі ўспаміны сына Якуба Коласа пра бацьку. Яўген Хвалей прачытаў вершы пра радзіму народнага паэта, стаўбцоўскія наднёманскія мясціны. Марыя Міцкевіч расказала пра "Каласавіны", якія праходзілі ў Літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа ў Мінску.

Наступны год для люсінцаў — юбілейны ў шырокім сэнсе. Акрамя 130-годдзя з дня нараджэння народнага песняра тут будуць адзначаць 110-годдзе з часу настаўніцтва будучага класіка беларускай літаратуры і 30-годдзе літаратурна-этнаграфічнага музея Якуба Коласа. Таму з боку гасцей была вынесена прапанова, каб Люсінская сярэдняя школа насіла імя Якуба Коласа.

**Алесь МОХАЎ,**
**Ганцавіцкі раён**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"

**Наместнік галоўнага рэдактара**
**Таццяна Генадзьеўна КУЗНЯЧЭНКАВА**

**Рэдакцыйная калегія:**
Анатоль Акушэвіч, Лілія Ананіч, Алесь Бадак, Дзяніс Барсукоў, Святлана Берасцень, Віктар Гардзей, Уладзімір Гніламёдаў, Вольга Дадзіёмава, Уладзімір Дуктаў, Анатоль Казлоў, Алесь Карлюкевіч, Анатоль Крэйдзіч, Віктар Кураш, Алесь Марціновіч, Мікола Станкевіч, Мікалай Чаргінец, Іван Чарота, Іван Штэйнер

**Юрыдычны адрас:**
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п.4а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-84-61
наместнік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by

Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 1800 рублёў
Наклад — 2826
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 1.12.2011 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 5749
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12